Сяргей Чыгрын

# НА РАДЗІМЕ
## Ігната Дварчаніна
### З краязнаўчых вандровак па Дзятлаўшчыне

Мінск, «Кнігазбор», 2016

УДК 821.161.3.09+929 Швед
ББК 83.3(4Беи)
Ч11

**Чыгрын, С.**
Ч11 На радзіме Ігната Дварчаніна : з краязнаўчых вандровак па Дзятлаўшчыне / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 140 с.
ISBN 978-985-7144-45-7.

Кніга Сяргея Чыгрына прысвечана Дзятлаўшчыне, яе знакамітым людзям, помнікам і мясцінам. Артыкулы напісаны падчас гісторыка-краязнаўчых вандровак і незабыўных сустрэч на дзятлаўскай зямлі.

У кнізе выкарыстаны фотаздымкі з фондаў Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея і з асабістага архіва аўтара.

**УДК 821.161.3.09+929 Швед**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7144-45-7**



# Слова пра Ігната Дварчаніна



*Ігнат Дварчанін*

Даўно не быў у вёсцы Погіры на Дзятлаўшчыне — радзіме вядомага дзеяча беларускага нацыянальнага руху, педагога, вучонага, паэта, перакладчыка Ігната Дварчаніна (1895–1937). Таму вясной 2016 года вырашыў наведаць радзіму Ігната Дварчаніна, дзе ён нарадзіўся, дзе прайшло яго маленства.

Жыхары Дзятлаўшчыны памятаюць і ўшаноўваюць памяць пра свайго земляка. У цэнтры Дзятлава стаіць помнік Ігнату Дварчаніну. У вёсцы Погіры, дзе нарадзіўся слынны дзятлаўчанін, ёсць вуліца Дварчаніна. Праўда, на тым месцы, дзе стаяла хата сям'і Дварчанінаў, стаіць іншы дом. Але на ім прымацавана мемарыяльная шыльда, якая паведамляе аб тым, што на гэтым месцы стаяла некалі хата, дзе нарадзіўся і жыў Ігнат Дварчанін. І на рускай мове напісана, што вуліца ў Погірах носіць імя Ігната Дварчаніна. Сёння ў вясковым доме жыве Надзея Лукашык. Яна шчыра сустрэла мяне, і я распавёў вясковай жанчыне, хто такі быў чалавек, які нарадзіўся на тым месцы, на якім сёння стаіць іх хата. «Дзякуй вам за цікавы аповед, — сказала жанчына, — я добра малюю, таму мы з сынам у бліжэйшы час перапішам шыльду на беларускую мову, а магчыма каля дома паставім камень і прымацуем да яго новую шыльду, якая будзе паведамляць аб тым, што тут стаяла хата Дварчанінаў». А яшчэ Надзея Лукашык сказала, што ад хаты Ігната Дварчаніна застаўся толькі склеп. «Такога склепа не мае ніхто, у ім круглы год



*Ігнат Дварчанін (трэці злева) сярод беларусаў Латвіі, пачатак 1920-х гадоў*

адна тэмпература. Там можна зберагаць усе прадукты, і ніколі яны не сапсуюцца», — прызналася жанчына.

Побач з Погірамі знаходзіцца вёска Жукоўшчына. У вёсцы працуе найвыдатнейшая сельская бібліятэка, якую давялося бачыць. Яе загадчыца Людміла Цюленіна зрабіла невялікую экскурсію па бібліятэцы, а таксама паказала літаратурны пакой у бібліятэцы «Знакамітыя людзі зямлі Жукоўшчынскай». У гэтым пакоі наладжана і выстава, прысвечаная жыццю і творчасці Ігната Дварчаніна.

Вяртаючыся з Погіраў, яшчэ раз заехаў у Дзятлава. Спыніўся каля былога палаца Радзівілаў. На яго сценах размешчана мемарыяльная дошка: «Тут у настаўніцкай семінарыі з 1909 па 1912 год вучыўся наш зямляк І. С. Дварчанін, вядомы дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, доктар філасофіі».

Ігнат Дварчанін нарадзіўся 27 мая 1895 года ў вёсцы Погіры Слонімскага павета, цяпер гэта Дзятлаўскі раён. Нарадзіўся ён у шматдзетнай беларускай сялянскай сям'і, у якой было 11 братоў і сясцёр. Дзякуючы выпадковым акалічнасцям ён скончыў у Дзятлаве пачатковую школу. Потым юнак паступіў у Дзятлаўскую царкоўна-настаўніцкую школу, у якой курс навучання працягваўся тры гады. Пасля здаў экзамен на званне народнага настаўніка і некалькі гадоў настаўнічаў у вёсцы Хмяльніца на Слонімшчыне. Але, як сцвярджае гісторык Вячаслаў Швед (На зямлі Дзятлаўскай, Гродна, 1998. С. 50), у Хмяльніцы ў гэтыя гады настаўнікам працаваў Ілья Іванюк, пра гэта паведамляюць «Памятные книжки Гродненской губернии» за 1911 і 1913 гады. А Ігната Дварчаніна прозвішча не згадваецца. Магчыма, ён настаўнічаў у іншых школах Слонімшчыны.






*«Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры» Ігната Дварчаніна з аўтографам Уладыславу Чаржынскаму*

У 1915 годзе Ігната Дварчаніна забіраюць у войска, а пасля накіроўваюць у школу прапаршчыкаў. Калі адбылася лютаўская рэвалюцыя ў Расіі, Ігнат Дварчанін трапляе ў Маскву, дзе ўладкоўваецца ў Беларускі нацыянальны камісарыят. Ён прымае актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні 21–23 ліпеня 1918 года ў Маскве нарады настаўнікаў школ Беларусі. Акрамя дэлегатаў-настаўнікаў прыйшлі і прадстаўнікі ўсерасійскіх настаўніцкіх курсаў, слухачы Беларускага народнага ўніверсітэта, настаўнікі — дэлегаты Усерасійскага з'езда бежанцаў з Беларусі. На нарадзе настаўнікаў школ Беларусі наш зямляк убачыў і будучага міністра асветы БССР Платона Саевіча, настаўніка Аляксандра Куляшова — бацьку паэта Аркадзя Куляшова, этнографа і фальклярыста Ісака Сербава і іншых асоб. Як паведамляла газета «Дзянніца» (1918, 28 жніўня, № 27), Ігнат Дварчанін выступіў на нарадзе з дакладам пра задачы школьнай справы на Беларусі, падкрэсліўшы пры гэтым, што неабходна вывучаць беларускую мову, літаратуру, наогул беларусазнаўства, каб «народ беларускі



*Помнік Ігнату Дварчаніну ў Дзятлаве*

пазнаў самога сябе і лічыў сябе не ніжшым пасярод другіх, а чуў сябе як роўны з роўнымі».

Пад псеўданімам Гудок Ігнат Дварчанін змясціў у «Дзянніцы» і свае вершы «Думка» і «Гудок». У вершы «Гудок» паэт заклікаў братоў да бойкі, каб на катаў не працаваць, а адважна ісці «да бойкі з ворагам».

У канцы ліпеня 1918 года Ігнат Дварчанін атрымаў пасведчанне аб камандзіроўцы ў Оршу. Ён шчаслівы вяртаецца на Бацькаўшчыну. А вясной 1919 года прыязджае на Дзятлаўшчыну да маці.

На радзіме ў вёсцы Пецюкі грамадскі актывіст заснаваў беларускую школу, а ў Дзятлаве — культурна-асветны гурток. Але будаваць новае жыццё на радзіме не атрымалася, бо ў 1920 годзе на Дзятлаўшчыну прыходзіць польская ўлада. На беларускіх патрыётаў хутка навальваюцца незлічоныя рэпрэсіі і пастаянныя праследаванні. І малады настаўнік нечакана аказваецца ў Беластоцкім канцэнтрацыйным лагеры.

Пасля выхаду на волю ён едзе ў Вільню. Там здае экстэрнам экзамены на атэстат сталасці ў Віленскай беларускай гімназіі і як адзін з найлепшых і здольных вучняў, атрымлівае магчымасць працягваць адукацыю ў Пражскім універсітэце. У 1920-я гады чэшскі ўрад штогод вылучаў некалькі дзясяткаў месц у Карлавым універсітэце для выхадцаў з Заходняй Беларусі, каб аказаць беларускаму народу дапамогу ў падрыхтоўцы кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі. З восені 1921 года Ігнат Дварчанін вучыцца ў Празе.

На чужыне здольны беларус пасябраваў з групай беларускіх паэтаў, сярод якіх асаблівае месца займаў Уладзімір Жылка. У Празе тады існавала аб'яднанне беларускіх прагрэсіўных студэнтаў. Яго старшынёй быў абраны Ігнат Дварчанін. Аб'яднанне выдавала рукапісны часопіс «Перавясла». У ім друкаваў свае вершы і наш зямляк. Адначасова ён вёў і навуковую працу ў галіне гісторыі бе-






*Куток, прысвечаны Ігнату Дварчаніну ў Жукоўшчынскай сельскай бібліятэцы Дзятлаўскага раёна*

ларускай літаратуры XX стагоддзя, а таксама даследаваў дзейнасць і светапогляд асветніка і першадрукара Францыска Скарыны. Пазней гэтыя даследаванні лягуць у аснову яго доктарскай дысертацыі «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай глебе».

У 1925 годзе ў Празе пабываў Браніслаў Тарашкевіч. Ён выступіў перад беларускімі студэнтамі, расказаў пра палітычнае становішча ў Заходняй Беларусі. Дварчанін блізка сыходзіцца з Тарашкевічам, даведваецца ад яго, што ў Беларускім пасольскім клубе наспявае раскол, у выніку якога павінна ўзнікнуць рэвалюцыйна-дэмакратычная фракцыя пад назвай Сялянска-работніцкая грамада. Браніслаў Тарашкевіч тады сказаў, што вельмі пажадана, каб ён, Дварчанін, хутчэй вяртаўся ў Вільню і ўключыўся ў грамадаўскі рух. Да просьбы Тарашкевіча Ігнат Дварчанін прыслухаўся, і ў 1926



*Шыльда на адной з хат у вёсцы Погіры Дзятлаўскага раёна*

годзе доктар філасофіі быў ужо ў Вільні. Ён адразу акунуўся ў палітычную і педагагічную работу: выконваў адказныя даручэнні Цэнтральнага сакратарыята Грамады, уваходзіў у Галоўную ўправу ТБШ, выкладаў беларускую літаратуру ў Віленскай беларускай гімназіі і друкаваўся ў беларускай прэсе. Пра Ігната Дварчаніна я шмат пытаўся ў слонімскага паэта Анатоля Іверса (Іван Міско, 1912–1999), занатоўваў яго ўспаміны, рабіў з ім гутаркі для друку. Вось як апісваў Анатоль Іверс Ігната Дварчаніна ў 1988 годзе: « Вялікі ўплыў зрабіў на мяне гэты выдатны чалавек, грамадскі дзеяч і літаратар. А было гэта ў 1926 годзе. Вільня тады здавалася казачным горадам: там працавала беларуская гімназія, выдаваліся беларускія кніжкі, выходзілі беларускія газеты і часопісы. Даволі падрыхтаваным чатырнаццацігадовым хлопцам я і паступіў у трэці клас Віленскай беларускай гімназіі, што адпавядала пятаму класу цяперашняй сярэдняй школы. Выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў гэтай гімназіі быў Ігнат Сымонавіч Дварчанін. Там і адбылося наша знаёмства. Адразу хачу сказаць, што Ігнат Сымонавіч карыстаўся найбольшым аўтарытэтам у вучняў, а самымі любімымі прадметамі былі беларуская мова і літаратура. Яго ўрокі праходзілі заўсёды лёгка і цікава. Настаўнік не стараўся прытрымлівацца рамак падручніка, расказваў шырэй, прыводзіў шмат цікавых прыкладаў з літаратуры і жыцця пісьменнікаў. Я не помню, каб ён калі зазлаваў або каго пакараў. Усе вучні выдатна ведалі тое, аб чым гаварылася ў класе і што задавалася на дом. Амаль у кожнага настаўніка была мянушка, толькі ніякая мянушка не прыставала да Ігната Сымонавіча. Ён любіў і разумеў дзяцей, не патрабаваў сляпога паслушэнства. І таму дысцыпліна ў класе была не палачная, а вясёлая, я б сказаў — дэмакратычная. Дзяжурствы выконваліся акуратна, усе адчувалі сябе свабодна. Памятаю і яго апошні ўрок. На яго Ігнат Сымонавіч, як і заўсёды, з'явіўся бадзёры, з



прыветлівай усмешкай. Але ў гэтай усмешцы праглядалася нешта новае, усхваляванае. Урок набліжаўся да канца. Настаўнік прайшоў між партаў, падышоў да стала, запытаў: "А ці ведаеце, сябры, што гэта мой апошні ўрок? Я прыйшоў развітацца з вамі. Мяне чакае вялікая грамадская работа ў сейме". Гэтыя словы ашаламілі нас. Спачатку запанавала нейкая цішыня. А потым пачулася ўсхліпванне дзяўчат. Хлопцы — таму яны і хлопцы — не плакалі, а калі ў каго і скацілася слязіна, то ніхто яе не бачыў, бо галовы нізка апусціліся над партамі. "Не плачце, — папрасіў настаўнік, — мы яшчэ не раз убачымся, я буду прыходзіць у гімназію, заглядваць у інтэрнат..."» (газета «Перамога» (Дзятлава), 1988, 20 верасня).

Зямляк-аднавяскоўец Анатоля Іверса Якуб Міско (1911–1981) у сваёй кнізе «Маё маўклівае сэрца» (Мінск, 1983. С. 448–449) пра свайго настаўніка згадвае так: «Мы, вучні, неяк адразу адчулі прыхільнасць да гэтага чалавека. Ён не проста выкладаў нам беларускую літаратуру, а стараўся, каб мы і разумелі яе, і любілі. Успамінаецца, як аднойчы ў сёмым класе разбіралася паэма "Сымон-музыка". Вучні гаварылі пра змест твора, пра яго ідэю, характарызавалі галоўных герояў. Дварчанін уважліва слухаў, а пасля падвёў вынікі. Усё гэта добра, хлопцы, гаварыў ён. Я бачу, што вы нядрэнна засвоілі ўрок. Толькі, мне здаецца, "Сымона-музыку" трэба і разумець, і сэрцам адчуваць. Гэта жамчужына нашай літаратуры. Тут кожны радок як быццам бруіцца, струменіць. Вы толькі паслухайце:

Восень ткала ўжо красёнцы
Мяккай чырвані ў лістах,
Восень спеў вяла бясконцы,
З ветрам ходзячы ў кустах;
Восень ткала кужаль тонкі —
Павуціння белы лён,
Восень шэрыя заслонкі
Моўчкі клала на адхон.

— Адчуваеце? — пытаўся Дварчанін. — Колькі тут любасці, замілавання да нашай прыроды, да восені, да нашай зямлі.

Мне здаецца, што вось так кожны яго ўрок станавіўся ўрокам любові да літаратуры, да свайго народа, урокам добрых чалавечых пачуццяў.

У 1928 годзе напрадвесні ў нас быў наладжаны вечар вучнёўскай самадзейнасці. Звычайны вечар — са спевамі, дэкламацыяй вершаў, з духавым аркестрам і танцамі. Усё ішло як мае быць, калі раптам на сцэну падняўся настаўнік гісторыі Польшчы С. Віслоух і сказаў, што ён прапануе вечар спыніць, бо тут, маўляў, чытаюцца бальшавіцкія вершы. Тады Дварчанін сказаў, што як выкладчык беларускай літаратуры катэгарычна адхіляе абвінавачванне Віслоуха. Усе вершы, якія чытаюцца тут, надрукаваны ў Вільні, а значыць, уладамі дазволены. Які ж тут бальшавізм? Можа, яны пану Віслоуху не прыйшліся даспадобы таму, што напісаны на беларускай мове і не хваляць парадкаў, якія зараз пануюць у Заходняй Беларусі?..

З таго часу ў гімназіі пачалося лютае цкаванне Дварчаніна. Яму стараліся наклейваць розныя ярлыкі: і што яго прыслаў з Прагі Камінтэрн, і што на ўроках ён падбухторвае вучняў на антыдзяржаўныя выступленні, і што выкладаючы беларускую літаратуру, адыходзіць ад праграмы, прапагандуе савецкія творы. Ды ўсё гэта не давала вынікаў. Аўтарытэт Ігната Дварчаніна быў вельмі высокі».

У 1927 годзе Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні выпускае падручнік Ігната Дварчаніна «Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры (ад 1905 года). Для старэйшых класаў беларускіх сярэдніх школ». Для зручнасці карыстання выпушчаны былі пяць асобных частак-кніжак і адно цэласнае выданне аб'ёмам 498 старонак. Складальнік, як піша прафесар Аляксей Пяткевіч, імкнуўся ахапіць беларускую літаратуру згаданага перыяду дастаткова поўна, выходзячы і за яго рамкі, каб пераканаўча паказаць творчасць пісьменнікаў гэтага перыяду, прадставіць яе разнабакова. У хрэстаматыі прыводзяцца сотні твораў 33-х аўтараў. Прычым не толькі вядомых, прызнаных ужо тады майстроў слова, але і менш значных, чыя творчасць усё ж узбагачала ўяўленне пра родную старонку… Заслуга Дварчаніна — складальніка хрэстаматыі тым больш прыкметная, што ў яго, па сутнасці, не было папярэднікаў



у працы на гэтым матэрыяле. Ён ішоў тут першым (На зямлі Дзятлаўскай. Гродна, 1998. С. 63).

У 1928 годзе Ігнат Дварчанін балатуецца па 61-й Навагрдскай выбарчай акрузе. І ён перамагае. Паслы Ігнат Дварчанін, Язэп Гаўрылік, Павел Крынчык, Флягонт Валынец, Іван Грэцкі ствараюць у польскім сейме самастойную фракцыю — беларускі пасольскі клуб «Змаганне». Дварчанін становіцца намеснікам старшыні фракцыі. Стварыўшы вясной 1929 года амаль ва ўсіх паветах мясцовыя сакратарыяты, «Змаганне» стала ўплывовай палітычнай арганізацыяй працоўных Заходняй Беларусі. Яно змагалася за дасягненне тых самых мэт, што і Грамада. Умела выкарыстоўваў Ігнат Дварчанін і трыбуну сейма. Ён рашуча выкрываў антынародную палітыку санацыйнага ўрада пілсудчыкаў, сістэму сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, выступаў у абарону палітычных вязняў. Пасол часта ездзіў па гарадах і вёсках, выступаў на мітынгах і сходах, заклікаў народныя масы да барацьбы.

Шмат гадоў я перапісваўся з дзятлаўскім паэтам, які жыў у Сарнах на Украіне, Васілём Струменем (Аляксандрам Лебедзем, 1914–1992). Аднойчы ў яго запытаў і пра Ігната Дварчаніна. У адным з пісем Аляксандр Мікалаевіч напісаў: «Ігната Дварчаніна я бачыў яшчэ будучы школьнікам. І досыць часта слухаў мудрыя гутаркі гэтага чалавека з сялянамі нашай вёскі Зачэпічы на Дзятлаўшчыне. Прычынай частага наведвання Дварчанінам нашай вёскі ў 1920-х гадах было тое, што яго родная сястра Юлія Сымонаўна выйшла замуж у Зачэпічы за вельмі здольнага і папулярнага амаль на ўсе валасці Лідчыны, Дзятлаўшчыны, Слонімшчыны і Навагрдчыны краўца Аляксандра Місарэвіча. Хадзіць да сястры Ігнату Сымонавічу было блізка — усяго шэсць кіламетраў са сваёй вёскі Погіры. Ды і вялікае жаданне нашых сялян паслухаць яго, мабыць, таксама заахвочвала выдатнага грамадскага дзеяча прыходзіць сюды.

Запомнілася мне першая чутка, што прабегла па вёсцы. Суседка казала маёй маці: "Ці чула ты, Кацярына, што наш кравец Аляксандр Місарэвіч будзе жаніцца. Пасватаў, кажуць, дзяўчыну з вёскі Погіры. Ёсць у яе тры браты: Ігнат, Гілярый і Мікалай.

Расказваюць, што Ігнат і Гілярый вельмі вучоныя, асабліва старэйшы Ігнат. Вучыліся яны недзе за граніцай, у нейкай Чэхіі".

Да Місарэвічаў мне даводзілася часта хадзіць, бо сябраваў з краўцовым пляменнікам Мікалаем, які быў маім равеснікам. Цяпер жа стала яшчэ больш карцець пабегчы да іх. Бо тое, аб чым даведаўся пра братоў будучай жонкі краўца Місарэвіча, стала надта цікавіць. Нават і раней наш аўтарытэтны майстар кравецкай справы карыстаўся агульнай павагай і вядомасцю сярод усяго наваколля. А інтарэс пабачыць і пачуць вучонага чалавека яшчэ лепш распаліў маю душу.

Нарэшце прыйшоў дзень вяселля. Спраўлялі яго спачатку ў маладой у вёсцы Погіры. А потым гулялі ў нашых Зачэпічах. Прывезлі маладую з пасагам. Прыехала шмат гасцей, у тым ліку і яе браты Дварчаніны. Мы, падлеткі, былі вельмі цікаўныя. Тады я і ўбачыў першы раз вучоных братоў маладой. Яны ўсе трое сядзелі побач з маладой на пачэсных месцах — за першым сталом, сярод вясельных дружкоў і дружак.

Потым не раз даводзілася бачыць у Зачэпічах Ігната Сымонавіча, калі ён наведваўся сюды пагасціць у сястры і швагра. Яго братоў Гілярыя і Мікалая пазней бачыў выпадкова толькі два разы ў Погірах.

Кожны раз я з захапленнем слухаў Ігната Сымонавіча, бо вёў ён цікавую гутарку з сялянамі. Хаця тады яшчэ шмат чаго не разумеў, але ўсё-такі кеміў, што гаварыў ён з імі: пра народнае гора, пра тое, як трэба змагацца супраць тых, хто здзекаваўся з бедных людзей. Помню таксама, што ён расказваў пра падзеі ў Кітаі, дзе працоўныя масы змагаліся супраць сваіх і чужых эксплуататараў. Калі ў Зачэпічы наведваўся Ігнат Дварчанін, той дзеньператвараўся для нашых жыхароў у нейкае свята, а заадно — у палітасветны агульны сход».

Польская паліцыя ніяк не змагла змірыцца з дзейнасцю «Змагання». У студзені 1930 года яна арыштавала ўсіх супрацоўнікаў Цэнтральнага сакратарыята, а ў жніўні — і «недатыкальных» паслоў. Быў арыштаваны і Ігнат Дварчанін. Яго асудзілі на 8 гадоў турмы. У гэты цяжкі для вучонага і палітыка час ярка праявіліся яго якасці змагара: мужнасць, непахісная воля і цвёрды характар.



Калі аднойчы ў віленскай турме на Стафанаўскай вуліцы да яго ў камеру зайшоў пракурор і, відаць, жадаючы схіліць яго да здрады, прапанаваў яму як вучонаму і былому паслу найбольш спрыяльныя ўмовы, Ігнат Дварчанін коратка і пагардліва сказаў: «Ласкі панскай не трэба».

15 верасня 1932 года адбыўся абмен палітзняволеных. У ліку сарака шаснаццатым у спісе значыўся Ігнат Дварчанін. На мяжы, а потым і ў Мінску ўсіх сустракалі з вялікай пашанай. У хуткім часе беларусу-заходніку прапанавалі добрую працу ў Камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі БелАН, а таксама выконваць абавязкі дырэктара Інстытута мовазнаўства. Але гэты шчаслівы час працягваўся нядоўга. 16 жніўня 1933 года наш зямляк быў арыштаваны ДПУ БССР. Яму і іншым дзеячам-адраджэнцам выстаўлялася адно абвінавачванне: «За кантакты з нацыянал-дэмакратычным цэнтрам на карысць Польшчы».

Паводле пастановы судовай калегіі ДПУ БССР 9 студзеня 1934 года Ігнат Дварчанін быў прыгавораны да расстрэлу, але хутка гэты прысуд замянілі зняволеннем у лагерах тэрмінам на 10 гадоў.

Спачатку яго накіравалі на Салаўкі, а потым на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала. Паводле пастановы «тройкі» НКУС па Ленінградскай вобласці ад 25 лістапада 1937 года Ігнат Дварчанін усё ж быў прыгавораны да расстрэлу. І 8 снежня 1937 года яго расстралялі…

Падчас адкрыцця ў цэнтры Дзятлава помніка Ігнату Дварчаніну ў кастрычніку 1989 года народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль сказаў: «Народ стварае сваіх герояў, і яны назаўсёды застаюцца ў яго памяці. Такім героем быў і застаўся Ігнат Дварчанін. Можам толькі павіншаваць нашу цудоўную Дзятлаўшчыну, што тут будзе ўзвышацца помнік Ігнату Дварчаніну. Зроблена вялікая справа».

*2016*

## Малавядомыя вершы Ігната Дварчаніна

Ігнат Дварчанін пачаў друкавацца з 1917 года. Тады быў апублікаваны яго першы верш «Да беларусаў-інтэлігентаў» у «Беларускай радзе» і верш «Покліч» у «Вольнай Беларусі». Вершы паэта змяшчаліся таксама ў газеце «Дзянніца», часопісах «Родныя гоні», «Маланка», «Наш шлях», «Маладое жыццё», «Беларуская школа ў Латвіі» і ў іншых. Яго творы гэтага перыяду былі прысвечаны барацьбе за адраджэнне беларускай культуры, узняцце яе на больш якасны ўзровень, усведамленне беларускім народам сваёй гістарычнай і палітычнай значнасці, роўнасці з іншымі народамі.

Падчас вучобы ў Пражскім універсітэце змяшчаў вершы рэвалюцыйна-рамантычнай накіраванасці ў студэнцкіх выданнях «Прамень», «Студэнцкая думка», «Перавясла».

Асобныя вершы Ігната Дварчаніна друкаваліся ў беластоцкім «Беларускім календары», у часопісе «Беларусь», у зборніку «Ростані волі» (Мінск, 1990), які склаў Уладзімір Калеснік, і ў іншых выданнях.

У 1995 годзе ў Гродне выйшла з друку кніга «І. С. Дварчанін. Гісторыка-біяграфічны нарыс», над якой парупіліся Яўген Місарэвіч і Мікалай Каралёў. Гэта выданне складаецца з чатырох раздзелаў. У адзін з іх увайшлі вершы Ігната Дварчаніна і пераклад паэмы «Дванаццаць» Аляксандра Блока на беларускую мову. Усяго было апублікавана 22 вершы Ігната Дварчаніна. Адзін з іх — «З чужой стараны» — апублікаваны толькі ў скарочаным варыянце — дзве страфы. Гэтыя надрукаваныя вершы — далёка не ўся паэтычная спадчына заходнебеларускага паэта. Дзясяткі вершаў Ігната Дварчаніна раскіданы па многіх беларускіх выданнях 1920-х гадоў. Яны чакаюць асобнага выдання.

Некалькі малавядомых вершаў Ігната Дварчаніна я вырашыў уключыць у сваю кнігу. Яны пасля смерці паэта ніколі не друкаваліся. А напісаныя былі напачатку 1920-х гадоў.



*Ігнат Дварчанін*

### З чужой стараны

О Беларусь, о край мой мілы,
Старонка родная мая.
Тут расказаць не маю сілы,
Што адчуваю ў сэрцы я.
Цябе я бачу ў бляску сонца,
У срэбных пацерках расы,
Што красяць ўсё ў табе бясконца —
І луг, і поле, і лясы.
Цябе, убраную у шаты,
Ў зялёны, свежы, як бы жар,
Пакроў цудоўны і багаты,
Што робіць вобраз поўны чар.
Народ я бачу веры поўны,
Няволі выжыўшы кашмар.
Усім народам свету вольны
У роднай хаце гаспадар.
Люблю цябе, о край мой родны!
За што? Сказаць бы я не мог...
Што мушу мо, як пёс нягодны
Туляцца па чужых кутох.
А можа быць, сваю нядолю
Ў тваім я твары палюбіў,
Сваю аддаўшы ветру волю,
Сабе чужую налажыў.
Што мне там месца не знайшлося,
Паміж улюбленых сяліб,
Дзе гнецца і шуміць калоссе,
Паміж галлістых груш і ліп,
Што, з дому выгнаны злым рокам,
Табою запаўняюць сны.
Як птушка ў выраі далёкім
Чакаю светлых дзён вясны.

## Прывет

Прывет вам з залатое Прагі
Пад гоман светлае вясны,
Што паднялі штандар адвагі
Між бруду, здзеку і маны.
Балююць хай ўчарашнія героі
І стогне хай прыгнечаны народ,
Хай злыдні цешацца ва ўпоі —
Ды хай уступяць свой чарод.
Штандар дзяржыце горда, смела
І верце — праўда пабядзіць.
На правае, святое дзела
Хай сэрца ў страху не дрыжыць.
Вясна! З чароўнаю вясною
Прыйдзе жаданае святло.
І кінем крыўду за сабою,
Як бы яе і не было.

## Вецер

Вее вецер, завывае,
Грае, свішча на прасторы.
Хмары чорныя ганяе,
Ломіць дрэвы, крышыць горы.
І ў мяне на сэрцы бура,
Каб няволі, крык адняла,
Між людзей адзін панура,
Як ачмураны блукала.
Свет вялікі, свет шырокі,
Для мяне на свеце цесна.
Рвусь, імкнуся ў розны бокі —
Духу ж скалы ўсе адвесны.
Вецер буйны, дух адвагі,
Мы так родныя з табою,
Як бяздомныя брадзягі
З цэлым зместам мы у бою.



Не знаходзім мы спакою
У прыгожым людзям свеце,
Ўсё жыццё для нас маною,
Пра нужду мы мусім пеці.
Зробім сполку, брат, з табою,
Двох палецім на прасторы.
Мо распрасцімся з нудою,
Мо разгонім разам гора.

## Мінор

Аб чым пяяць магу?
Дзе тоны падбяру?
О, не звініць струна,
Спакойна ліра спіць.
Там на двары вясны
Жыццё ідзе, жыццё,
А холад на душы,
А сэрца, як бы лёд.
А крыллі дзе мае?
Апалі да зямлі.
Не рвецца сэрца ўвысь,
Маўчыць зусім душа…
Надзея зарасла
Пякучай крапівой.
І свет, як бы не свет,
Жыццё, як не жыццё,
Збаўленне дзе найду?
Няўжо яго няма?
Няўжо патух агонь,
Няўжо зацміўся свет?
Гэй, стой, маўчы душа.
Не муч сябе, не муч, —
Зярняты у зямлі.
І будзе, будзе ўсход,
Надыдзе красны май.

Надыдзе бляску час,
І краскі зацвітуць
На полі дзіўна так.
Прыйдзе, прыйдзе яно,
Прыйдзе, прыйдзе святло.
І струны зазвіняць,
І сэрца запяе.

## Адраджэнне

Касцёр гарыць, агонь палае,
Нясе усюды блеск і свет,
Кругом дружына маладая
Прыймае дзедаўскі завет.
Не дождж ідзе, шапочуць ветры,
Праснулісь полі і лясы,
Дрыжаць, трасуцца багны, ветры,
Страчаюць новыя часы.
Усе, усё ўстае на ногі,
Зганяе прошлае як дым…
Імкнецца, рвецца да дарогі,
Куды? Чаго? На што? За чым?
Агонь шыбае вышай, вышай,
На небе свеціць, як зара.
Ўсё прыцягае, ўсё калыша,
Пара прышла, прышла пара.
І словы дзедаў раздаюцца,
Ўсяляюць моц, пышаць красой.
І слёзы радасці ліюцца
На землю срэбнаю расой.

*Прага, 1 лістапада 1921 г.*



## У тумане

Мы брыдзем ў тумане да адвечнай далі,
Сколькі ужо ззаду, сколькі напярод.
Чэрцім жыццёвыя мудрыя скрыжалі
І падаем, уступаем для другіх чарод.
Там дзесь прамень свету задрыжыць і згасне,
Рукі працягаем, каб яго злавіць.
Але то міражы, як бы сон ці басня, —
Зноў страшная цемра ўвакол стаіць.
А туман суровы косці раз’ядае
І марозіць сэрца й душу ледзяніць.
І краса спадае з шчокаў маладая,
Валімся, каб болей ні аб чым не сніць.
Дзе ж канец імкненняў, чалавецтва мэта,
Дзе збаўлення прыстань, не відна яе —
Схована у далі, ў цемры без прасвета,
Там дзесь у нязнана-незямным краю.
Да якогась пункту ўсё брыдзем ў тумане,
А яго не бачым, схованы за вал.
І балота месім, бродзім на дзірване,
Ідэал шукаем, смешны ідэал.
Вежы адбудуем і глядзім у гору,
Ці не там схаваны дзіўны талісман.
Але сумна страшна ў незямным прасторы:
Увакола цемра, увакол туман.
Хтось незразумелы, ўсемагутны, вечны
Пасадзіў на землю між балот і гор.
І смяецца дзіка, і глядзіць бяспечна,
Як там мітусіцца бедны, жалкі твар.

# Дзятлаўскі Струмень


*Васіль Струмень*

Ёсць на Дзятлаўшчыне вёска Зачэпічы, якую беларускі літаратуразнавец Уладзімір Калеснік шчыра называў «гняздом паэтаў». З гэтага гнязда былі родам заходнебеларускія паэты — Прамень, Граніт і Струмень. Псеўданімам Гарасім Прамень падпісваў свае творы Іван Пышко, Пятрусём Гранітам быў Іван Івашэвіч, а Васілём Струменем стаў у 1930-х гадах Аляксандр Лебедзеў. Праўда, Аляксандр Лебедзеў нарадзіўся ажно ў Кастрамской губерні Расіі. Бацька яго пайшоў на фронт Першай сусветнай вайны і не вярнуўся. Маці, Кацярына Пятроўна, працавала чыгуначніцай. У 1919 годзе яна пазнаёмілася з беларусам Паўлам Івашэвічам, аглядчыкам вагонаў, за якога хутка выйшла замуж. Праз пэўны час сям'я Івашэвічаў пераехала ў вёску Зачэпічы на Дзятлаўшчыну.

Васіль Струмень пачаў вучыцца ў пачатковай школе, а потым прыватна ў загадчыцы школы Кучынскай. У 1928 хлопчык атрымаў пасведчанне аб заканчэнні Зачэпіцкай сямігадовай школы. Тады Зачэпічы, як і ўсе іншыя вёскі Заходняй Беларусі, жылі пад уплывам нацыянальна-вызваленчага руху, у які ўключыўся і Аляксандр Лебедзеў (Васіль Струмень). Першыя здзекі і допыты ў беліцкім паліцэйскім участку юнак зведаў ужо ў сакавіку 1930 года, за два тыдні да свайго 16-годдзя. А праз год у газеце «Малады камуніст» апублікаваў свой першы верш «Наша доля».

У 1935–1936 гадах юнак з Зачэпічаў працуе на шклозаводзе «Нёман». І там актыўна праводзіць рэвалюцыйную дзейнасць, публікуе антыўрадавыя вершы, удзельнічае ў забастоўках, дзе выступае супраць бяспраўя рабочых і сялян. Нават на вечарынках, калі дзяўчаты збіраліся прасці кудзелю зімовымі вечарамі, не абыходзілася без палітыкі. Васіль Струмень з моладдзю развучваў песні «Ад веку мы спалі», «Варшавянку», «Мы — кавалі» і іншыя.



Пад уплывам актывістаў Таварыства беларускай школы, сялянска-работніцкай Грамады ў вёсках актыўна ставіліся спектаклі па п'есах Янкі Купалы, Францішка Аляхновіча, Леапольда Родзевіча, Міхася Чарота. На спектаклі і канцэрты прыходзілі сотні людзей. За палітычную дзейнасць юнака зноў арыштоўваюць і саджаюць у турмы ў Лідзе, Глыбокім і Вілейцы.

Пасля адбыцця тэрміну Васіль Струмень спрабуе перайсці польска-савецкую мяжу, але яго затрымліваюць і хутка прымусова здаюць у салдатчыну. Але і там нескароны Струмень праводзіць агітацыю сярод вайскоўцаў. З войска юнака адпраўляюць у Лідскую гарнізонную турму строгага рэжыму…

Але як паэт Васіль Струмень да турмы шмат публікуецца. Вершы маладога паэта з Дзятлаўшчыны друкуюць «Асва», «Наша воля», «Беларуская газета» і іншыя заходнебеларускія выданні. У паэтычных радках аўтар распавядаў пра боль затузанага ўладамі беларуса, яго імкненні да лепшага жыцця. Няшчасная доля простага чалавека была бачна і з верша Васіля Струменя «Беспрацоўны». Верш шмат дзе друкаваўся і перадрукоўваўся. Апублікаваў яго і Уладзімір Калеснік у зборніках «Сцягі і паходні» (Мінск, 1965) і «Ростані волі» (Мінск, 1990). Пачынаўся ён радкамі, якія паказваюць вобраз беларуса-беспрацоўнага, шукальніка лепшай долі:

Шкандыбае з кіем ў сцюжы і марозы,
Вопратку благую іней серабрыць,
З вачэй люты сівер выціскае слёзы,
Стынуць ногі ў трэпах, але ён спяшыць…

У канцы 1938 года сям'я Васіля Струменя пераехала на Ровеншчыну (Украіна). Там ён сустрэў уз'яднанне Заходняй Украіны з УССР і Заходняй Беларусі і з БССР. На Украіне вывучыў украінскую мову, працаваў настаўнікам у пачатковых школах. А калі пачалася Другая сусветная вайна, пайшоў на фронт. Пасля дэмабілізацыі ў 1945–1948 гадах працаваў настаўнікам украінскай мовы на Ровеншчыне. Завочна скончыў Ровенскі настаўніцкі і Львоўскі педагагічны інстытуты. Жыў у горадзе Сарны, дзе працаваў і настаўнікам, і дырэктарам школы, і журналістам.

У канцы 1980-х гадоў я, шукаючы звесткі пра літаратараў Заходняй Беларусі, завочна пазнаёміўся з Васілём Струменем (Аляксандрам Лебедзем). Некалькі гадоў мы перапісваліся. Сёння вырашыў перачытаць ягоныя лісты. У адным з іх ён піша: «У асноўным пра сваіх саратнікаў-пісьменнікаў у 1930-я гады мы ведалі праз газеты і часопісы, у якіх друкаваліся нашы творы. А сустрэцца даводзілася толькі ў вельмі рэдкіх выпадках на акруговых падпольных форумах, дзе мы прадстаўляліся толькі па партыйных псеўданімах. Толькі Ігната Дварчаніна мне ўдалося шмат разоў бачыць, калі я быў яшчэ падлеткам, і слухаць яго прамовы, а таксама размовы з сялянамі нашай вёскі Зачэпічы. З Піліпам Пестраком, Міхасём Васільком і Максімам Танкам сустракаўся таксама толькі выпадкова без канкрэтных дзелавых кантактаў, дзе нават не казалі мы адзін аднаму сваіх падпольных псеўданімаў, бо гэта была канспірацыя сугуба сакрэтная».

Штогод Васіль Струмень з Сарнаў стараўся прыязджаць на родную Гродзеншчыну. Спачатку ён ехаў у Зачэпічы, потым наведваў сяброў і знаёмых у Дзятлаве, Лідзе, Гродне, Мінску. Калі заходзіў у рэдакцыі газет і часопісаў, то заўсёды пакідаў там вязанкі новых сваіх вершаў ці ўспаміны аб перажытым у Заходняй Беларусі і на вайне. Былы рэдактар лідскай раённай газеты Аляксандр Жалкоўскі (1933–2011) часта пры сустрэчах, калі я ў яго пытаўся, любіў распавядаць пра Васіля Струменя. «Будучы ўжо ў сталым узросце, Васіль Струмень часта наведваў Лідчыну, Дзятлава, Мінск. Адразу ж з чыгуначнага вакзала Ліды шпарка ішоў у рэдакцыю мясцовай газеты “Уперад”, — прыгадваў Аляксандр Васільевіч Жалкоўскі. — Кожнага супрацоўніка, творчага і тэхнічнага, лічыў тут сваім прыяцелем. Даведаецца аб нашым жыцці-быцці, потым распытвае пра сваіх сяброў яшчэ даваеннага часу. У іх ліку часта называў Вікенція Салыгу з Феліксава — колішняга актывіста Беларускай сялянска-работніцкай грамады і Таварыства беларускай школы, Івана Івашэвіча (Пятруся Граніта) — вернага паплечніка з Зачэпічаў, актывіста КПЗБ Ісака Карабельніка з Ліды, Васіля Камянеўскага (Міхася Ліста) з Краснай і многіх іншых сяброў. І тут жа мяркуе, як і дзе з імі сустрэцца. З цеплынёй успамінаю сустрэчы з прыстойным і добразычлівым чалавекам: у рэдакцыі газеты “Уперад”, у маёй лідскай кватэры, на адкрыцці ў Дзятлаве помніка Ігнату Дварчаніну, пра якога так узнёсла расказваў Аляксандр Мікалаевіч у таварыскіх гутарках і апублікаваных успамінах. У час кожнага прыезду ў Ліду Васіль Струмень заўжды запрашаў мясцовых журналістаў наведацца да яго ў Сарны. Першы раз я адправіўся туды разам з таварышам па рабоце паэтам Пятром Макарэвічам у сувязі з 70-годдзем пісьменніка. Ён нас частаваў і паказваў Сарны…».



Сапраўды, Васіль Струмень, калі прыязджаў на Бацькаўшчыну, любіў распытваць пра знаёмых журналістаў і паэтаў, то сам распавядаў цікавыя выпадкі з жыцця, то дэкламаваў свае вершы, то спяваў беларускія і ўкраінскія народныя песні. У яго да апошніх дзён жыцця (памёр 25 кастрычніка 1992 года) было шмат энергіі, дабра, сілы, імпэту. Яго вершы на беларускай і ўкраінскай мовах, якія друкаваліся пры жыцці, раскіданы па розных выданнях Беларусі і Украіны. Даўно іх разам трэба сабраць пад адну вокладку і выдаць асобным зборнічакам. У гэты зборнічак варта ўключыць і пісьмы Васіля Струменя да сваіх беларускіх сяброў і землякоў, а таксама ўспаміны пра 1920–1930-я гады «Шляхам барацьбы», якія публікаваліся ў дзятлаўскай раённай газеце «Перамога» вясной 1989 года.

*2014, красавік*

## Паэт Граніт з вёскі Зачэпічы



*Пятрусь Граніт*

У заходнебеларускага паэта Івана Івашэвіча з вёскі Зачэпічы Дзятлаўскага раёна было два псеўданімы: Пятрусь Граніт і Мацей Гвозд. Часцей ён карыстаўся імем Пятрусь Граніт. Пад гэтым псеўданімам і апублікаваў Іван Івашэвіч свае першыя вершы ў «Беларускай газеце» 10 лістапада 1933 года. Гэта верш «Прывітанне», у якім аўтар шчыра вітаў газету, і верш «Мужыцкая восень». Ён гучаў так:

З палёў даўно сабралі
Збажыну мужыкі,
І па вясковых далях
Цяпер грымяць такі.
З братвы мужыцкай, шэрай
Бязмежна кожны рад,
Што хлеба сціплай мерай
Мо хопіць да Каляд.
Праходзяць дні без мовы,
І толькі вецер дзьме,
Сустрэчны гімн суровай
Складаючы зіме.
Далёка ў небным полі
Крык жураўлёў замоўк,
А над мужыцкай доляй
Завые сёння воўк.

У гэтым самым нумары «Беларускай газеты» ў рубрыцы «Гутарым» напісана, што ў рэдакцыі газеты сабралася «ладная куча Вашых вершаў». Рэдакцыя раіць паэту з Дзятлаўшчыны сур'ёзна працаваць над свамі вершамі, бо «верш — гэта стройная сугучнасць вобразаў і музыкальнасці, гэта адзінства вобразаў і формы».

У 1934 годзе ў часопісе «Літаратурная старонка» (№ 1) Пятрусь Граніт публікуе яшчэ адзін свой верш «Каваль»:

Гэй, каваль, распальвай горын!
Будзем строіць новы плуг.
З лемяшом сталёвым, новым
Пасля пойдзем араць луг.
І работа загудзела,
Чуцён стукат малатка.
Іскра з шумам адляцела —
Будзе плуг для мужыка.
Гне жалеза на кавадлі,
Валіць молатам каваль.
Пот цячэ, а ён заядла



Робіць із жалеза сталь…
Плуг гатоў, бяры яго ты,
Ары дзікі наш дзірван;
І паддай другім ахвоты
Успульхняці свой загон.

Газета «Наша воля» у красавіку 1936 побач з такімі вядомымі ў Заходняй Беларусі паэтамі, як Максім Танк, Міхась Машара, Міхась Васілёк, Анатоль Іверс публікуе і васьмірадкоўе Петруся Граніта пра тагачаснае невясёлае жыццё:

Свет трасецца навакола,
Крызіс косці прабірае.
Нам жывецца невясёла —
Кожны гэта добра знае.
Але прыйдуць дні другія,
Прыйдуць з полымем гарачым, —
І стары падмінаваны
Затрасецца свет іначай.

Летам 1934 года Пятрусь Граніт наладжвае сувязі з рэдакцыяй двухтыднёвіка грамадскага гумару і сатыры «Асва». Ён туды дасылае вершы і смяшынкі. У № 5 «Асва» публікуе яго першую смяшынку «Паміж самагоншчыкамі». А потым у друку з'яўляецца яго сатырычны верш «Хітры асаднік і мужык-здагаднік». Вершы паэта з Дзятлаўшчыны актыўна друкуюцца ў штотыднёвіку «Poprostu», у заходнебеларускіх выданнях «Наша воля», «Беларускім летапісе», «Шлях моладзі» і ў іншых. У некаторых сваіх паэтычных радках паэт хораша апяваў родную прыроду. Яго творы часам былі аптымістычныя па гучанні, яны і сёння лёгка чытаюцца, просяцца на музыку:

Зарою ўсход залоціцца,
Лье чырвань на зямлю;
Пад п'яную разводзіцу
Жыцця дзень новы родзіцца,
І я жыццё люблю!

Іграюць песні звонкія,
Калосячы раллю.
На сонца струны тонкія,
Што звіслі над старонкаю,
Я песні разалью!




Дзясяткі вершаў Петруся Граніта раскіданы па розных беларускіх выданнях, а таксама і па старонках дзятлаўскай раённай газеты «Перамога». Праўда, у 1939 годзе паэт падрыхтаваў свой першы паэтычны зборнік «Над хвалямі Нёмана», але выйсці ён не паспеў — перашкодзіла вайна. І толькі ў 1978 годзе ў Мінску выйшла з друку невялічка кніжачка яго дзіцячых вершаў «Сцяжынка», якую на грамадскіх пачатках адрэдагаваў Алег Лойка. Наклад кніжкі быў вялікі — 50 тысяч асобнікаў.

У зборнічак увайшлі 22 вершы паэта. Гэта вельмі шчырыя, светлыя, пяшчотныя радкі аб прыродзе, аб лясных жыхарах, пра птушак і вёску — пра ўсё тое, што бачыў паэт, з чым і з кім штодня сустракаўся. Гэтыя вершы варта зноў перавыдаць, бо яны вельмі павучальныя, вучаць любіць прыроду, добра займацца ў школе, паважаць старэйшых людзей. А яшчэ — яны імгненна запамінаюцца, некаторыя з іх напісаны з гумарам. Ну, напрыклад, верш «Свінка ў лазню хадзіла…»:

Свінка ў лазню хадзіла
І забылася мыла.
У лужы паляжала.
— Памылася, — сказала.
Як прыйшла яна дахаты,
Не пазналі парасяты.
Аж сама здзівілася:
— Я ж у лазні мылася!..



Іван Івашэвіч нарадзіўся 24 студзеня 1909 года ў вёсцы Зачэпічы на Дзятлаўшчыне. Бацьку забралі на вайну, дамоў ён вярнуўся толькі ў 1922 годзе. Але доўга не пажыў — памёр праз год ад ран. І хлопчык Ваня ў 12 гадоў ужо касіў, хадзіў за плугам.

У 1927 годзе Іван Івашэвіч стаў працаваць брукаром. І працаваў ім аж да верасня 1939 года. Тады ён і напісаў свой незвычайны для Заходняй Беларусі верш «Брукар», у якім паказаў цяжкую працу брукара. Здаецца, у беларускай літаратуры больш не было паэта, які аж 12 гадоў клаў брук і яшчэ паспяваў пісаць добрыя вершы. Вось як гучаў яго верш «Брукар»:

Брукар молатам сталёвым
Звоніць, б’е па камянёх:
Хоча шлях пракласці новы,
Каб не раніць людзям ног.
Утрымае цяжкі молат
Мазалістая далонь.
Размахніся — як той волат,
Высякаючы агонь!
Толькі рэха раздаецца,
Іскры свецяць у вачах.
Камень сцелецца-кладзецца —
Пракладае новы шлях.
Новы шлях прамы і роўны,
Каб не раніць болей ног.
Па ім пойдзе люд працоўны
Да святла і перамог.

Ва ўмовах Заходняй Беларус, Іван Івашэвіч даволі рана далучыўся да падпольнай дзейнасці, наведваў сходы і мітынгі Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Ён некалькі разоў арыштоўваўся ўладамі Польшчы, але працягваў змагацца за светлую долю свайго народа. А ў вершах апісваў нялёгкае жыццё беларусаў і заклікаў іх да лепшага жыцця.

У 1933 годзе Пятрусь Граніт прымаў удзел у Першым нелегальным з’ездзе заходнебеларускіх пісьменнікаў у Вільні. А пасля

ўз’яднання Заходняй Беларусі з БССР паэт працаваў сакратаром выканкама, потым — старшынёй сельсавета.

У 1940 годзе ў Лідзе паэту-брукару пашанцавала сустракацца з Янкам Купалам, які вылучаўся кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. 23 чэрвеня 1964 года Уладзімір Калеснік запісаў з Гранітам гутарку пра тое, як адбывалася сустрэча з песняром беларускай зямлі. «Янка Купала, — успамінаў Граніт, — быў у Лідзе тры дні, жыў у гасцініцы, а абедаў у сталовай, так званай “Амерыканцы”. Мы з Валянцінам Таўлаем і Анатолем Іверсам пайшлі праведаць яго. Купала сустрэў нас ветліва і, пагутарыўшы, запрасіў разам паабедаць. Заказаў нам абед з чатырох блюд з чаркай і півам. Калі мы памкнуліся плаціць — перапыніў нас: “Хлопцы, хлопцы, у мяне, мабыць, больш грошай…”. А потым усім нам даў падарункі: мне дасталася кніжка “Выбраныя паэмы”, асобнае выданне “Над ракой Арэсай”. Янка Купала быў негаваркі. Прачытаеш, помню, яму свой верш, ён паслухае. Пытаеш: “Ну як?”, а ён далікатна гаворыць: “Верш як верш, трэба паправіць”. “А як яго паправіць?” — пытаю. “Хто яго ведае. Спярша трэба некалькі разоў прачытаць, тады можна раіць. Прыязджай у Мінск, там параімся і наконт зборніка”, — казаў паэт. Янка Купала стары ўжо быў у тыя гады, але паказаўся вельмі свойскім чалавекам, як родны. Так што розніца ў гадах не так і адчувалася. Гаварыў з намі сардэчна, шчыра. Падумаць толькі, гэта ж Народны паэт, а гаворыць, як бы быў сам вясковым простым чалавекам» (Уладзімір Калеснік. Лёсам пазнанае. Мінск, 1982. С. 252–253).

У гады Другой сусветнай вайны Іван Івашэвіч быў сувязным партызанскай брыгады «Барацьба» на Гарадзеншчыне, выступаў у партызанскім друку з вершамі. І толькі пасля вайны Іван Івашэвіч завочна скончыў Навагрудскае педвучылішча. У 1945–1971 гадах працаваў настаўнікам і загадчыкам пачатковай школы ў Зачэпічах. І заўсёды пісаў вершы:

Хоць жаль бярэ — прыпомні ўсё —
Душу, як сталь, гартуе.
Хоць здзек зразорыў мне жыццё, —
Свой край люблю я!..



Паэтычныя радкі паэта друкаваліся ў раённым і абласным друку. Нізкі вершаў былі апублікаваны таксама ў зборніках «Сцягі і паходні» (Мінск, 1965) і «Ростані волі» (Мінск, 1990).

Памёр Пятрусь Граніт 14 студзеня 1980 года. Пахаваны ён на могілках у роднай вёсцы Зачэпічы. На старым надмагільным помніку яшчэ можна прачытаць напісаны па-руску тэкст, што там пахаваны Іван Пятровіч Івашэвіч.

*2016*

## Гарасім Прамень



*Гарасім Прамень*

У Жукоўшчынскай сельскай бібліятэцы Дзятлаўскага раёна ёсць цікавы літаратурны пакой «Знакамітыя людзі зямлі Жукоўшчынскай». Ён прысвечаны паэтам-землякам: Петрусю Граніту, Ігнату Дварчаніну, Васілю Струменю і Гарасіму Праменю. Сярод матэрыялаў пра Гарасіма Праменя (Івана Пышко) знайшоў успамін жыхара вёскі Зачэпічы, былога падпольшчыка-камсамольца ў Заходняй Беларусі Фёдара Калодкі. Былы падпольшчык Калодка пакінуў згадку пра забастоўку ў Бярозаўцы Лідскага павета, удзел у якой прымаў і Іван Пышко (паэт Прамень). Фёдар Калодка прыгадваў, як у сакавіку 1936 года пачалася забастоўка на шклозаводзе «Нёман» у Бярозаўцы. Вясковыя хлопцы і дзяўчаты збіралі прадукты харчавання для бастуючых і на падводах адпраўлялі сем’ям бастуючых. Аднойчы на адным з вазоў ехаў у Бярозаўку з вёскі Зачэпічы і Іван Пышко. Калі прыехалі ў мястэчка, пачаўся мітынг, на якім з прадмовай выступіў зацэпіцкі актывіст. Ён запэўніў бастуючых шкларобаў у тым, што сяляне будуць і далей салідарнымі з рабочымі завода ў іх змаганні. У канцы прамовы выступоўца прачытаў верш «Сцяг», які выклікаў такое ўражанне, што рабочыя наладзілі цэлую авацыю.

А забастовачны камітэт вельмі сардэчна падзякаваў Івану Пышко за сялянскую дапамогу.

Не ведаю чаму, але ніхто з даследчыкаў паэзіі Заходняй Беларусі ніколі не надрукаваў вершаў Гарасіма Праменя. Не трапілі вершы і ў зборнікі «Сцягі і паходні» (Мінск, 1965) і «Ростані волі» (Мінск, 1990), якія складаў Уладзімір Калеснік. Згадвалі яго прозвішча толькі ў агульных аглядах. І то Уладзімір Калеснік замест Гарасім Прамень пісаў Герасім Прамень. Усё ж псеўданім у паэта Івана Пышко быў Гарасім Прамень. Падпісваўся пад сваімі творамі ён і так: Прамень Г., Pramien Harasim.

Звестак пра жыццёвы шлях Івана Пышко даволі мала. Нарадзіўся ён у 1908 годзе ў вёсцы Зачэпічы на Дзятлаўшчыне. За Польшчай юнаком далучыўся да барацьбы супраць пілсудчыкаў. Уступіў у рады Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ). Быў сакратаром Зачэпіцкай ячэйкі КПЗБ.

Друкавацца Іван Пышко пачаў у 1933 годзе. Яго першы верш з’явіўся ў газеце «Родны край» (1933, № 13). Ён быў прысвечаны вясковаму кавалю і яго цяжкай працы. Але аднойчы каваль выбіць сякеру, каб ачысціць для беларусаў цемру і здабыць шчасце. Верш так і называўся «Каваль»:

Звон і стукат раздаецца,
Лятуць іскры, валіць дым,
Як пад песню размахнецца
Каваль молатам сваім.
Гэй, каваль! — хлапец вясёлы,
Што куеш ты: плуг ці колы?
Ці мо робіш серп зубчаты,
Што заказвалі дзяўчаты?..
— Не, сялянін мой пахілы,
Памыліўся, браце мілы…
Ці ж не бачыш па размеру —
Гэта ж я раблю сякеру!
Як зраблю яе стальную,
Ў рукі моцныя вазьму я
І пайду у цемры-гушчы



Шлях там новы высякаць —
Беларускаму народу
Шчасце й долю здабываць!

У «Родным краі» (1933, № 14) ад рэдакцыі быў апублікаваны адказ на вершы Гарасіма Праменя: «Сябра Г. Прамень! Усе Вашыя вершы атрыманы намі. З часам мы (паэты) выдамо зборнік, то змесцім там больш Вашых твораў. Пакрысе будзем друкаваць лепшыя. Пішыце. Жадаем поспеху…». Пра які зборнік ішла размова — невядома. Але ж у гэтым самым нумары газета «Родны край» апублікавала і новы верш Праменя аб прыродзе:

Ноч настала. Ў небасхіле
Месяц ясны устае.
І на лес імглой закрыты
Сінясветы свае лье.
Ціха дрэмлюць недзе хвоі,
Ўсё спавіта лёгкім сном.
Месяц лісце дрэў прыстроіў
Блескам сумным — серабром.
І здаецца — безустанку
Я сядзеў бы й назіраў,
Як у небе паміж зорак
Маляр ночы фарбы клаў.
Але заўтра дзень настане,
Поўны працы і клапот, —
Сонца яснае зноў гляне,
Зноў пальюцца песня й пот.

А ў 1936 годзе газета «Наша воля» (№ 6) публікуе невялікі верш Праменя пра сына, які вярнуўся з турмы:

Вёска, родныя палеткі,
Твой загнаны сын прышоў
З-за густой жалезнай сеткі
Дыхаць свежасцю палёў.
Смутак пройдзе, летуценні

Сэрца к жыццю ўваскрасяць.
І мінулыя цярпенні
Будзем ў радасць замяняць.

З'яўляліся паэтычныя радкі Гарасіма Праменя і на старонках папулярнага часопіса «Шлях моладзі». Вобразным і жывым атрымаўся ў паэта верш «Дажджом», які быў апублікаваны ў «Шляху моладзі» (1937, № 6):

Вось хмара нечаканая
Як сівы мех наехала,
Каўшом зярняты сеяла —
Піла зямелька каплямі.
З стрэх малаком цадзілася —
Вада плыла рыштокамі,
У суме закруцілася
І пацякла з падскокамі.
Праплыўшы аглянулася —
Адменена ўсё сталася,
Ў дарогу-даль папхнулася,
І сонца паказалася.
А перлы-срэбра пацеркі
Калоціць вецер з лісцейка.
І ліжа сонца з жаднасцю
Зямелькі плечы мытыя.

Пражыў Іван Пышко 56 гадоў. Ён быў жанаты, меў траіх сыноў. Але і сыны таксама даўно памерлі. Пры жыцці ён працягваў пісаць вершы, друкаваць іх у раённым друку. Паэт меў неадольную цягу да паэзіі, ён радаваўся жыццю, ганарыўся тымі, хто займаўся літаратурай, і шчыра вітаў сяброў па пяру:

Дабра усім жадаю,
Сынам сваіх палёў.
І горача вітаю
Паэтаў-змагароў…



Дарэчы, на могілках вёскі Зачэпічы знаходзяцца дзве магілы заходнебеларускіх паэтаў Петруся Граніта і Гарасіма Праменя. Калі магілу Петруся Граніта сяды-тады даглядаюць унукі, якія жывуць на Дзятлаўшчыне, то за магілай Гарасіма Праменя глядзець даўно няма каму.

Напярэдадні Радаўніцы 2016 года грамадскі актывіст з Дзятлава, сын заснавальніка Дзятлаўскага краязнаўчага музея Міхася Петрыкевіча Валерый Петрыкевіч разам з сябрамі Таварыства беларускай мовы з Дзятлава, Наваельні, Слоніма, а таксама з вучнямі Жукоўшчынскай базавай школы Дзятлаўскага раёна, супрацоўніцамі Жукоўшчынскай сельскай бібліятэкі і Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея арганізаваў паездку ў вёску Зачэпічы. На могілках ледзьве адшукалі магілы паэтаў Граніта і Праменя. Калі магіла Граніта знаходзілася ў больш-менш прыстойным выглядзе, то магілы Праменя (Івана Пышко), яго жонкі Кацярыны і сына выглядалі даволі сумна, і бачна было, што іх ніхто не добраўпарадкоўваў шмат гадоў.

Некалькі гадзін працавалі грамадскія актывісты. Яны ачысцілі магілы ад розных карэнняў, дзірвану, каменняў, травы, аднавілі тэкст на помніках, пафарбавалі агароджу. Дарэчы, помнік на магіле Гарасіма Праменя быў пастаўлены дзесьці ў 1965 годзе. Яго вырабіў нейкі мясцовы майстра і сам рукой на помніку напісаў тэкст з памылкамі. Магчыма пісаў так, як гутарылі мясцовыя людзі: «Пышко Иван Иванович, прожыл 56 лет, умер 7 июня 1964 г. Память от жены й детей».

Падчас працы да грамадскіх актывістаў падыходзілі мясцовыя людзі і шчыра дзякавалі за добрую справу. Была і Алена Фёдараўна Цішук, хата якой знаходзіцца побач з могілкамі. З вакна кухні яе хаты відаць магілы вяскоўцаў. Жанчына падзякавала ўсім і сказала, што жонка паэта Праменя Кацярына была яе хроснай маці. Сам паэт ёй часта казаў: «Не шкадуй грошай: купі хрэсніцы хустачку, купі сарочку». І яна купляла, слухала мужа.

*2016*

# Заходнебеларускі паэт Жальба



*Аляксандр Бяленка (Н. Жальба)*

Сумны псеўданім сабе выбраў у 1920-я гады юнак з вёскі Гірычы, што на Дзятлаўшчыне, Аляксандр Бяленка — Жальба. Гэтае слова адзначае смутак, тугу, бедаванне, а таксама скаргу і нараканне. Тугі і бедаў у жыцці вясковага юнака было шмат, але ён не маўчаў, не насіў у сабе затоеную жальбу і крыўду, а ўсё жыццё змагаўся за светлую долю беларусаў, за родную мову і школу, за развіццё беларускай нацыянальнай культуры.

Пражыў Аляксандр Бяленка (1898–1991) 93 гады на роднай Дзятлаўшчыне: нарадзіўся ў вёсцы Гірычы, але пабудаваў сабе хату і жыў з сям'ёй у суседняй вёсцы Труханавічы.

Маленства хлопчыка Бяленкі было не вельмі радасным. Ён усё жыццё памятаў тыя часы, калі працаваў парабкам у багатых людзей, потым батрачыў, зноў працаваў ад раніцы да вечара. Але з маленства хлопчык быў вельмі здольны да навукі. Таму бацькі знайшлі сродкі і аддалі яго ў царкоўна-прыходскую школу. Вучоба давалася яму вельмі лёгка, ён шмат чытаў, цікавіўся кнігамі, газетамі і часопісамі. А з беларускім друкаваным словам яго пазнаёміў старэйшы сябар Кастусь Сцяпура. Калі сябра за падпольную дзейнасць арыштавалі і пасадзілі ў Лукішскую турму ў Вільні, то справу яго працягнуў Аляксандр Бяленка.

Найперш Аляксандр актыўна пачаў знаёміцца з віленскім беларускім друкам. І ў пачатку 1920-х гадоў сам дасылае туды розныя інфармацыі пра падзеі і здарэнні, якія адбываюцца на Дзятлаўшчыне. Але пад нататкамі падпісваецца псеўданімамі Н. Жальба, Нікіфар Жальба, Жальба, А.Жальба.

Першыя допісы Жальбы з'явіліся ў газетах «Наш сцяг» і «Змаганне» у 1923 годзе. Вясковы пазаштатны карэспандэнт паведамляў пра сваю вёску Гірычы і пра тое, як вяскоўцы атрымліваюць беларускую прэсу: «У нас нядаўна змянілі старога войта і пісара, і беларускія газеты сталі атрымліваць крыху лепш. Праўда, і цяпер яшчэ ў нашай гміне парадак у выдачы газетаў дужа дрэнны. Прыходзіць, напрыклад, наша газета, яе адштамплююць і кінуць на вакно і тут яна церпіць немалы здзек з боку цёмных асобаў, якія часта вырываюць цэлыя артыкулы, а то і зусім падпісчык яе не ўбачыць. Вельмі балюча робіцца на сэрцы, калі дазнаешся, што знаходзяцца гэткія людзі і сярод беларусаў. Я сам бачыў, як солтыс Яварскай Руды (назва вёскі. — *С. Ч.*) забраў з гміны ўсе газеты, нават не паглядзеўшы на іх адрасы. Такім чынам, шмат нумароў прападае, падпісчыкі пазбаўляюцца сваёй роднай газеты, якая з'яўляецца пуцяводнай зоркай у нашым жыцці…».



У 1926 годзе ў «Беларускай ніве» Жальба друкаваў розныя вясковыя здарэнні, якія адбываліся ў вёсках Дзятлаўшчыны, а ў газеце «Жыццё вёскі» за 1925 год апісваў цяжкае жыццё сваіх вяскоўцаў, называючы яго «безнадзейным палажэннем».

Цікавую інфармацыю Жальба апублікаваў у «Беларускай газеце» (1933, № 6) пад назвай «Асвета пашыраецца»: «Ад 1916 году ў нашу вёску Гірычы пранікла касуля беларускага нацыянальнага адраджэння ў выглядзе друкаванага слова, якім была пад той час выходзячая ў Вільні беларуская газета. З тае пары наша вёска амаль што не жыла без беларускага друкаванага слова. Трэба сказаць, што праз увесь час, пачынаючы ад 1922 году найбольшая ўвага ў нас была звернута на культурна-асветную працу, якая, хоць паволі, але пракладвае сабе дарогу. Цяпер мы маем да сотні беларускіх кніжак і паступова праводзім самаадукацыю, а з беларускімі газетамі ніколі не разлучаемся. Дзеці, якія ходзяць у польскую школу (беларускай не адчынілі, хоць два разы складалі дэкларацыі), таксама горнуцца да роднай кніжкі і ўжо многія бойка чытаюць і дэкламуюць вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа».

Жывучы на роднай Дзятлаўшчыне, Аляксандр Бяленка хутка знаёміцца з мясцовымі грамадскімі актывістамі і літаратарамі. Яго сябрамі становяцца паэты і змагары за роднае слова Сяргей Хмара (Сяргей Сіняк) з мястэчка Казлоўшчына, Пятрусь Граніт (Іван Івашэвіч), Гарасім Прамень (Іван Пышко) і Васіль Струмень (Аляксандр Лебедзеў) — усе з вёскі Зачэпічы. Сябраваў Жальба і з простымі звычайнымі вясковымі хлопцамі: Ігнатам Пацэлем

з вёскі Змяёўцы, Феаніславам Лянко і Кастусём Кашко з вёскі Засецце, Іванам і Пятром Гурскімі з Малых Круглёў. Ігнат Пацэль і Кастусь Кашко працавалі на карысць КПЗБ. А Браніслаў Лянко, як і Жальба, таксама спрабаваў пісаць, дасылаў допісы ў віленскія газеты і часопісы. Але найбольш актыўна пісалі і друкаваліся ў многіх віленскіх выданнях Сяргей Хмара, Пятрусь Граніт, Васіль Струмень і Гарасім Прамень. З некаторымі хлопцамі Жальба па некалькі разоў бываў на тайных сустрэчах у Дзятлаве, куды прыязджалі і выступалі з цэнтра інструктары КПЗБ. Разам з сябрамі Аляксандр Бяленка сустракаўся ў Дзятлаве і з палітыкам, літаратарам і педагогам Ігнатам Дварчанінам (1895–1937), які быў родам з суседняй вёскі Погіры. Дзятлаўскія юнакі на сваёй маленькай радзіме актыўна арганізоўвалі літаратурныя-драматычныя гурткі, ставілі спектаклі па п’есах беларускіх драматургаў, змагаліся за адкрыццё беларускіх школ, узначальвалі Таварыствы беларускіх школ і гурткі Беларускай сялянска-рабочай Грамады.

Разам з рознымі допісамі, найперш пра культурную працу свядомай беларускай моладзі на вёсцы, Нікіфар Жальба спрабуе пісаць і дасылаць у Вільню і свае вершы. Ён пісаў пра тое, што найперш хвалявала пры Польшчы беларускіх сялян. У сатырычным вершы «Неаплатная ласка», які быў апублікаваны ў часопісе «Авадзень» (1925, № 2), аўтар напісаў пра тое, як сяляне з цяжкасцю плацяць падаткі, аддаючы ўсё да апошняй капейкі:

Пісар важна сядзіць
За пісьменным сталом —
Ён сягоння прымае падаткі.
Ды на зло людзі йдуць
Неяк вось па адном,
Аж у пісара робяцца складкі.
— Што за ліха, Янук!
Падыходзь да стала —
Цяпер будзем мы браць ад скаціны.
Рэгістрацыя ў нас
Ўжо даўно прайшла,
А ніхто не плаціў з нашай гміны.



Янук, сколькі табе
За худобу плаціць?
Але… ў кнізе звядзём твае счоты…
Процант твой можам тут
Да граша палічыць,
Хоць не многа, а будзе работы…
— Я не знаю, панок, сколькі вам з мяне ўзяць,
Бо кабыла нядаўна прапала.
Не пакінуў па ёй
Я яшчэ бядаваць:
Яна рукі ў мяне адабрала…
— Дык мо скуру садраў,
Ды ўжо жыду прадаў?
Гміна грошы табе не прашчае.
— Дамагаешся, пан, каб астаткі прадаў?
Няхай пан гэта мне выбачае.
— Як не будзеш плаціць —
Мусім во напісаць
Да старосты аб гэтым пасланне…
— Колькі ж, пане, яно будзе мне каштаваць?
— Адной скуры на гэта мне стане…

Аднойчы ў хату Бяленкаў завітала паліцыя. Яна перавярнула ўсё ўверх дном, аднак нічога крамольнага знайсці не змагла. Забароненую літаратуру і прэсу Аляксандр хаваў у страсе дзядзькавага гумна. І хоць нічога не знайшлі, але юнака забралі ў пастарунак вёскі Накрышкі. Там, апісаўшы ўсе прыкметы, яго адпусцілі.

У 1935 годзе сям’ю Бяленкаў напаткала гора. Самы малодшы брат Аляксандра Антон Бяленка быў забіты панскім упраўляючым пры разгоне забастоўкі ў маёнтку Міроўшчына. Гэты трагічны факт вельмі ўсхваляваў паэта Жальбу. Ён піша верш «Заміж вянка на магілу брата, забітага 23.XI.35 г.», які апублікаваў часопіс «Шлях моладзі» (1935, № 13). Першыя строфы верша гучалі так:

І паў ты нявіннай ахвярай
З рук подлага служкі паноў —
Жыцця маладога не стала

Між верных Айчыны сыноў.
Закрыліся светлыя вочы
У нема халодзячым сне,
І голас, да песні ахвочы,
Заціхнуў на ранняй вясне.
Злажыў ты працоўныя рукі
На вечны магільны пакой —
І болей ні скаргі, ні мукі
На сцежцы жыццёвай тваёй.
Ляжыш ты, навылет прабіты,
Абмыты ва ўласнай крыві,
Ляжыш ты, як цяжка пакрыты
Слязамі і жалем радні…

У 1930-х гадах паэт Жальба шмат піша, актыўна супрацоўнічае з беларускімі віленскімі выданнямі. Але не ўсе яго паэтычныя радкі трапляюць на старонкі газет і часопісаў. У «паштовых скрынках» выданняў яму часта робяць заўвагі, вучаць пісаць, бо супрацоўнікі выданняў бачылі, што хлопец мае талент. «Пісаць можаце, толькі будзьце добры, не “адрывайцеся ад зямлі”, не ўцякайце з яе, а апісвайце ўсё тое, што дзеіцца на гэтай жа зямлі. Паэт працы не лётае на нябясах, але нага ў нагу ідзе з працоўнымі. Чакаем далейшых Вашых твораў», — паведамляў часопіс «Літаратурная старонка» (1934, № 1). А «паштовая скрынка» часопіса «Шлях моладзі» (1934, № 1) аднойчы Жальбу парадавала: «З прысланых вершаў пару нішто, па магчымасці будзем карыстаць. У супрацоўнікі прымаем. Радзім Вам больш чытаць беларускай прыгожае літаратуры. Цешымся, што часопіс Вам падабаецца, і высылаць яго Вам будзем. Пішыце часцей!».

І Жальба пісаў, шмат друкаваўся, асабліва на старонках «Шляху моладзі». Пісаў ён аб тым, што бачыў, што перажыў, што хвалявала яго. І хоць вершам вясковага паэта часам не хапала лірычнай глыбіні, адзінства думкі і эмоцый, але вершы гэтыя былі праўдзівыя, напісаныя ад шчырага сэрца, з цеплынёй і дабрынёй. Паглядзіце, як хораша паэт апісаў жніво, тое жніво, якое ён бачыў, якое любіў і шанаваў («Шлях моладзі», 1939, № 14):



Ідзе жніво, калосікі худыя
Ў зямлю убітыя і градам, і дажджом.
Як цяжка іх збіраць — сагнута спіна ные,
І льецца пот усцяж няўпынным ручаём.
А сонца зверху паліць, як агнём, заўзята,
І вецер дзесь ў бары заснуў і ні сапе.
Ды толькі мятлікі надзеяю крылатай
Змякчаюць працы боль і радуюць цябе!
Азвецесь жнейкі ўсе вы — песняй-весялухай,
Хай рэхам адаб’е яе вяковы бор!
Няхай яна ўзляціць працоўнай раці духам
І зойме ўвесь хутчэй жыццёвы свой прастор!

Пасля разгрому Грамады Аляксандр Бяленка з сябрам спрабуе з Заходняй Беларусі ўцячы ў БССР, але спроба канчаецца непамысна для яго і трагічна для яго сябра. Бяленка трапляе ў турму. А пасля турмы зноў аднаўляе сувязі са сваімі сябрамі і падпольшчыкамі. Шмат піша. Некаторыя вершы атрымліваюцца рамантычныя, напоўненыя імкненнем да нацыянальнай і сацыяльнай справядлівасці, яны заклікаюць моладзь і ўсіх землякоў да лепшай долі, бо «толку з гэтага ўжо мала — ніхто нічога нам не дасць!»:

Павінны самі мы змагацца
За свой людскі і лепшы быт,
На здзек і крыўду не давацца —
Дык будзьма цвёрды, як граніт!
*(«Шлях моладзі», 1939, № 10)*

Магчыма, і замнога было ў вершах Жальбы вобразна-стылёвай адналінейнасці і лозунгавай рытарычнасці, але тады паэты-заходнікі сваімі заклікамі сцвярджалі патрыятычны дух, сілу, волю, перамогу:

Гэй, браточкі мае, дарагія,
К вам я словы звяртаю свае:
Распаляйце парывы святыя,
Што таяцца у сэрцы на дне.

За прыклад вы таго не бярыце,
Дзе сільнейшы слабых перамог,
Патаптаўшы ўсю праўду на свеце
І для волі зрабіўшы вастрог.
Мы не хочам такой перамогі,
Каб слабейшы нам стаўся рабом.
Расцярэбім сабе мы дарогі,
Што здаўна заваліў буралом.
Нам не трэба ганебнага шляху,
Па каторым вякамі ўсё йдуць…
Мы ў жыцці сваім хочам размаху,
Чысту праўду усім разгарнуць!
*(«Шлях моладзі», 1934, № 10)*

У 1939 годзе маладзёжны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс «Шлях моладзі» адзначаў сваё 10-годдзе. Не застаўся ўбаку і паэт Жальба з Дзятлаўшчыны. Ён напісаў і прыслаў свой верш «“Шляху моладзі” ў 10-я ўгодкі», які быў апублікаваны ў часопісе ў № 7 за 1939 год. У вершы паэт усіх запэўніў:

Хай крычаць груганы, няхай б’юць перуны —
Нам не страшны ніякія сілы.
Ў нашых сэрцах агонь, і адважна мы йдзем
Адраджаць край наш родны і мілы…

«Шлях моладзі» у 1939 годзе ў № 15 пісаў, што на беларускай літаратурнай ніве пачалося ажыўленне. Выйшаў зборнік вершаў Сяргея Хмары «Жураўлінам шляхам» (Вільня, 1939), з’явіўся зборнік маладога паэта Анатоля Іверса «Песні на загонах» (Вільня, 1939), У друкарні знаходзіўся зборнік вершаў Міхася Машары. Рыхтаваліся да друку байкі Вінцука Адважнага, вершы Ганны Новік, Петруся Граніта і Нікіфара Жальбы. «Жадаць толькі трэба, — пісаў часопіс, — каб беларускія выдавецтвы змаглі і паспявалі выдаць іх».

Але зборнік вершаў Жальбы так і не пабачыў свет. На землі Заходняй Беларусі прыйшла савецкая ўлада, а потым — вайна,





*Нямецкая даведка, што Аляксандр Бяленка з’яўляецца жыхаром вёскі Труханавічы Дзятлаўскага раёна, 1942 г.*

падчас якой Аляксандр Бяленка быў сувязным партызанскага атрада, распаўсюджваў зводкі савецкага Інфармбюро.

З другой паловы XX стагоддзя Н. Жальба (Аляксандр Бяленка) жыў з сям’ёй у вёсцы Труханавічы на Дзятлаўшчыне і асабліва ў вялікія паэты не лез, друкаваўся толькі ў мясцовым раённым друку і сяды-тады яго вершы траплялі ў абласную прэсу. Праўда, Уладзімір Калеснік адзін яго верш змясціў у зборніку заходнебеларускай паэзіі «Ростані волі» (Мінск, 1990).

У 2016 годзе я наведаў вёску Труханавічы Дзятлаўскага раёна. Вёска зусім не тая, якая была 30–50 гадоў таму. Цяпер у ёй пражывае толькі 36 чалавек на дзвюх вуліцах, якія называюцца Новая і Гагарына. Праўда, сярод вяскоўцаў жывуць у Труханавічах і дачка Аляксандра Бяленкі Ганна Мілейка і ўнук Іван. Спадарыня Ганна неяк здзівілася, што прайшло шмат гадоў і ўспомнілі яе бацьку. Яна шчыра разгубілася і сказала, што да сённяшніх дзён у яе не захавалася ні фотаздымкаў бацькі, ні вершаў. Стаіць і хата паэта



*Вольга Іпатава і Аляксандр Бяленка (Н.Жальба), Дзятлаўшчына, 1986 г.*

Н. Жальбы, на дзвярах вісіць вялікі замок, але вакол хаты чыста і прыбарана. За надворкам і агародамі прыглядае ўнук паэта Іван.

Па словах вяскоўцаў, Аляксандр Бяленка быў вельмі адукаваным чалавекам. Ён верыў у Бога, пастаянна хадзіў у царкву. Заўсёды ў кішэні насіў блакноцік і аловак, калі надавалася вольная хвіліна — пісаў вершы. Яны часта друкаваліся на старонках раённай газеты. А яшчэ, прыгадваюць вяскоўцы, паэт шмат чытаў, да яго часта прыязджалі госці…

На вялікі жаль, паэтычная творчасць Н. Жальбы да сённяшніх дзён не сабрана пад адну вокладку і не выдадзена асобнай кніжкай. Хаця вельмі шмат у яго вершаў, якія варта захаваць для нашчадкаў.

У адным з паэтычных твораў, які Н. Жальба прысвяціў свайму народу, ён пісаў:

…Хай цвёрдую ў сэрцы надзею
Нясуць перамогі над злом.
Нас выбіць ніхто не здалее
Турмою, жалезам, агнём!
*(«Шлях моладзі», 1937, № 1).*

*2016*



## Жураўліны шлях паэта



*Сяргей Хмара, 1938 г.*

Старшыня Згуртавання Беларусаў Канады Мікола Ганько неяк сказаў: «Пра жыццё і дзейнасць Сяргея Хмары можна напісаць цэлую гісторыю, а можна абысціся некалькімі сказамі» (Лявон Юрэвіч. Камэнтары. Мінск, 1999. С. 170). Андрэй Чэмер паспрабаваў напісаць такую гісторыю пра гэтага чалавека. У 1998 годзе ў Вільні ён выдаў кнігу, якая так і называецца «Сяргей Хмара». Але пра самога беларускага паэта, змагара, выдаўца там так нічога і не было сказана. У кнізе аўтар прайшоўся па старонках газеты «Беларускі голас», якую ў Канадзе выдаваў Сяргей Хмара-Сіняк, і працытаваў розныя факты з газетных публікацый. Цікавымі ў гэтым выданні з'яўляюцца хіба толькі «Прадмова» і «Замест пасьляслоўя».

Наогул, пра Сяргея Хмару-Сіняка на працягу першых пасляваенных 50 гадоў у беларускім друку пісалася ўсё толькі адмоўнае. Як маглі, так і палівалі брудам яго ў савецкім друку Л. Прокша, В. Раманоўскі, В. Мацкевіч. І толькі аўтару гэтых радкоў у сакавіку 1991 года ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» удалося надрукаваць невялікі артыкул-згадку пра гэтага своеасаблівага чалавека. Але публікацыя выклікала неадназначны рэзананс у Беларусі і ў Канадзе. У газеце «Зважай» (Таронта, верасень, 1991) Кастусь Акула, прачытаўшы гэту першую лімаўскую публікацыю пра Сяргея Хмару, выказаў сваё абурэнне. Ён абураўся тым, што Хмара з 1945 года «сядзеў на Пятровым пасадзе Ватыкану», што «Сіняк-Хмара ніколі не навучыўся беларускае мовы і быў ужо ведамым графаманам у паэзіі», што «падтрымліваў і праслаўляў шарлатана “патрыярха” Рыжага-Рыскага», што «ў 1952 г. намагаўся захапіць Беларускі Выдавецкі Фонд і газэту “Беларускі Эмігрант”, а калі тое не ўдалося, пачаў выдаваць сваю газэту “Беларускі голас”» і г. д.



*Сяргей Хмара (злева) з сябрамі, Дзятлаўшчына, 1930-я гг.*

У канцы 1930-х — пачатку 1940-х гадоў у Слоніме творчых хлопцаў-землякоў усе добра ведалі. Яны пісалі вершы, выступалі на літаратурных вечарах, сустрэчах, друкаваліся ў мясцовай і віленскай прэсе. Гэта былі — Сяргей Хмара-Сіняк, Анатоль Іверс і Сяргей Новік-Пяюн. А яшчэ іх аб'ядноўвала тое, што яны любілі свой край, свой народ, размаўлялі на роднай мове. Пры паляках два Сяргеі і Анатоль былі пад наглядам польскай паліцыі, пасля 1939 года — пад пільным вокам НКУС, у гады вайны — страх быў і перад немцамі, і перад савецкімі партызанамі. Менавіта вайна скразною лініяй прайшла праз лёс гэтых хлопцаў, яна іх разлучыла назаўсёды. Сяргею Хмары (старэйшы за іх быў і больш вопытны) удалося ўцячы на Захад, Сяргей Новік-Пяюн у снежні 1944 годзе быў арыштаваны органамі НКУС, а праз год адпраўлены на 10 гадоў на Калыму. Анатоля Іверса арышты мінавалі, хаця немцы расстралялі ягоных жонку і бацьку. А сам паэт, жывучы ў Слоніме, да самай смерці насіў кляймо «нацыяналіста». Пасля вайны, як пісаў Васіль Быкаў у сваёй кнізе «Доўгая дарога дадому», Анатоль Іверс «быў звольнены з працы, выключаны з СП і пятнаццаць гадоў прарабіў на смалакурні ў лясгасе» (Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому. Мінск, 2002. С. 319).

Мне пашанцавала ў жыцці быць добра знаёмым з гэтымі людзьмі, шмат гадоў сябраваць. З Анатолем Іверсам сустракаліся і гутарылі часцей, бо жыў ён са мною побач у нашым горадзе Слоніме.



З Сяргеем Новікам-Пяюном сустрэчы адбываліся і ў Слоніме, і ў Мінску ў ягонай маленькай кватэры на вуліцы Купрыянава. А вось спаткацца з Сяргеем Хмарам не давялося, хаця мы дзесяць гадоў перапісваліся. Шмат гэтыя людзі мне распавядалі пра сваё жыццё-быццё, найперш пра акупаваны немцамі Слонім. І, што дзіўна, кожны з іх у сваім трагічным лёсе абвінавачваў сяброў. Паэты адышлі на той свет, але так і не памірыліся. Хаця Сяргей Хмара гэтага хацеў, часам дасылаў ім свае газеты і часопісы. Але хлопцы маўчалі. І хто з іх у чым быў вінаваты — сёння цяжка судзіць. Кожны з іх ратаваў сябе, як мог. І кожнаму з іх у жыцці было нялёгка. Тым не менш беларускія паэты не скарыліся, не прапалі, не зніклі. Ды і пражылі яны доўгія жыцці: Сяргей Новік-Пяюн — 88 гадоў, а Анатоль Іверс і Сяргей Хмара — 87 гадоў. Бог, як кажуць, адмераў ім амаль аднолькава.

І ўсё ж самым неразгаданым, розным і супярэчлівым быў у жыцці і застаецца ў гісторыі беларускай літаратуры і нацыянальнага руху Сяргей Хмара-Сіняк. Нават месца яго нараджэння падаецца па-рознаму. Адны выданні пісалі, што ён нарадзіўся ў Пінску, другія — у Адэсе, трэція — у Слоніме. Ды і сам ён паведамляе ў сваёй аўтабіяграфіі, што нарадзіўся ў Адэсе (Запісы Беларускага Інстытута навукі і мастацтва. Выпуск 24. Нью-Ёрк, 1999. С. 149). І ўсё ж Сяргей Сіняк нарадзіўся не ў Адэсе і не ў Пінску, а ў вёсцы Казлоўшчына былога Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён) 25 траўня 1905 года. А калі яму споўніўся год, бацькі, у пошуках працы, выехалі на Украіну, пасля ў Варшаву, а потым, калі пачалася Першая сусветная вайна, жылі ў Казані, Растове-на-Доне і ў Варонежскай губерні.




*Магдалена Сіняк упершыню наведала Беларусь і бацькаву радзіму, лета 2008 г.*

У 1918 годзе пры нявысветленых абставінах загінуў бацька. Сяргей Сіняк з



*Хата ў вёсцы Казлоўшчына Дзятлаўскага раёна, дзе ў 1930-х гадах жыў Сяргей Хмара. Сучасны здымак*

маці і з малодшаю сястрою вярнуліся ў родную вёску. Вучыцца хлопчыку не было за што. Таму пасля расійскай пачатковай школы ён займаўся самаадукацыяй: шмат чытаў па-руску, па-беларуску і па-польску, асабліва зачытваўся раманамі Генрыка Сянкевіча. І вельмі шмат працаваў: пастухом, лесарубам, землякопам, агароднікам, падзёншчыкам у маёнтку, будаўніком… На працы заўсёды дабіваўся справядлівасці. Аднойчы нават кінуў каменем у панскага аканома за тое, што няправільна і мала налічылі заробак. Аканом выгнаў яго з работы і даў мянушку «бунтар». Пасля «бунтара» выганялі з будаўніцтва дарогі за арганізаваны страйк, пасля, калі працаваў касцом у маёнку, і з іншых месцаў.

У пачатку 1920-х гадоў Сяргей Сіняк наладжвае кантакты з сябрамі Беларускай Народнай Рэспублікі, з рознымі адказнымі заданнямі ездзіць у Варшаву, Вільню, Слонім. Ён хутка знаёміцца з беларускімі вайскоўцамі, з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі — Рамуальдам Зямкевічам, Гальяшом Леўчыкам, Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Аляксандрам Уласавым. Становіцца адным з арганізатараў Таварыства Беларускай Школы (ТБШ), стварае 12 беларускіх школ. У Брэсцкім абласным архіве знаходзіцца, як пацвярджэнне пасведчанне на імя Сяргея Сіняка, што ён з'яўляецца сябрам ТБШ (Ф. 2042. Оп. 1. Спр. 8869).

У сярэдзіне 1920-х гадоў Сяргей Сіняк уступае ў Беларускую сялянска-работніцкую Грамаду. На Слонімшчыне ён арганізоўвае 32 гурткі Грамады, якія налічваюць каля трох тысяч чалавек.

У 1930 годзе Сяргея Хмару выбіраюць сакратаром пасольскага клуба «Змаганьне» у Пінску, ён спрабуе закласці беларускую



гімназію і выдаваць часопіс. Праз год юнак працуе інструктарам Галоўнай Управы ТБШ у Вільні, а яшчэ праз год яго арыштоўвае польская дэфензіва і разам з Браніславам Тарашкевічам саджае ў турму. У час працэсу Грамады польскі пракурор-абвінаваўца назваў С. Сіняка «лятаючым рыцарам Грамады». Наогул, Сяргей Сіняк пры паляках, пры саветах і пры немцах за сваю актыўную беларускую палітычную і творчую дзейнасць адсядзеў каля 11 гадоў у турмах. У сваёй аўтабіяграфіі (зборнік «Мы», выданне суполкі «Ускалось» на чужыне, 1949) ён пісаў: «Мае школы — Лукішкі, турмы ў Слоніме, Гародні, Пінску, Берасьці, канцэнтрацыйны лагер Картуз-Бяроза і шмат іншыя». Пра яго актыўнасць і смеласць у Заходняй Беларусі паведамляла нават Тэлеграфнае Агенства Савецкага Саюза (ТАСС). Гэтае паведамленне апублікавалі ўсе газеты вялікай краіны. «Слоним (Западная Белоруссия). 13 октября. Заместителем начальника городского отряда рабочей гвардии Слонима работает широко известный в Западной Белоруссии молодой, талантливый поэт Сергей Хмара. С оружием в руках он охраняет свой город и организует борьбу с притаившимся остатками офицерских бандитских шаек. До прихода в Слоним Красной Армии поэт находился в концентрационном лагере Картуз-Береза. В польских тюрьмах, казематах и лагерях он провел 6 лет. В своих произведениях Сергей Хмара писал о тяжелой доле угнетавшихся панами хлеборобов Западной Белоруссии и выражал уверенность в том, что скоро настанут времена, когда крестьяне будут свободными и счастливыми. Сбылись слова поэта, эти времена настали» — пісала газета «Социалистическая Якутия» 17 кастрычніка 1939 года.

Са зброяй у руках Сяргей Сіняк не ваяваў, а вось пяром валодаў добра. Першы надрукаваны верш з'явіўся ў газеце «Беларуская крыніца» у 1925 годзе. Ён меў назву «Годзі, мы доўга цярпелі, мы доўга хадзілі ў ярме». А праз тры гады паэты і празаікі Заходняй Беларусі выдаюць у Вільні зборнік «Рунь веснаходу», дзе побач з вершамі Хведара Ільяшэвіча, Наталлі Арсенневай, Міхася Васілька, Аўгена Бартуля і іншых аўтараў надрукаваны і творы Сяргея Хмары-Сіняка. А вось першыя паэтычны зборнік «Бунтарнае» і кніга прозы «Шляхам барацьбы» загінулі падчас ліквідацыі выда-




вецтва «Рунь». Але ў 1939 годзе кніга вершаў «Жураўлiным шляхам» Сяргея Сiняка пад псеўданiмам Хмара ўсё ж пабачыла свет у Вiльнi.

Зборнiчак быў невялiкi, ён налiчваў усяго 24 вершы. Паэт шчыра апiсваў жыццё сваiх землякоў з яго праблемамi i традыцыямi. Цiкава i дасцiпна паказаў вобразы землякопаў i краўчых, карцiну вёскi. Гэтыя паэтычныя радкi гучалi як заклiк да жыцця i змагання. Але ў кожным вершы адчувалася нейкая самота i адзiнота:

Неба начой было яснае, яснае!
Белае, белае — як малако.
Недзе жалеза затворамi ляснула,
Сумна зайржаў ў хляве конь.

Мацнейшымi ўсё ж у зборнiку радкi, прысвечаныя Прыпяцi, Палессю i наогул — роднай прыродзе:

Цэлы дзень у паветры сонным
Кос гарыць пажар.
Плача кнiгаўка i звоне
Травяны абшар.

Паэт вылучаўся сярод сваiх равеснiкаў вынаходнiцтвам новых беларускiх слоў, якiмi любiў насычаць свае вершы. Праўда, не ўсе яны ў нашай мове прыжылiся. Напрыклад, такiя словы, як «запраўляч», «шувары», «ладунак».

У 1937 годзе Сяргей Сiняк у Дзятлаве арганiзоўвае лiтаратурную сустань «Маладая Ўскалось». Плануе разам са сваiмi равеснiкамi i старэйшым слонiмскiм паэтам Гальяшом Леўчыкам выдаваць аднайменны лiтаратурны часопiс. Але палякi не дазволiлi.

Пасля прыходу Чырвонай Армii ў Заходнюю Беларусь Сяргей Хмара жыве ў Слонiме. Праз два тыднi яго арыштоўваюць органы НКУС i саджаюць у мiнскую турму, а пасля пераводзяць у Чэрвень.



З пачаткам вайны арыштаваных з Чэрвеня гоняць пехатою ў Магiлёў. Па дарозе Сяргею Хмары ўдаецца ўцячы i ён вяртаецца ў акупаваны немцамi Слонiм. Прыдбаўшы невялiкую кнiжную краму, ён прадае беларускiя часопiсы, газеты i кнiгi, прымае ўдзел у выданнi газеты «Слонiмскi кур'ер», выступае на раённым радыё. Акрамя гэтага наш зямляк арганiзоўвае брыгаду Беларускай Самапомачы. Але пасля таго як гэтая брыгада адмовiлася ўдзельнiчаць у грабяжах гета, яна была немцамi лiквiдавана, а Сяргея Хмару зноў пасадзiлi ў турму (дзякуючы сябрам праз пэўны час яго вызвалiлi). Таму меў рацыю Юрка Вiцьбiч, калi казаў, што «усялякi без вылучэньня акупант Беларусi (паляк, расеец, немец) саджаў Сяргея Хмару за краты, а таму ён больш за iншых мае права пiсаць:

Усьцяж — Беларусь!
Беларусь — на вуснох,
У сэрцы ж —
Чорная здрада!..

Мне прыемна, што ў трэцiм нумары “Шыпшыны” (беларускi эмiграцыйны часопiс, якi выдаваўся ў 1946–50 гадах, выйшла 9 нумароў. — *С. Ч.*) быў надрукаваны гэты верш Сяргея Хмары “Беларусь”, якi зьяўляецца клясычным узорам палiтычнае паэзii, патрыятычнага мастацтва. Урэшце-рэштаў, ён успрымаецца як паэтычны манiфэст “Баявое Ўскалосi”» (Лявон Юрэвiч. Лiтаратурны рух на эмiграцыi. Мiнск, 2002. С. 78–79).

У 1944 годзе Сяргей Сiняк едзе ў Германiю, баючыся, што пасля яе капiтуляцыi ён зноў трапiць у засценкi НКУС. Спачатку працуе дырэктарам Беларускага iнфармацыйнага бюро, а пасля рэдактарам газеты «Голас беларусаў». Ужо тады ён пачынае адраджаць лiтаратурную сустань, але на гэты раз не маладой, а «Баявой Ўскалосi» са знакам «Двупагоняй», гэта значыць з абаронай Беларусi з Захаду i з Усходу. Па-ранейшаму пiша вершы i выдае свой другi зборнiк паэзii «Мы». Сюды ўвайшлi вершы, напiсаныя ў 1920–1930-х гадах, а таксама новыя, у якiх адчуваецца настальгiя па Бацькаўшчыне i сум развiтання з ёю:

Хусткай пунсоваю ўсход упрыгожыўся,
Шоўкавы дотык вецер прынёс.
Вылезла сонца, умыўшыся росамі,
І засмяялась, запесціла косамі
Статныя станы бяроз.

З Германіі шлях паэта ляжыць у Канаду ў Таронта, дзе ён і пражыў усё сваё жыццё.

У Таронта Сяргей Хмара найперш займаўся выдавецкай дзейнасцю. Выдаў там 18 нумароў часопіса «Баявая Ўскалось», а таксама каля 370 нумароў газеты «Беларускі голас». Апошнія два нумары выйшлі з друку пад назваю «Водгаласы». Усё гэта выдаваў ён за свой асабісты кошт.

Многія беларускія суайчыннікі на эміграцыі крытыкавалі Сяргея Хмару за тое, што ён шмат у сваіх выданнях пісаў пра сябе, пра сваю сям'ю, публікаваў у кожным нумары свае здымкі. Але яму гэта можна сёння дараваць, тым больш, што гэта былі яго ўласныя выданні. Але яны заўсёды выдаваліся па-беларуску, у іх паведамлялася пра жыццё на Беларусі, пра справы беларускай дыяспары на эміграцыі, друкаваліся вершы беларускіх паэтаў, цікавыя гістарычныя матэрыялы, напрыклад, успаміны Сяргея Хмары пра Гальяша Леўчыка, Антона Луцкевіча, Якуба Міско, Піліпа Пестрака, Максіма Танка, Уладзіміра Дубоўку і пра многіх іншых вядомых беларусаў. На старонках «Баявой Ўскалосі» і «Беларускага голасу» публікавалі свае творы многія беларусы, якіх лёс закінуў у розныя дзяржавы свету. Сярод іх — Янка Юхнавец, Кастусь Мярляк, Юрка Віцьбіч, Міхась Кавыль, Алесь Змагар, Вольга Трэска, Мікола Целеш, Мікола Вярба, Уладзіслаў Сноп, Васіль Вір, Наталля Арсеннева, Ніна Змагарка, Мікола Панькоў — ды усіх не пералічыць. Вядома, у выданнях Сяргея Хмары было і засталося шмат памылак, недакладнасцяў, найперш у датах, геаграфічных мясцінах, нават у прозвішчах. Відаць было, што рэдактар не карыстаўся энцыклапедычнымі даведнікамі, а шмат пісаў тое, што ведаў, што захавала памяць. Жыццё на чужыне для яго не было лёгкім, тым больш, што з Радзімай Сяргей Хмара-Сіняк развітаўся ў 40-гадовым узросце. Яму і там хацелася дзейнічаць, змагацца за Беларусь іншым шляхам, іншымі метадамі. Ён любіў і паважаў, крытыкаваў і злаваў на прадстаўнікоў БНР і БЦР, але сам ад іх заставаўся ўбаку. Ён быў прыхільнікам «трэцяй сілы» на эміграцыі. І нам сёння трэба з гэтым зміравіцца і прымаць Сяргея Хмару такім, якім ён быў.



Акрамя выдавецкай дзейнасці, наш суайчыннік на эміграцыі даследаваў беларускую міфалогію. Па гэтай тэме выдаў кнігі «Аб Багох крывіцкіх сказы» (два выданні) і «Сказы Бацькаўшчыны». У іх аўтар паспрабаваў зрабіць сваю «рэканструкцыю» міфалогіі. Хмара расказаў пра Дальбога, Чарнабога, Ярылу Сонцалістага, Яшчара, Воласа, Ляля, Зюзю і іншых крывіцкіх багоў беларускай міфалогіі.

Да ўсяго сказанага вышэй пра Сяргея Хмару-Сіняка трэба нагадаць, што ён шмат гадоў употайкі перапісваўся з Піліпам Пестраком, які дасылаў яму беларускія кнігі. А ў рамане «Сустрэнемся на барыкадах» П.Пестрак нават змясціў невялікі ўрывак з яго песні «Годзі, мы доўга цярпелі…».

Пэўны час сябраваў Сяргей Хмара і з Уладзімірам Дубоўкам, які прысвяціў яму сваю казку «Як сінячок да сонца лётаў» (1961), хаця некаторыя літаратуразнаўцы гэтую дружбу аспрэчваюць. У добрых адносінах ён быў з Валянцінам Таўлаем, Андрэем Чэмерам і з іншымі беларускімі літаратарамі. У адным з апошніх пісем да аўтара гэтых радкоў Сяргей Хмара пісаў: «У нас тут на чужыне многія ўжо памерлі ці хутка памруць. І мне штораз горш. Бывае не магу ані пісаць, ані хадзіць нават. Вір — у Гамільтоне, Вольны — ў Нью-Ёрку, Змагар — на Флярыдзе. Усе хварэюць. Янка Макарэвіч ў Аўстраліі, год як ляжыць паралізаваны. Нешта падобнае там і з Сасноўскім. Смаленскі жыў у Англіі, ужо не піша. Не піша і Дуброўскі з Аўстраліі. Ён і Жамойда нявылечна хворыя. Дрыгвіч з Англіі таксама не піша. Замоўк Юхнавец. Цэлеш і Ліманоўскі з ЗША — таксама. Нядаўна памерла Ніна Змагарка. Замоўкла Валянціна Сірата… Маладой руні мы не маем. З нашым адыходам — скончыцца тут і Беларусь…». Сумна такія радкі чытаць. А яшчэ горка было тады, калі з Канады прыйшла вестка, што не стала Сяргея Хмары-Сіняка. Яго жураўліны шлях закончыўся 4 верасня 1992 года ў Таронта. На жаль, беларускі друк пра гэта не паведаміў. А дзесяткі замежных

часопісаў і газет змясцілі на сваіх старонках развітальныя словы. Вось што напісала, напрыклад, украінская газета «Новий шлях» (Канада): «Сяргей Сіняк народився 87 років (і три місяці) тому в Білорусії, пережив царя, революцію, дві світові війни, табори, еміграцію, і розвал комуністичної імперії. І тепер, власне тепер він був потрібний своїй Батьківщині, але — Бог рішив інакше…».

У 2009 годзе я сабраў і ў мінскім выдавецтве «Кнігазбор» выдаў кнігу выбраных твораў Сяргея Хмары «Рабінавы хмель». Гэтае выданне, дзякуючы дачцэ Магдалене, стала данінай яго светлай памяці. Чытачы ўпершыню пазнаёміліся з тым лепшым, што нам пакінуў гэты самабытны чалавек, лёс якога быў нялёгкім і супярэчлівым, трагічным і шчаслівым і да канца не даследаваны.

## Крынчык і Лябецкая


*Павел Крынчык*

Хачу прыгадаць у сваёй кнізе Паўла Крынчыка (1898–1975) і Алену Лябецкую (1903–1982) — мужа і жонку, якія ў першай палове XX стагоддзя былі актыўнымі дзеячамі вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, актывістамі Таварыства беларускай школы, вязнямі польскіх і савецкіх лагераў. Павел Крынчык быў родам са Слонімшчыны, а Алена Лябецкая — з Дзятлаўшчыны.

Арганізатар і кіраўнік Народнага музея СШ № 4 г. Слоніма Аляксандр Жукоўскі аднойчы запрасіў Паўла Крынчыка паглядзець ягоны вялікі музей. Павел Сцяпанавіч пагадзіўся. Ён зайшоў з трысцінкай у музей і адразу пачаў разглядаць стэнды. Пад шклом аднаго з іх ён убачыў партрэт Сталіна. Нядоўга думаючы, ветэран падняў трысцінку і з усяе сілы стукнуў па шкле стэнда. Шкло пасыпалася на падлогу. Крынчык падскочыў да Жукоўскага і, махаючы перад носам кійком, закрычаў: «Калі ты яшчэ раз павесіш гэтага вусатага чорта, то я цябе павешу на гэтай кульбе».



Аляксандр Жукоўскі ніколі больш не вешаў партрэт Сталіна ў сваім школьным музеі, хаця ён амаль увесь быў прысвечаны Другой сусветнай вайне.


*Алена Лябецкая*

Алена Лябецкая, калі польскія паліцыянты стукалі ў дзверы Слонімскай акруговай управы ТБШ у 1928 годзе, не разгубілася. Яна паспела праглынуць некалькі папер з тэкстам лістоўкі. Калі ў пакой ТБШ уварваліся паліцыянты і пачалі вобыск, яны ўжо нічога крымінальнага знайсці не змаглі.

Павел Крынчык нарадзіўся ў вёсцы Едначы Слонімскага павета. Перад пачаткам Першай сусветнай вайны рускія казакі выгналі сям’ю Крынчыкаў у Расію. Яны заехалі ажно ў Екацерынаслаў. Там юнак паступіў у мясцовы палітэхнікум шляхоў зносін. Скончыў яго, а потым сям’я вярнулася на Бацькаўшчыну, якая ўжо была пад Польшчай.

Вярнуўшыся на Слонімшчыну, Павел Крынчык стаў адным з ініцыятараў стварэння гурткоў Грамады, Таварыства беларускай школы і спажывецкага таварыства. У 1928 годзе ў польскі сейм былі абраны тры беларускія дэпутаты: І. Дварчанін, І. Гаўрылік, А. Стагановіч. У лютым 1929 года замест А. Стагановіча дэпутатам сейма стаў Павел Крынчык. У Варшаве яму ўручылі пасольскі мандат, і з сакавіка 1929 года ён быў асобай недатыкальнай. Але…

Прыехаўшы ў Вільню, беларускі дэпутат польскага сейма актыўна ўключыўся ў працу сакратарыята пасольскага клуба «Змаганне». Ён стаў плённа працаваць над склікannем Еўрапейскага сялянскага кангрэсу ў Берліне, удзельнікам якога разам з жонкай Аленай Лябецкай быў і сам. Палымяны голас пасла гучаў тады на шматлюдных мітынгах працоўных у Дзярэчыне, Воранаве, Ашмянах, Вільні, Смаргоні, Кельцах, Карэлічах і ў іншых гарадах і мястэчках.

Нягледзячы на недатыкальнасць, Паўла Крынчыка на ўсіх мітынгах абражалі і білі польскія шпікі і паліцыянты. А летам 1929 года ў Карэлічах беларуса нават паранілі выстралам з пісталета



*Алена Лябецкая з сябрамі ТБШ на Слонімшчыне, канец 1920-х гадоў*

ў галаву. Ён апамятаўся тады, калі сябры клалі яго на воз. Юнака хутка завезлі да доктара. Доктар дастаў з патыліцы кулю і сказаў: «Пану вельмі пашанцавала!»

З забінтаванай галавой Крынчыка адвезлі ў гасцініцу, потым на чыгуначную станцыю Наваельня, а адтуль у Вільню. Там перабінтавалі і зрабілі здымкі. Пазней гэта фатаграфія і фатаграфіі ягоных калег-паслоў Дварчаніна, Гаўрыліка, Грэцкага з перабінтаванымі галовамі будуць змешчана на выбарчым плакаце. Плакат заклікаў беларусаў галасаваць за спіс кандыдатаў «Змагання» ў час дадатковых выбараў у сейм, якія праходзілі вясной 1930 года ў Лідскай выбарчай акрузе. Агітацыя аказалася даволі эфектыўнай і пераканаўчай. Толькі гэта ўсё хутка скончылася.

…Паўла Крынчыка паліцыя арыштавала дома. Валынца — у Вілейцы, Гаўрыліка — у цягніку, які ехаў у Варшаву. Іх усіх адправілі ў стэфанаўскую турму ў Вільню. У пачатку 1931 года пачаўся суд над сябрамі беларускага сялянска-рабочага пасольскага клуба «Змаганне». І. Гаўрыліку, І. Дварчаніну, Ф. Валынцу і П. Крынчыку далі па 8 гадоў строгага турэмнага зняволення.



Праз пэўны час у турму завітала сяброўка Чырвонага Крыжа СССР у Польшчы Стэфанія Семпалоўская і сустрэлася ў камеры з Крынчыкам. Спадарыня Семпалоўская паведаміла, што савецкі і польскі ўрады дамовіліся аб абмене палітзняволенымі. «У спіс палітзняволеных, якія належаць абмену, уключаны і вы, — сказала яна. — Цяпер толькі павінна быць ваша згода». Семпалоўская заявіла таксама, что Крынчык можа ўзяць з сабой ўсю сваю сям'ю. Крынчык пагадзіўся і папрасіў з сабой узяць яго жонку Алену Лябецкую.

Так Павел Крынчык і яго жонка Алена Лябецкая апынуліся ў Мінску. Там іх шчыра віталі Валянцін Таўлай і Іван Тарасюк. Быў гэта 1933 год…

Цяпер пару слоў пра Алену Лябецкую. Яна была на 5 гадоў маладзейшая за свайго мужа. Нарадзілася на хутары Лягуцева Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён). У 1910 годзе сям'я яе пераехала ў Гродна, дзе дзяўчынка паступіла ў падрыхтоўчы клас жаночай гімназіі.

Перад пачаткам Першай сусветнай вайны іх сям'ю выгналі ў Калугу. Там дзяўчына вучылася ў жаночай гімназіі. А калі вярнуліся ў 1920 годзе на Бацькаўшчыну — актыўна ўключылася ў грамадска-вызваленчы і культурны рух у Заходняй Беларусі. Яна стварала гурткі ТБШ, была арганізатарам і ўдзельнікам беларускіх спектакляў, канцэртаў на Слонімшчыне, Дзятлаўшчыне і Зэльвеншчыне.

З лістапада 1927 года Алена Лябецкая стала працаваць сакратаром Слонімскай акруговай управы ТБШ. Потым яе як актыўную дзеячку ТБШ забіраюць у Вільню, дзе Алена працуе ў Галоўнай управе ТБШ, загадвае беларускай бібліятэкай-чытальняй.

У лютым 1930 года Алену Лябецкую арыштоўваюць польскія ўлады і асуджаюць на 6 гадоў турмы. Але ў выніку абмену палітвязнямі яна разам з мужам трапляе ў Мінск…

Спачатку ў БССР жыццё наладжвалася някепска. Павел працаваў, а Алена вучылася на геолага-геаграфічным факультэце БДУ, працавала інструктарам у ЦК Міжнароднай арганізацыі дапамогі барацьбітам рэвалюцыі Беларусі. Але аднойчы іх сям'ю наведалі супрацоўнікі НКУС. Спачатку 26 лістапада 1935 года арыштавалі

Паўла і прыгаварылі да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў за «сувязь з разведкай буржуазнай Польшчы». А потым восенню 1937 года арыштавалі і Алену. Павел Крынчык быў этапіраваны ў адзін з Калымскіх лагераў. А Алена Лябецкая была выслана ў адзін з лагераў Усходняй Сібіры.

На Радзіму Алена Лябецкая вярнулася ў 1947 годзе, а Павел Крынчык — у 1956 годзе. Яны жылі ў Слоніме, дзе і памерлі. Пасля сябе Павел Крынчык і Алена Лябецкая пакінулі невялікія ўспаміны пра барацьбу і дзейнасць у 1920–1930-х гадах у Заходняй Беларусі. Гэтыя ўспаміны друкаваліся ў кнігах «У суровыя гады падполля» (Мінск, 1958), «Годы испытаний и мужества» (Мінск, 1973), «Вильнюсское подполье» (Вільнюс, 1966). Пра сталінскія лагеры ўспамінаў яны не пісалі.

Неяк перад выступленнем у адной са школ Алена Канстанцінаўна Лябецкая сказала: «Мы ніколі не ішлі на гатовае, мы ўсё аддавалі справе роднай Беларусі, бо ў нас іншых шляхоў не было».

## З кагорты беларускіх патрыётаў

1

Напачатку 1990-х гадоў я пазнаёміўся з вязнем сталінскіх лагераў Міколам Канашам (1926–2006) са Жлобіна, перапісваўся з ім, пытаўся ў яго пра Ларысу Геніюш, Васіля Супруна, Тодара Лебяду і іншых беларускіх паэтаў, якія прайшлі ГУЛАГ. Аднойчы спытаў і пра сябра Саюза вызвалення Беларусі Віталя Губарэвіча. Спадар Мікола хутка даслаў адказ (перапіску з Міколам Канашам я апублікаваў у сваёй кнізе «Сярод сваіх людзей» (Мінск, 2012. С. 217–232). У ім ён шчыра прыгадаў і Віталя Губарэвіча (з ліста ад 21 сакавіка 1994 года): «Віталя Губарэвіча я сустракаў толькі ў зняволенні, захаваў каля двух дзясяткаў ягоных вершаў з тых часоў. Яго ўжо няма ў жывых, ён памёр дзесьці ў сябе на радзіме ў сярэдзіне ці пачатку 1970-х гадоў. Ведаю, што ў яго жывая яшчэ маці…». Я адразу адказаў Міколу Канашу, прыгадаўшы, што Віталь Губарэвіч пісаў добрыя вершы. А ў адказ спадар Мікола паведаміў (ліст ад 11 красавіка 1994 года, усе пісьмы ад Міколы Канаша захоўваюцца



у аўтара гэтых радкоў. — *С. Ч.*): «Скуль Вы ведаеце, што Віталь Губарэвіч пісаў добрыя вершы? Я Вам даслаў толькі адзін, прысвечаны Ларысе Геніюш. Але я не сказаў бы, што вершы Губарэвіча вельмі добрыя, пісаў ён іх у лагеры экспромтам, захаваць магчымасці добрай не меў. Ён казаў мне, што ўсуне ў бутэльку і закапае, магчыма, нехта натрапіць, але шансу на гэта не было ніякага. Таму ўзяў я іх сабе, перачытаў і, лепшыя на мой погляд, вывучыў на памяць, іншыя — прыхаваў у шахце. І толькі пасля выхаду на волю,пачаў прыводзіць да парадку. І, такім чынам, што захаваў, тое маю і сёння. Усе іншыя, відаць, прапалі, як ён пісаў сам. І ўсё ж, вядома, мне хацелася нейкім чынам зрабіць так, каб пачулі іх людзі. Я стараўся падобнае рабіць, але поўнай галоснасці дасягнуць так і не змог. Па-першае, вершы неабходна яшчэ адшліфаваць і толькі потым пусціць у друк, а гэта не так і проста. Па-другое, ёсць у Губарэвіча вершы і на расейскай мове, значыць, іх трэба перакласці на нашу родную мову…».



*Віталь Губарэвіч, 1960-я гг.*

Пытаўся пра Віталя Губарэвіча ў Міколы Канаша і наш гісторык Міхась Чарняўскі. Спадар Канаш тады адказаў і яму. Адказ гэты быў апублікаваны ў кнізе «Саюз вызвалення Беларусі: 1946–1947» (Мінск, «Беларускі Рэзыстанс», 2005. С. 59–60): «З Віталём Губарэвічам мне давялося пазнаёміцца ў страшных умовах ГУЛАГу 45 гадоў таму ў пасёлку Інта Комі АССР на 1-і ОЛП-е. Нічым асабліва ён не адрозніваўся ад іншых зняволеных: той жа бушлат з нумарам на спіне, тая ж аблавушка з рознакаляровых кавалачкаў тканіны на галаве, засмуголеныя невядомага колеру штаны ды кароценькія абгарэлыя вайлакі на нагах. Невысокага росту, з хударлявым тварам, на якім тырчэў нос. Уражвалі хіба вялікія вочы бледна-шэрага колеру. Ён, як пасля казаў мне, хварэў на сухоты. А родам быў з Дзятлаўскага раёна, што на Гарадзеншчыне. Пісаў вершы на беларускай і расейскай мовах.



*Віталь Губарэвіч, Інта, 1954 г.*

На той час я ўжо быў знаёмы з Ларысай Геніюш, якая знаходзілася тамсама, толькі на 4-м ОЛП-е, жаночым. Аднаго разу я пару Віталёвых вершаў адаслаў Ларысе. І неўзабаве атрымаў адказ, што яны яшчэ далёка не дасканалыя, але нічога — няхай піша надалей, не варта адбіваць у яго ахвоту пісаць…

Наўпрост Віталь з Ларысай не ліставаўся, а час ад часу аддаваў мне свае лісты пераважна ў вершаванай форме, каб я адаслаў ёй. Але такая перапіска між імі працягвалася нядоўга. Узніклі непаразуменні ў думках, у поглядах, разважаннях. Віталь лічыў сябе выхадцам з беднай сялянскай сям'і, а Ларысу чамусьці далучаў да мяшчанаў і да тых, што стаялі «на версе». Вядома, не меў рацыі. Па натуры ён быў добры, ён у парыве злосці не ўмеў сябе стрымліваць. І ў дадатак яшчэ быў хворы.

У 1955 ці ў пачатку 1956 года — адным словам, ляжаў яшчэ снег і было зімна — на шахце № 2 забіла камбайнам нашага хлопца Міколу Граноўскага, ён быў з Шаркоўшчынскага раёна, што на Віцебшчыне. І мы, беларусы, вырашылі яго пахаваць па-Божаму. Быў гэта ўжо час «хрушчоўскай адлігі». Мікола Яцкевіч працаваў у інструменталцы шахты № 2 і дапамог цеслярам зрабіць труну й крыж. Слаўка Прыстаўка арганізаваў збор грошай, і купілі касцюм. Быў складзены й пададзены начальству лагера спіс зняволеных беларусаў з шахты № 2 (каля 20 чалавек), каб дазволілі выйсці з зоны на пахаванне. Дазвол быў дадзены. Быў там і Віталь Губарэвіч, які прачытаў над магілай свой верш "На смерць Міколы Граноўскага". А па нейкім часе яму з бетону зрабілі помнік, дзе на мармуровай дошцы выразалі надпіс. Тэкст цяпер ужо дакладна не памятаю, ведаю толькі, што ёсць словы "Не забудзем цябе, сябра". Пахаваны ён на могілках у лесе "Сангарадка" непадалёку ад "Пцічніка". Можа, тая мясціна захавалася яшчэ й сёння?..».



## 2

Віталь Губарэвіч нарадзіўся 3 студзеня 1926 года ў вёсцы Наваельня Дзятлаўскага раёна. Калі яму споўнілася два гады — памерла маці. Бацька Віталя спачатку працаваў псаломшчыкам у царкве, а потым, калі прыйшлі саветы, на чыгунцы. Але аднойчы ў іх дом завіталі людзі ў цывільным з наганамі, зрабілі ў хаце вобыск, ператрэслі ўсе кнігі, але нічога крымінальнага і падазронага не знайшлі. Тым не менш бацьку Віталя Губарэвіча Міхася Губарэвіча арыштавалі. Больш сын і ўсе родныя і блізкія яго людзі, а таксама вяскоўцы, ніколі Губарэвіча старэйшага не бачылі, нават нічога не змаглі даведацца пра яго далейшы лёс.

Калі пачалася вайна, Віталь працягваў вучобу ў вячэрняй школе, а таксама падпрацоўваў на чыгунцы, каб дапамагчы сям'і. Немцы неяк запрыкмецілі на чыгунцы юнака і хутка яго адправілі на працу ў Германію. Па іншай інфармацыі, Віталь быў арыштаваны ў Вільні, там ён знаходзіўся ў роднай сястры. Выйшаў на рынак і трапіў у аблаву, дзе яго і схапілі. У Германіі ён цяжка працаваў на адным з ваенных заводаў.

На Дзятлаўшчыну юнак вярнуўся вясной 1945 года. Адразу пачаў працаваць, а таксама працягваў вучобу ў вячэрняй школе. Тады зачытваўся творамі беларускай літаратурай, сам пісаў вершы, але нікому іх не паказваў. На радзіме шукаў аднадумцаў, сяброў, якія яго разумелі б, з якімі ён мог бы падзяліцца сваімі думкамі і планамі.

У 1946 годзе Віталь Губарэвіч становіцца сябрам Саюза вызвалення Беларусі (СВБ). Найперш упаўнаважаным СВБ на Дзятлаўшчыне. Супрацоўнікі НКУС яго часта затрымлівалі, выклікалі юнака на допыты, але стопрацэнтных доказаў знайсці не змаглі. І хоць Віталю было толькі 20 гадоў, за гэты час ён шмат бачыў і перажыў, меў пэўны жыццёвы вопыт. Але ўлады хацелі зламаць яго дух. Як жа так: бацька быў ворагам народа, сам Віталь падчас вайны знаходзіўся ў Германіі, а вярнуўшыся дамоў заўсёды раз-

маўляў па-беларуску, пісаў вершы… За Віталем пастаянна сачылі. І неяк сярод сяброў СВБ знайшоўся здраднік, які іх выдаў НКУС. Сяброў арыштавалі: адных саслалі ў Сібір, іншых расстралялі. Не ўдалося толькі арыштаваць Губарэвіча. Але аднойчы такі момант здарыўся. У вячэрняй школе, дзе вучыўся Віталь, вісеў партрэт Сталіна. Неяк нехта выкалаў дыктатару вочы. Доўга шукалі вінаватага, пакуль нарэшце сын дырэктара школы не сказаў, што гэта зрабіў Губарэвіч, хаця ён да гэтай справы ніякага дачынення не меў. Хутка Віталя арыштавалі і далі яму 10 гадоў, адправіўшы ў Варкуту, а потым у Інту. Адбылося гэта ў траўні 1947 года.

У лагерах дзятлаўскаму хлопцу было невыносна цяжка, але дух юнака не зламалі. У яго пачаліся сухоты. Ад гэтай хваробы і ад цяжкай працы паміралі дзесяткі сяброў. Але Віталь трымаўся сваіх землякоў, якія разам дапамагалі адзін аднаму выжыць. Там ён пазнаёміўся з Ларысай Геніюш, перадаваў праз сяброў ёй свае вершы, спрачаўся, разважаў. Адзін з вершыў нават прысвяціў паэтцы. У ім ёсць і такія радкі:

…Ты гамаю акордаў мілагучных
Напоўніла мне сэрца да краёў,
І вобразаў так родных, неадлучных
Чарга перад вачыма ўстала зноў.
І я за ліру ўзяўся міма волі,
І грозна песня загула мая,
Яна пяе братам маім аб волі,
Аб нашых родных, дарагіх краях.
Але не плач у песні гэтай льецца —
Яна гучыць, як атамана кліч,
Прокляццем грозным з сэрца майго рвецца,
Ўздымае помсты ўсенароднага біч.

## 3

На родную Бацькаўшчыну Віталь Губарэвіч вярнуўся ў 1956 годзе, тады яму было толькі 30 гадоў. У Наваельні на Дзятлаўшчыне ён здаў экзамен за курс сярэдняй школы і паступіў на фармацэўтычны факультэт Ленінградскага хіміка-фармацэўтычнага інстытута, які скончыў, атрымаўшы спецыяльнасць правізара-фармацэўта. Працаваў у аптэках вёскі Наваельня, у Навагрудку, а потым яго прызначылі на працу ў вёску Дварэц аптэкарам.





*Віталь Губарэвіч (пасярэдзіне) з сябрамі каля аптэкі ў вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна, 1965 г.*

Вёсцы пашанцавала. Бо, акрамя сваёй працы, Віталь вёў актыўнае грамадскае жыццё. Ён іграў у Наваельнянскім духавым аркестры, арганізаваў тэатральны гурток у мясцовым клубе ў Дварцы. Вясковыя артысты часта паказвалі пастаноўкі па творах беларускіх драматургаў. Сам Віталь выдатна іграў камедыйныя ролі, пісаў розныя вершаваныя гумарэскі на тэмы вясковага жыцця і выконваў іх на сцэне. У вольны час ён спрабаваў пісаць вершы, займаўся перакладамі гумарэсак з польскага часопіса «Шпількі», які выпісваў. Збіраў і запісваў у вёсках Дзятлаўшчыны легенды і паданні.

Але страчанае здароўе ў Германіі і 9 гадоў лагераў рана забралі ў яго жыццё. Віталя Губарэвіча не стала ў 1976 годзе. Яго пахавалі на могілках у вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна, дзе да сённяшніх дзён стаіць там сціплы помнічак.

## 4

У пошуках звестак пра Віталя Губарэвіча напрыканцы 2013 года я сустрэўся з дзятлаўскім 82-гадовым паэтам, настаўнікам-пенсіянерам Міколам Грышанам, які некалі шукаў сляды Віталя Губарэвіча. Мы доўга гутарылі пра яго і пра той час.

— Спадар Мікола, калі Вы займаліся пошукамі звестак пра Віталя Губарэвіча?

— Гэта было ў пачатку 1990-х гадоў. Я тады наведаў вёску Дварэц, бачыўся з яго другой жонкай. Калі Віталь Губарэвіч працаваў у Германіі, яму адарвала ўказальны палец на правай руцэ. Яго арыштавалі за ўдзел у Саюзе вызвалення Беларусі. Штаб арганізацыі знаходзіўся ў Навагрудку. Раскрыў арганізацыю правакатар, падасланы да іх. У раённай газеце Віталь Губарэвіч сваіх вершаў не друкаваў, відаць, яго вершы былі не для друку. У тых 1990-х гадах я напісаў і прысвяціў яму свой верш, праўда, ён нідзе не публікаваўся. Верш гучыць так:

На свеце жыў юнак-паэт,
Ад мерзлаты прыдбаў сухоты.
Не змог ускалыхнуць ён свет,
Ён плавіўся, гарэў употай.
Ды толькі душу груганы
Не змаглі вырваць кіпцюрамі,
Не ведалі тады яны,
Што ў цьме зырчыць яна агнямі.
Ён быў зраднёны са скалой,
Дзе б'юцца ў громах вадаспады.
Таму фальшывасці сляпой
Яго дух быў непадуладны.

— А ці пыталася ў Віталя жонка, за што ён быў арыштаваны?

— І я такое пытанне таксама задаваў жонцы Губарэвіча. Яна пыталася ў яго, але Віталь казаў, што на допытах яго абвінавачвалі, быццам падчас вайны ён дапамагаў немцам у Германіі, калі быў прымусова туды вывезены. Пра Саюз вызвалення Беларусі ён нікому нічога пасля вяртання з лагераў не казаў.

У Губарэвіча тады быў пасынак — Міша Кузьміцкі. Некалі ён працаваў педагогам, быў даволі адукаваным чалавекам. Меў вышэйшую адукацыю. Пісаў вершы, друкаваўся. Але ў 1990-х гадах ён ужо не пісаў нічога, працаваў вартаўніком, бо з'ела беднага гарэлка. А цяпер у жывых іх наогул нікога ўжо няма. Людзі казалі мне тады, што вершы Кузьміцкі пісаў не сам, а гэта былі вершы Губарэвіча,



якія Міша прыпісваў сабе. Але я ў гэта мала веру, бо друкаваўся Кузьміцкі ў 1960-х гадах, калі жыў Губарэвіч, а на такое Кузьміцкі не змог бы пайсці. Ды стыль вершаў Кузьміцкага не падобны на стыль вершаў Губарэвіча.

— А ці вядома Вам, што за правакатар выдаў Саюз вызвалення Беларусі і, у прыватнасці, Віталя Губарэвіча?

— Калі ў вячэрняй школе ў Наваельні вучыўся Віталь Губарэвіч, інструктарам Дзятлаўскага райкама камсамола быў Алесь Бажко. Яны былі добра знаёмыя. Вось ён і аказаўся тым правакатарам. Справа ў тым, што пра яго як пра стукача мне распавядаў неяк былы выкладчык Гродзенскага педінстытута Баніслаў Ржэўскі (1905–1980). КДБ падаслала Бажко да Ржэўскага, калі той аднойчы быў выкліканы ў Мінск, нібы для ўдакладнення праграмы па беларускай літаратуры. Тры дні ўвіхаўся каля Ржэўскага тады Бажко, а потым змест іх размоў быў прыгаданы на допытах Ржэўскага, якія праводзілі супрацоўнікі КДБ у 1957 годзе. 25 сакавіка 1957 года Ржэўскага Баніслава асудзілі Гродзенскім абласным судом па артыкуле 72 КК БССР да 7 гадоў пазбаўлення волі. Так што і ўсім сябрам Саюза вызвалення Беларусі, у тым ліку і Віталю Губарэвічу, дасталося ад Бажко.

## 5

Вось такім быў кароткі лёс дзятлаўскага змагара Віталя Губарэвіча — беларускага патрыёта, творчага чалавека, фармацэўта. Яго жыццёвы шлях яшчэ трэба даследаваць, таму што пра такіх беларусаў мы павінны ведаць і не забываць ніколі. І яшчэ. Хачу шчыра падзякаваць настаўніцам Дварэцкай сярэдняй школы Дзятлаўскага раёна Наталлі Ляўкевіч і Вікторыі Воўкавай, а таксама сябрам гісторыка-патрыятычнага клуба «Спадчына» гэтай школы за дапамогу ў зборы матэрыялаў пра Віталя Губарэвіча.

*2014*

# Разьбяр па дрэве


*Уладзімір Мацюк*

У Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі адведзены невялікі куток, прысвечаны творчасці беларускага разьбяра па дрэве Уладзіміра Мацюка (1902–1989). Працы яго таксама знаходзяцца ў Расіі ў Дзяржаўным музеі этнаграфіі ў Санкт-Пецярбургу і ў музеях Рэспублікі Беларусь.

Уладзімір Мацюк нарадзіўся ў Беластоку. У сярэдзіне 1940-х гадоў не па сваёй волі прыйшлося пакінуць з сям'ёй родныя мясціны і пераехаць у Дзятлава, дзе і пражыў ён усё сваё астатняе жыццё. З дзяцінства самадзейны мастак захапіўся разьбой па дрэве і ўжо ў 1930–1940-х гадах удзельнічаў у мастацкіх выставах. У Беларусі яго творы экспанаваліся на розных абласных і рэспубліканскіх выставах, а таксама на выставах былога Савецкага Саюза. Многія з іх былі адзначаны прэміямі і дыпломамі.

Асноўная тэматыка твораў Уладзіміра Мацюка (рэльеф, круглая скульптура) — гэта гісторыя беларускага народа, яго сялянская праца, да якой мастак быў блізкі і добра яе ведаў. Сама скульптурная прапрацоўка формы ў работах Уладзіміра Мацюка вылучаецца мноствам дробных парэзаў, якія дапамагалі мастаку выявіць пластыку фігур.

Сярод твораў гэтага таленавітага чалавека, якія захаваліся ў розных музеях, вядомы такія, як, напрыклад, «Араты» (1940 г.), «З данясеннем» (1945 г.), «Дудар», «Тры пакаленні ў барацьбе за Радзіму» (абодва ў 1954 г.), «Скончаны працоўны дзень», «Начлег», «Жанчына з граблямі», «Жывёлавод», «Стары на прызбе» (усе 1950-я гг.) і многія іншыя.

Гэтая невялікая нататка няхай нагадае яшчэ раз пра таленавітага разьбяра з Дзятлава. Такіх людзей нельга забываць, тым больш, што, здаецца, зусім нядаўна яны жылі побач у адным горадзе, а іх ужо даўно няма сярод нас.

*2013*



# Вячаслаў Адамчык — пісьменнік з Babakомшчыны


*Вячаслаў Адамчык*

Вёска Варакомшчына сёння знаходзіцца ў Дзятлаўскім раёне. А 1 лістапада 1933 года, калі нарадзіўся Вячаслаў Адамчык, яна была пад Польшчай і ўваходзіла ў Наваградскае ваяводства. Як прыгадваў пісьменнік у сваіх «Крэсках з аўтабіяграфіі» (Мінск, 1973. С. 9), «Варакомшчына… дзікаватае, незвычайнае слова. Але яно для мяне хрумсціць, як парэзаная скрылікамі і падсмажаная з алеем бульба. Варакомшчына…».

Тры гады ён хадзіў у «нямецкую» школу, якая знаходзілася ў пустой яўрэйскай хаце з аблупленымі шпалерамі. Потым, пасля вайны, пайшоў у вячэрнюю. Адначасова пачаў падпрацоўваць, разгружаючы на чыгуначнай станцыі Наваельня цэмент, соль, гарэлку, кавуны. З таго часу вельмі любіў пах мазуты, свісток сцэпшчыка, раптоўны лязгат вагонаў і белы салодкі дым ад чорных паравозаў.

Да беларускага Вячаслава Адамчыка прывучылі кнігі віленскіх выданняў, што ляжалі на гарышчы ў дзядзькі. А беларускія песні пачуў ад маці, а таксама ад вясковых жанчын, якія заўсёды іх любілі спяваць, асабліва на вяселлях і хрэсьбінах. Землякі ўсе разам і натхнілі юнака на вучобу — у 1952 годзе ён паступіў на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.

У 1957 годзе апублікаваў першае апавяданне. Праз год выйшаў першы зборнік прозы «Свой чалавек». А потым былі дзясяткі іншых кніг. Але найбольшую папулярнасць пісьменніку прынеслі яго раманы «Чужая бацькаўшчына», «Год нулявы», «І скажа той, хто народзіцца», «Голас крыві брата твайго». Яго раманы прысвечаны жыццю Заходняй Беларусі. У цэнтры раманаў вобраз маладой жанчыны, якая, застаўшыся ўдавою, хоча знайсці сваё каханне, сваю страчаную маладосць, але па сутнасці губіць сваё жыццё. За іх пісьменнік атрымаў літаратурную прэмію імя Івана Мележа



*Вячаслаў Адамчык каля валуна за Babaкомшчынай, 1980 г. Фота Міраслава Адамчыка*

і Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Якуба Коласа.

Я пазнаёміўся з Вячаславам Адамчыкам у кастрычніку 1988 года, калі быў запрошаны ў Навагрудак на абласное свята паэзіі. У літаратурным свяце тады прымалі ўдзел Алег Лойка, Данута Бічэль, Анатоль Клышка, Алена Руцкая, Анатоль Іверс, Самсон Пярловіч, Валянціна Аколава, Юрась Пацюпа, дацэнт Ягелонскага ўніверсітэта з Польшчы Анджэй Рамаюўскі. Быў з намі і Вячаслаў Адамчык. У зале гарадскога Дома культуры, памятаю, сабралася вельмі шмат людзей. Нас шчыра віталі і прыпаднеслі нам хлеб-соль. Вечар адкрыў і вёў Вячаслаў Адамчык. А потым мы сустракаліся з сябрамі мясцовага літаратурнага аб'яднання пры раённай газеце «Новае жыццё», з навучэнцамі гандлёва-эканамічнага тэхнікума, сябрамі аб'яднання «Сваякі», працаўнікамі калгаса «Свіцязь», пабывалі ў пансіянаце «Свіцязь». У тых сустрэчах Вячаслаў Адамчык быў намі ўмоўна абраны за кіраўніка нашай пісьменніцкай суполкі. Усюды ён ішоў першы, знаёміў нас, прымаў падарункі, калі яны былі, і ад імя пісьменнікаў казаў усім, хто нас сустракаў, шчырыя словы.

З 1982 года Вячаслаў Адамчык быў галоўным рэдактарам часопіса «Бярозка». Напачатку 1993 года я даслаў у часопіс вершы паэта Сяргея Хмары (1905–1992), які быў земляком рэдактара, бо нарадзіўся ён на Дзятлаўшчыне ў вёсцы Казлоўшчына. Ішоў час, а творы Сяргея Хмары так і не з'яўляліся ў «Бярозцы». Я напісаў ліст асабіста Вячаславу Уладзіміравічу і запытаўся, чаму ён не публікуе свайго земляка. І хутка ў вераснёўскім нумары «Бярозкі» за 1993 год з'яўляецца мой артыкул пра Сяргея Хмару «Бясконцы шлях дадому» і верш паэта «Калыхала зыбку маці», які ён напісаў ажно ў 1935 годзе.



З Вячаславам Адамчыкам добра сябраваў і яго зямляк з Дзятлава, заснавальнік мясцовага краязнаўчага музея Міхась Петрыкевіч (1913–1999). Нядаўна сын Міхася Петрыкевіча Валерый Петрыкевіч з Дзятлава перадаў мне адно пісьмо са свайго хатняга архіва. Гэта ліст Вячаслава Адамчыка да Міхася Петрыкевіча, які як дырэктар музея шмат у яго пытаўся пра гісторыю Дзятлава. Ці пішуць сёння падобныя грунтоўныя лісты пісьменнікі? Здаецца — не. Пісьмо Вячаслава Адамчыка да Міхася Петрыкевіча — гэта прыклад пісьменніцкай дапамогі тым, хто займаецца карыснай справай, гэта прыклад, як трэба адгукацца на просьбы людзей, дапамагаць карыснай інфармацыяй, знаходзіць час адпісаць пісьмо, параіць, дапамагчы. Ліст быў напісаны Вячаславам Адамчыкам 26 чэрвеня 1971 года:

«Дарагі Міхаіл Тодаравіч!

Выконваю Вашу просьбу — высылаю тыя невялікія звесткі, якія маю пра Зецелу. Ці чулі Вы, што тамтэйшыя людзі на Дзятлава ці Здзецела кажуць Зецела. Гэта даўнейшая беларуская назва і яна пацвярджаецца дакументамі. У XIV томе "Літоўскіх выданняў Віленскай археаграфічнай камісіі" (1888 г.), ёсць інвентар маёнтка Здзецела, які належаў князю Канстанціну Астрожскаму. Гэты дакумент зроблены 24 красавіка 1560 года. Канстанцін Астрожскі (ці, як тут называецца яго поўны тытул, — ваявода Кіеўскі, маршалак зямлі Валынскай) быў адным з прагрэсіўных палітычных дзеячаў XVI стагоддзя. Ён змагаўся супраць паланізацыі, выступаў на польскіх сеймах, патрабуючы незалежнасці для беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх земляў. Гэта трэба ўлічваць, характарызуючы К. Астрожскага.

А цяпер наконт мястэчка Здзецела. Я выпісаў з інвентара толькі назвы вуліцаў: Гальшанская, Памарайка, Дворная, Дубатоўкаў. Я не адзначыў для сябе, колькі ж у Зецелі было двароў і колькі ім належала валок. У гэтым дакуменце мяне зацікавіла другое, а менавіта як утварыліся беларускія прозвішчы. Сянюта, напрыклад. У гэтым дакуменце падаецца як імя: Сянюта Галюновіч з Ятвезі або Шымко Андрэйновіч з Погір. Або такія імёны, як Станюк, Петраш, Матук, Яцук, Клімец, Санец, Кунец, Пацук — сталі цяпер прозвішчамі.

У вёсцы Клішавічы былі, напрыклад, такія імёны і прозвішчы: Грын Рудзік, Гасціла Чэшэйко, Пацук Федзевіч, Цішук Клішэвіч, Талюш Клішэвіч. Няўжо Гасціла, ці як мы цяпер пішам, перайначыўшы яго на рускі лад, Гастэла — гэта імя?..

Але я адхіліўся. Пазнейшыя звесткі пра Зецелу можна знайсці ў "Памятных кніжках Гродзенскай губерні". Я ведаю, што яны ёсць за 1866 год, за 1897, 1903 гады. Там можна даведацца, колькі і ў якім мястэчку было жыхароў, двароў, касцёлаў, цэркваў, сінагогаў, калі былі кірмашы, хто быў начальнікам паштовага аддзялення і як прозвішча настаяцеля касцёла. Вось некалькі выпісаў са зборніка "Волости и важнейшие селения Европейской России" (выпуск 5, 1886):

Слонімскі павет, воласць Дзятлаўская:

Вензавец — 90 двароў, 850 жыхароў, царква праваслаўная, кірмаш.

Засецце — 91 двор, 581 жыхар.

Ахонаў — 93 двары, 470 жыхароў, царква праваслаўная, школа.

Дзятлаў (Здзецел) — 118 двароў, 602 жыхары, царква праваслаўная, дзве сінагогі, школа, пошта і г. д.

А як паведамляе "Адрес-календарь к памятной книжке Гродненской губерни на 1897 год", у Дзятлаве праз 10 гадоў ужо было 3315 жыхароў. Значыць: 602 — лічба памылковая, можа 902. Словам, калі ў мяне будзе вольная хвіліна, то я зайду ў Ленінскую бібліятэку і выпішу з інвентара маёнтка Дзятлава шырэйшыя звесткі. А пакуль — усяго Вам найлепшага.

Вяч. Адамчык. 26. 06.71 г.».

## Стваральнік Дзятлаўскага музея

Кніга краязнаўчых артыкулаў Міхася Петрыкевіча і ўспамінаў пра яго павінна была выйсці з друку даўно, дый нават і не адна. Але такой мажлівасці не ўзнікла: ні пры жыцці Міхася Петрыкевіча, ні пасля яго смерці. І толькі ў 2013 годзе, калі грамадскасць Дзятлаўшчыны адзначыла 100-гадовы юбілей Міхася Фёдаравіча Петрыкевіча, з'явілася ідэя сабраць краязнаўчыя артыкулы гэ-



тага чалавека пад адну вокладку і выдаць іх асобным выданнем. Што я і зрабіў. На маю думку, кніга «Народжаны вечнасць тварыць» (Мінск, 2013) атрымалася. Яна вярнула з небыцця яшчэ адно імя чалавека, які жыў з намі побач у XX стагоддзі, выхоўваў малодшае пакаленне, вывучаў родны край, ствараў музеі, пісаў пра тое, пра што ў 1960–1970-х гадах мог напісаць настаўнік, краязнавец, гісторык, пра што тады мог выказаць свае думкі, апублікаваць іх. Вядома ж, калі б сёння жыў Міхась Фёдаравіч і пісаў, то гэта былі б іншыя артыкулы і краязнаўчыя даследаванні, і па-іншаму ён распавядаў бы іх людзям. Тым не менш і тое, што засталося нашчадкам ад творчай спадчыны педагога, краязнаўца і музейшчыка, заслугоўвае ўвагі, разваг і вялікай памяці.



*Міхась Петрыкевіч, 1980-я гг.*

Міхась Фёдаравіч Петрыкевіч быў унікальным чалавекам, але найперш вельмі таленавітым і працалюбівым. Любоў да людзей, да роднай зямлі выхавалі ў ім яшчэ бацькі ў вёсцы Падкасоўе, што на Навагрудчыне. Там ён і з'явіўся на свет 31 ліпеня 1913 года. Бацька меў толькі 5 дзесяцін зямлі, таму асаблівага дастатку не было, але жылі не без хлеба. Трывожыла, аднак, думка, як будуць жыць далей, калі прыйдзецца на пяцярых дзяцей падзяліць бацькавы загоны. Можа таму і вырашылі ў сям'і, каб хаця адзін з іх здабыў адукацыю і адмовіўся ад спадчыны. Гэты выбар дастаўся Міхасю.

У 1925 годзе пасля заканчэння чатырохкласнай пачатковай школы бацька адвозіць сына ў Адамполь (былы маёнтак графа Храптовіча), дзе польскія ўлады адкрылі дзвюхгадовую школу для падрыхтоўкі кандыдатаў у настаўніцкую семінарыю. У гэтай школе вучыліся дзеці небагатых паноў, чыноўнікаў-палякаў, было некалькі і сялянскіх дзяцей-беларусаў.

Падчас вучобы ў былым маёнтку Храптовічаў да Міхася Петрыкевіча прыходзіць сумная вестка — памірае бацька. Хлопчык вяртаецца ў родную вёску. Але сям'я вырашае, што здоль-

ны да навукі Міхась павінен працягваць вучобу. І ён пасля школы паступае ў Наваградскую беларускую гімназію.

Вучыўся юнак добра. Але ў апошнім класе далучыўся да камсамольцаў Заходняй Беларусі, за што Наваградскі акруговы суд прыгаварыў яго да трох гадоў зняволення і пазбавіў на 10 гадоў усіх грамадзянскіх правоў.

У 1934 годзе Міхась Петрыкевіч выйшаў на волю, аднак вучыцца не меў права, ды і на працу не бралі. Таму падаўся ажно ў Налібоцкую пушчу. Уладкаваўся дрывасекам, але і там непрыкметна займаўся агітацыйна-масавай работай сярод лесарубаў і возчыкаў лесу.

У верасні 1939 года ў Заходнюю Беларусь прыходзіць савецкая ўлада. Міхась Петрыкевіч вяртаецца з Налібоцкай пушчы і едзе ў Наваградак. Там працуе загадчыкам аднаго са школьных інтэрнатаў першай Наваградскай школы, а ў вольны час рыхтуецца да паступлення ў інстытут. А ў 1940 годзе Міхась Петрыкевіч паступае на літфак Беластоцкага педінстытута. У сваім хатнім архіве я знайшоў згадку пра сустрэчу Якуба Коласа і Янкі Купалы ў Беластоцкім педінстытуце. Гэтую згадку некалі мне даслаў сам Міхась Петрыкевіч. У пісьме Міхась Фёдаравіч прыгадваў наступнае: «Гэта было 14 кастрычніка 1940 года ў горадзе Беластоку. Я тады вучыўся ў Беластоцкім педінстытуце на літаратурным факультэце. Вялікай падзеяй у жыцці інстытута і маім асабістым жыцці была нечаканая першая сустрэча з Народнымі паэтамі Беларусі Янкам Купалам і Якубам Коласам. У Беластоку тады праходзіла выязная сесія АН БССР. На сесіі прысутнічалі і народныя песняры. Калі мы пра гэта даведаліся, то аднадушна вырашылі арганізаваць у інстытуце сустрэчу з паэтамі. Дырэкцыя інстытута падтрымала нашу ініцыятыву. На хуткую руку мы падрыхтавалі невялікі канцэрт, выпусцілі спецыяльны нумар насценнай газеты.

14 кастрычніка пад вечар дэлегацыя студэнтаў, сярод якіх быў і я, адправілася ў памяшканне, дзе праходзіла сесія. Калі літаратарам перадалі нашу просьбу, то яны адразу пагадзіліся з намі сустрэцца. Мы крыху пачакалі. І раптам з прэзідыума выйшлі народныя паэты, ветліва прывіталіся, і мы накіраваліся ў педінстытут. Нашаму шчасцю не было канца. Трэба было ісці не





*Наваградская беларуская гімназія. Сядзіць трэці злева ў першым радзе Міхась Петрыкевіч, 1929 г.*

менш кіламетра, і ўвесь гэты час мы маглі свабодна гутарыць з любымымі паэтамі. Вечар быў цёплы і ціхі. Ападала лісце з ліп і каштанаў. Вясёлая грамада абступіла паэтаў, мы ішлі гурбою. Янка Купала ўвесь час жартаваў, а мы смяяліся.

Я ішоў побач з Якубам Коласам. Ён цікавіўся нашым мінулым, пытаўся, адкуль мы родам. Калі даведаўся, што я з Наваградчыны, то сказаў: “Добра ведаю Наваградчыну. Слаўныя там людзі, прыгожая прырода. У мяне было многа блізкіх таварышаў з Наваградчыны”.

Актавая зала была ўжо поўнай, калі мы прыйшлі. Паэтаў сустракалі дружнымі і доўгімі апладысментамі. Песняры раскланяліся, распрануліся і селі за стол прэзідыума. Кароткую прамову сказаў супрацоўнік АН БССР Барысенка В. В., які суправаджаў паэтаў. Потым выступілі з чытаннем сваіх вершаў Янка Купала і Якуб Колас. Што яны чыталі — я ўжо не памятаю. Мы як зачараваныя слухалі іх, запаміналі міміку, жэсты. Асабліва запомнілася, што голас Якуба Коласа быў гучны і звонкі.

Паэты падзякавалі за цёплы прыём, пажадалі нам поспехаў у вучобе, напомнілі пра вялікую адказнасць настаўнікаў перад народам, пра тое, што заходнія вобласці чакаюць нас, каб ліквідаваць адсталасць народа, павысіць яго культуру.

У перапынку мы папрасілі падпісаць нам кнігі. Паэты разгубіліся, бо ў іх не было з сабой кніг. Калі ж яны даведаліся, што мы самі купілі іх кнігі, — ахвотна падпісалі на памяць аб сустрэчы некалькі дзясяткаў сваіх кніг. Янка Купала падпісаў мне свой зборнічак “Над ракой Арэсай”, а Якуб Колас — зборнік выбраных твораў.

Калі пачалася вайна, я вырваў тытульныя лісты з аўтографамі і насіў іх з сабой. Але на фронце, дзе я быў, яны згубіліся. Янку Купалу я больш ніколі ў жыцці не бачыў, а Якуба Коласа сустракаў некалькі разоў пасля вайны. Аднак першая сустрэча ў Беластоку была самая яркая, самая хвалюючая і запомнілася мне назаўсёды».

Падчас вучобы ў Беластоку Міхась Петрыкевіч працаваў і настаўнікам па ліквідацыі бязграматнасці на абцасавай фабрыцы ў горадзе Беластоку. Сын Міхася Петрыкевіча Валерый Міхайлавіч перадаў мне цікавы дакумент на рускай мове. Гэты дакумент адрасаваны быў у Навагрудскі раённы аддзел народнай адукацыі ад грамадзяніна Зазекі Іосіфа Васільевіча з Мінска. У заяве спадар Зазека паведамляў наступнае: «Пацвярджаю, што на самай справе гр-н Петрыкевіч Міхаіл Фёдаравіч падчас вучобы ў Беластоцкім педагагічным інстытуце па накіраванню Беластоцкага гарана працаваў з верасня 1940 года па красавік 1941 года настаўнікам па ліквідацыі бязграматнасці на абцасавай фабрыцы ў горадзе Беластоку. Я ў гэтыя гады працаваў намеснікам дырэктара па навучальнай частцы Беластоцкага пединстытута і даваў рэкамендацыю ў гарана для прыёму Петрыкевіча М. Ф. на працу настаўнікам па ліквідацыі бязграматнасці, што і пацвярджаю сваім подпісам. І. Зазека».



*Уладзімір Урбановіч і Міхась Петрыкевіч, 1960 г.*



Калі пачалася Другая сусветная вайна, Міхась пакінуў Беласток і вярнуўся на радзіму. Аднойчы ён атрымлівае загад з Любчанскай управы з’явіцца на работу, а калі не з’явіцца, то адправяць у Германію альбо расстраляюць. Вядома ж, з’явіўся. Стаў працаваць у раённым дарожным аддзеле рахункаводам. Адначасова выконваў некаторыя заданні падпольнай патрыятычнай групы праз майстра Францкевіча з вёскі Пліса, перасылаў патрэбныя звесткі партызанам. Нягледзячы на рызыку, залічыў фіктыўна на дарожныя работы звыш 150 чалавек, якім пагражала высылка ў Германію. Пазней удалося наладзіць сувязь з тым самым намеснікам дырэктара Беластоцкага пединстытута Іосіфам Засекам, які працаваў у падполлі ў Свіслацкім раёне.

Летам 1944 года Міхася Петрыкевіча забралі служыць у войска. У 1946 годзе ён дэмабілізаваўся і адразу паступіў на другі курс Мінскага пединстытута. Стаў працаваць у Карэліцкай школе, а потым быў пераведзены на пасаду завуча ў Валеўскую сярэднюю школу Навагрудскага раёна. Там у Міхася Фёдаравіча ўзнікла думка стварыць школьны краязнаўчы музей. Дапамагаў яму ў гэтым і настаўнік Уладзімір Урбановіч. Усё пачыналася з маленькага пакойчыка, з невялікай колькасці экспанатаў. Краязнаўчая праца захапіла не толькі настаўнікаў, але і ўсіх вучняў, якія актыўна падключыліся да збору звестак аб паходжанні роднай вёскі Валеўка, гісторыі развіцця і станаўлення школы, вядомых людзей вёскі і г. д. Так з’явіліся першыя экспанаты: грыфельная дошка, катомка, з якой хадзілі ў школу, падручнікі, рэчы сялянскага попыту. Музей пачынаў пашырацца, а ў 1968 годзе яму было прысвоена званне Народнага. Школьны музей у Валеўцы стаў вядомы на ўсю Беларусь, а далёка за межы Навагрудскага раёна разнеслася і чутка пра нястомнага настаўніка-краязнаўцу Міхася Петрыкевіча. Даведаліся пра Міхася Фёдаравіча і ў Дзятлаве. А аднойчы прыехалі адтуль яго «сватаць» да сябе. Цяжка было рушыць вопытнаму педагогу, які ўжо меў званне заслужанага настаўніка БССР (1965) з Валеўскай сярэдняй школы, таму і не адразу пагадзіўся на пераезд у Дзятлава. Але ўсё ж перамагла прага навізны, прага

нязведанага. Таму Міхась Петрыкевіч з сям'ёй пераязджае ў 1967 годзе ў Дзятлава і адразу пачынае шукаць матэрыялы, ездзіць па архівах і музеях, па вёсках раёна, дзе так захапіўся пошукамі матэрыялаў для будучага Дзятлаўскага раённага музея, што ўжо ні аб чым іншым не мог думаць.

Пятро Чырко (1954–2014) тады працаваў дырэктарам раённага Дома культуры, а потым — намеснікам старшыні Дзятлаўскага райвыканкама. Ён добра ведаў Міхася Петрыкевіча, падчас ягонага 100-гадовага юбілею ў Дзятлаўскім музеі прыгадваў: «Неяк у абедзенны перапынак прыбягае да мяне Міхаіл Фёдаравіч і кажа: "Паехалі хутчэй на хутар, там ёсць на паддашку жорны". Паехалі мы. А на вуліцы — снег, завіруха. Кажу: "Давай пачакаем трохі". "Ды не, — кажа, — а раптам хто забярэ". Ледзьве прабіліся на хутар. А калі ўжо забралі тыя жорны, быў Міхась Фёдаравіч вельмі шчаслівы. Так радаваўся, нібы клад знайшоў. Потым кажа: "Пятро, гэта такая рэч!"».

Дзякуючы Міхасю Петрыкевічу 5 мая 1968 года ў Дзятлаве быў адкрыты Дзятлаўскі музей народнай славы. Пра свой музей і экспанаты ў музеі Міхась Петрыкевіч мог расказваць суткамі. Гэта было цікавейшае падарожжа па мінулай і сучаснай гісторыі Дзятлаўшчыны. Наведвальнікі слухалі і дзівіліся яго апантанасці і памяці. Ён ведаў гісторыю кожнага экспаната, адкуль і як ён трапіў у музей. А за многімі экспанатамі цягнуўся доўгі ланцужок людзей і падзей…

За сваё жыццё Міхась Петрыкевіч быў узнагароджаны шматлікімі дыпломамі, медалямі, ганаровымі граматамі. Дзякуючы нястомнай пошукавай і даследчай працы Міхасю Петрыкевічу ўдалося адкрыць новыя імёны, вярнуць і ўвекавечыць забытую славу некаторых людзей. З яго ініцыятывы былі ўстаноўлены многія помнікі і адкрыты мемарыяльныя дошкі (у прыватнасці, Ігнату Дварчаніну ў вёсцы Погіры), а вуліцам прысвоена імя героя ці знакамітага земляка. Вяртанне гэтых імёнаў не заўсёды было простым.

З 1967 года Міхась Петрыкевіч друкаваў у газетах і часопісах артыкулы на розныя краязнаўчыя тэмы. Вельмі шчыра сябраваў з беларускімі пісьменнікамі, асабліва з Уладзімірам Калеснікам,





*У гарадскім парку ў Брэсце (злева направа) Аляксей Карпюк, Міхась Петрыкевіч, Янка Брыль, Яўген Крамко, украінскі пісьменнік з Луцка Пётр Мах. 1982 г.*

Уладзімірам Караткевічам, Янкам Брылём, Анатолем Іверсам, Фёдарам Янкоўскім, Янкам Скрыганам і многімі іншымі. Дзясяткі кніг з аўтографамі зберагаюцца ў Дзятлаўскім музеі і ў сына Валерыя Петрыкевіча дома ў Дзятлаве. «Міхасю Петрыкевічу — добраму сябру», — напісаў Янка Брыль на сваёй кнізе «Золак, убачаны здалёк» 11 мая 1979 года. На сваёй кнізе «Час і песні» Уладзімір Калеснік пакінуў такі аўтограф: «Міхаілу Фёдаравічу Петрыкевічу — па-сяброўску. У. Калеснік. 24 чэрвеня 1963 г.».

Каля 20 гадоў ён аддаў Дзятлаўшчыне, роднаму музею. А потым пераехаў жыць у Вільню да дачкі Святланы і да ўнукаў, хаця не парываў сувязяў з музеем, часта прыязджаў у Дзятлава, пісаў пісьмы, даваў парады, цікавіўся музейнымі справамі. А ў Вільні Міхась Фёдаравіч наведваў Таварыства беларускай культуры, бываў на усіх беларускіх мерапрыемствах… 6 сакавіка 1999 года яго не стала. Не стала светлага, таленавітага, шчырага беларуса, але засталіся ў Валеўцы і ў Дзятлаве яго музеі, па ўсім свеце жывуць

і працуюць яго вучні, якіх ён любіў і якія любілі і паважалі свайго Настаўніка…

2 жніўня 2013 года ў Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі адзначылі 100-годдзе з дня нараджэння Міхася Петрыкевіча. Падчас ушанавання супрацоўнікі Дзятлаўскага райвыканкама пасмяротна занеслі яго імя ў ганаровую Кнігу Славы Дзятлаўскага раёна. Дакумент пра гэта і спецыяльны кубак уручылі яго сыну Валерыю Петрыкевічу.

*2013*

## Валерый Петрыкевіч: «Мой бацька сябраваў з Караткевічам, Брылём, Калеснікам…»

Цікавы чалавек жыве ў Дзятлаве на Гарадзеншчыне. Гэта Валерый Петрыкевіч — сын заснавальніка Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея, аднаго з заснавальнікаў школьнага музея Валеўскай сярэдняй школы на Наваградчыне, заслужанага настаўніка Беларусі, краязнаўцы Міхася Петрыкевіча (1913–1999). Валерый Петрыкевіч нарадзіўся ў Любчы. У 1970 годзе скончыў Беларускі Дзяржаўны інстытут фізічнай культуры. Працаваў настаўнікам фізкультуры ў Карэліцкім, Наваградскім, Дзятлаўскім раёнах. Восем гадоў узначальваў Дзятлаўскую дзіцяча-юнацкую спартыўную школу. Нягледзячы на свой сталы ўзрост і праблемы са здароўем, ён актыўна жыве грамадскім жыццём, прымае ўдзел у розных сустрэчах і нават у спартыўных мерапрыемствах. А яшчэ ён цудоўны суразмоўца, які шмат дзе пабываў і не раз сустракаўся з вядомымі людзьмі Беларусі. Падчас адной з такіх сустрэч, з дазволу спадара Валерыя Петрыкевіча, я ўключыў дыктафон, каб запісаць тое, пра што ў яго пытаўся.

*— Спадар Валерый, раскажыце пра свайго бацьку. Што гэта быў за чалавек, чым ён жыў у сваёй глыбінцы?*

— У майго бацькі, незабыўнага Міхаіла Фёдаравіча, заслужанага настаўніка Беларусі, шлях да вышэйшай адукацыі, пра якую ён марыў з маленства, быў цяжкім і вельмі доўгім. Пачатковая школа, Наваградская беларуская гімназія, падпольная палітычная дзейнасць, арышт, трохгадовае турэмнае зняволенне пры Польшчы і г. д. А калі ў верасні 1939 года Заходнюю Беларусь далучылі да Усходняй, то зноў ён пачаў марыць пра вучобу. Тады паступіў у Беластоцкі педінстытут. Але хутка вучобу спыніла вайна.



Пасля вайны ў 1946 годзе, ужо жанатаму, меўшаму двух сыноў, ва ўзросце Хрыста, на сямейным савеце вырашылі і далі дазвол на працяг вучобы. І ён падаўся ў Мінск, дзе яго залічылі на другі курс Мінскага педінстытута. У групе, у якую ён трапіў, вучыўся тады і будучы знакаміты літаратуразнавец Уладзімір Калеснік. З ім тата быў ужо знаёмы. Калеснік змагаўся з фашыстамі ў адным з партызанскіх атрадаў у лясах Налібоцкай пушчы. Бацька як чалавек адукаваны пры немцах працаваў рахункаводам у Любчанскай канторы вузкакалейкі. Характар перавозак цікавіў партызан. Звесткі пра іх бацька перадаваў праз сувязнога Калесніка, у якога былі сяброўскія партызанскія стасункі з будучым народным пісьменнікам Беларусі Янкам Брылём.

У Мінску 33-гадовы бацька-студэнт меў ужо вялікі жыццёвы вопыт, вучыўся выдатна, вызначаўся пакладзістым характарам, карыстаўся павагай. Заўсёды ён дапамагаў малодшым студэнтам у вучобе. Яны да яго цягнуліся, паважалі і любілі. У аўдыторыях і ў інтэрнаце Мінскага педінстытута завязалася моцная мужчынская дружба, выпрабаваная часам і пранесеная праз усё жыццё, паміж маім бацькам Міхаілам Петрыкевічам, Уладзімірам Калеснікам і Янкам Брылём. Іх яднала яшчэ і тое, што Наваградчына была для іх агульнай малой радзімай. Паміж іхнімі роднымі вёскам Падкасоўем, Сіняўскай Слабадой і Загор'ем усяго пару няпоўных дзесяткаў кіламетраў.



*З матуляй Марыяй Барысаўнай, Любча, 1947 г.*

На працягу свайго жыцця Уладзімір Калеснік і Янка Брыль ніколі не абмі-



*Футбольная каманда Дзятлава — пераможца абласных спаборніцтваў на прыз клуба «Скураны мяч», 1968 г.*

налі вёску Валеўка Навааградскага раёна, дзе з 1951 да 1966 года ў мясцовай дзесяцігодцы мой бацька займаў пасаду намесніка дырэктара па вучэбнай рабоце, дзе шырока разгарнулася яго педагагічна-краязнаўчая праца. Багацейшая гістарычная спадчына гэтага краю, маляўнічыя і непаўторныя ўзгоркі, легендарная Свіцязь, Чамброва, Варонча, Плужыны, Туганавічы, праслаўленыя Адамам Міцкевічам, сцежкі і дарогі, па якіх ён хадзіў і ездзіў, натхнялі на плённую працу. Тут, у Валеўцы, па ініцыятыве бацькі, высілкамі педкалектыву і вучняў у 1955 годзе быў створаны адзін з першых і лепшых у Беларусі вясковых школьных краязнаўчых музеяў, закладзены парк-дэндрарый, арганізавана школьнае лясніцтва, сталі рэгулярна праводзіцца святы птушак і многія-многія іншыя цікавыя мерапрыемствы. За ўсё гэта ў 1965 годзе мой бацька быў уганараваны званнем Заслужанага настаўніка Беларусі.

*— Ведаю, што Уладзімір Калеснік і Янка Брыль вельмі часта бывалі ў Вас у гасцях...*

— Уладзімір Калеснік і Янка Брыль не толькі штогод наведвалі Валеўку, але і прывозілі сюды сваіх сяброў, знаёмых літаратараў, ад-





*Малады Валерый Петрыкевіч*

надумцаў. Сярод іх былі — украінскі пісьменнік Максім Рыльскі, балгарскі пісьменнік Георгій Вылчаў, беларускія літаратары Ян Скрыган, Фёдар Янкоўскі, Алесь Адамовіч, Уладзімір Караткевіч і дзесяткі іншых знакамітых людзей. Уладзімір Калеснік любіў знаёміць з Навагрудкам і ваколіцамі студэнтаў філфака Брэсцкага педінстытута, у якім ён працаваў. Усім бацька ўдзяляў увагу, не шкадаваў часу на правядзенне экскурсій не толькі ў школьным музеі, але і ў наваколлі, на Свіцязі, Навагрудку, Завоссі, Чамброве, Радагошчы і г. д.

Максім Рыльскі, які ў 1955 годзе збіраў матэрыял для артыкула, прысвечанага 100-годдзю з дня смерці Адама Міцкевіча, быў вельмі ўдзячны бацьку за экскурсіі па Міцкевічавых мясцінах і называў яго ласкава «наш Чычэроне».

З канца 1950-х гадоў леснічоўку на беразе Свіцязі Янка Брыль, а потым і Фёдар Янкоўскі выбралі для сямейнага адпачынку. Неаднаразова гэтыя знакамітыя, але сціплыя, не ганарыстыя людзі гасцявалі ў нашай невялікай хаце, летам, як правіла, на гарышчы, на пахучым сене спалі. Бывалі і застоллі на Свіцязі ці на беразе чыстай крынічнай рачулкі, што апаясвала наш агарод, з вогнішчамі, з юшкай альбо з печанай у прыску бульбай і гарбаткай, настоенай з таго, што расло побач — чабор, мята, маліна, чорныя парэчкі, суніцы ці проста сунічнік альбо бруснічнік.

*— Сярод дарослых і Вы, магчыма, бывалі, слухалі іх, запаміналі. Так?*

— Мне, як старэйшаму і меўшаму з пятага класа вопыт удзелу ў турыстычных паходах і злётах школьнікаў абласнога і рэспубліканскага маштабаў, бацькам давяралася сачыць за вогнішчам, забяспечваць крынічнай вадой, што-небудзь своечасова паднесці з агароду ці з хаты. Карацей — быць «на падхваце». І я з гонарам выконваў свой абавязак. Калі такое «мерапрыемства» арганізоўвалася на Свіцязі, то я, ужо без «запрашэння», самавольна альбо

па даручэнні матулі, нібы незнарок, трапляў на ровары ў тое месца, дзе госці купаліся, падсілкоўваліся, вялі гутарку за «чаркай». Размовы былі доўгімі, стол бядней, і бацька прасіў мяне ласкава аб «рэйсе» у Валеўку, каб маці наклала таго-сяго з агароду і кладоўкі. Звычайна гэта былі агуркі, цыбуля, радыска, кроп, сала ці кавалачак кумпяка, хлеб. І я з вялікім задавальненнем выконваў гэтую «місію». Будучы школьнікам сярэдніх класаў, мяне не цікавіла, пра што вялася размова ў бацькавай кампаніі з гасцямі, а пазней я стаў прыслухоўвацца, асабліва ў такія моманты, калі гутарыць пачыналі даволі ціха.

*— І аб чым яны гутарылі тады?*

— Застаўся ў памяці прыезд у Валеўку надвячоркам аднаго з апошніх чэрвеньскіх дзён 1963 года Уладзіміра Калесніка, Янкі Брыля і трэцяга з імі. Ён быў значна маладзейшы за ўсіх, круглатвары, у караткаватых на мой погляд, шырокіх і трохі памятых за дарогу портках. На першы погляд дабрадушнага «прастака». Калі Янка Брыль знаёміў яго з бацькам і назваў Караткевічам, то мне, чамусьці падумалася, што гэта яго псеўданім, бо ён носіць кароткія порткі. Не ведаў я тады, што гэта адзін з найталенавіцейшых беларускіх пісьменнікаў, які хутка заваюе вялікую папулярнасць і любоў чытачоў, шмат зробіць для вяртання гістарычнай памяці свайму народу.

Прыезжыя былі адчувальна здарожаныя і вельмі ўсхваляваныя. На беразе нашай рачулкі сілкаваліся на разасланай дзяружцы. На гэты раз без вогнішча. Вялі размову-спрэчку пра Ларысу і Янку з Зэльвы, скуль яны і прыехалі. Ларыса ўсімі суразмоўцамі характарызавалася вельмі станоўча. А вось пра свайго цёзку Янку Брыль адклікаўся адмоўна і зусім не хацеў яго ўспамінаць. Калеснік, як мне падалося, трымаў «нейтралітэт». Караткевіч стараўся апраўдаць зэльвенца, матывуючы яго паводзіны пры іх сустрэчы цяжкім мінулым.

Пазней бацька мне распавёў пра Ларысу Геніюш і яе мужа Янку, пра іх лёс і пра тое, як яны апынуліся ў Зэльве, а вось пра сэнс той спрэчкі — ані слова, маўляў, табе гэта не патрэбна. Я і сёння не ведаю. Толькі здагадваюся. Але дагадкі ёсць дагадкі. Якраз



напярэдадні гэтых падзей я прачытаў у нейкім, не памятаю ўжо, расійскім часопісе, перададзеным бацьку стрыечным братам з Навагрудка, Раманам Лецкам, аповесць Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча». І мне чамусьці завочна спадабаліся зэльвенскія Ларыса і Янка, якія, як і Раман Лецка, і сотні тысяч іншых беларусаў, зведалі ўсе пакуты сталінскіх лагераў.

*— А ці гасцяваў у Вас яшчэ Уладзімір Караткевіч?*

— У 1964 годзе Янка Брыль, Уладзімір Калеснік і Ўладзімір Караткевіч зноў завіталі ў нашу вёску Валеўку, здаецца, у ліпені. Бацька быў у суседніх Мірацічах, дзе загадваў летнікам для дзяцей Карэліцкага раёна. Маці таксама адсутнічала. Госці, чакаючы бацькоў, на вуліцы каля хаты доўга размаўлялі з намі, дзецьмі. Пазней Уладзімір Калеснік гэты дыялог са мной апісаў у нарысе «Партрэт друга». Уладзіміра Караткевіча вельмі цікавіла Валеўская 300-гадовая драўляная царква. Я адразу пра яе выклаў яму ўсе свае веды. Пра святара Міхаіла Лінніка, пра яго дзяцей — нашых аднагодкаў, пра святкаванне Вялікадня з усяночнай, пра традыцыю апоўдні назаўтра збірацца амаль усёй дзятве, ды і вясковым дзецюкам на «бойку» яйкамі, пра фэст на Пятра і Паўла, пра тое, што раней гэта быў касцёл, у якім шмат разоў бываў Адам Міцкевіч. Настрой Уладзіміра Сямёнавіча быў выдатны. Яму, напэўна, спадабаўся і мой аповед. Развітваючыся, ён паабяцаў яшчэ раз наведаць Валеўку. Гэта сталася, калі мы ўжо перабраліся ў Дзятлава. Знаёмыя валеўчане казалі, што амаль цэлы дзень пісьменнік правёў у царкве, разглядаў іконы, чытаў царкоўныя кнігі і запісы. Не магу сцвярджаць, але хутчэй за ўсё гэта ён вызначыў, што некалькі абразоў былі напісаны Васняцовым ці мастакамі яго школы. У канцы XX стагоддзя нейкія злыдні-рабаўнікі з Мінска выкралі іх.

У гэты ж дзень, пазней, мне давялося яшчэ раз спаткацца з гэтымі волатамі беларускай літаратуры. Адвячоркам на ровары я паехаў па завядзёнцы пакупацца на Свіцязь. Шаноўная «кампанія» знайшла майго бацьку і, зрабіўшы падарожжа ў Плужыны, Варончу, Туганавічы і Карчова, ды ўдоваль наблукаўшы па сцежках Адама Міцкевіча і Яна Чачота, з асалодай выкупаўшыся ў асвяжаюча-гаючай вадзе Свіцязі, вячэрала пры невялікім вогнішчы.

Уладзімір Караткевіч нават прапанаваў мне ці то ўсур'ёз, ці дзеля «этыкету» чарку. Сам быў ужо «весялейшы» за ўсіх. Вядома ж, я адмовіўся, бо не ўжываў спіртнога і нават не марыў аб гэтым. Вельмі хацелася стаць «вялікім» спартсменам. А вось кавалак сала з'еў ды, з асалодай асушыўшы шклянку ліманаду, паехаў дахаты. Бо вечарам было прызначана спатканне з дзяўчынай. На развітанне Уладзімір Караткевіч, моцна ціснучы маю руку, назваў мяне яцвяжска-літвінскім граком і пажадаў высокага палёту.

*— А чаму граком, ды яшчэ яцвяжска-літвінскім?*

— Напэўна таму, што я быў чарнявы і з карымі вачыма. А вось пра яцвяжска-літвінскага хацеў спытаць у яго — ды не хапіла смеласці. А сёння — няма магчымасці.

*— А ці чыталі Вы што з твораў Уладзіміра Караткевіча да сустрэчы з ім?*

— На вялікі жаль, да сустрэчы з гэтым самабытным чалавекам, з таленавітым пісьменнікам, я нічога не чытаў з яго твораў. Гэта значна пазней яго творы «Дзікае паляванне караля Стаха», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Зямля пад белымі крыламі» былі з цікавасцю прачытаныя мною. А апошні твор увогуле стаў настольнай кнігай. З такім замілаваннем Уладзімір Караткевіч апісвае ў ёй родныя мае мясціны — Валеўку, Варончу, Свіцязь, Навагрудчыну ў цэлым, ды і іншыя запаветныя куточкі нашай Беларусі, традыцыі народа, любімыя стравы, абрады, што кожны раз, калі я адкрываю яе, у памяці паўстае вобраз вялікага мастака слова, вясёлага і шчырага чалавека.

*— Не мінаў Вашу сям'ю ніколі і Янка Брыль.*

— З Іванам Антонавічам Брылём я бачыўся дзесяткі разоў. Нагадаю пра дзве сустрэчы, якія запомніліся. Гэта было восенню 1996 года. Я — дэлегат Першага Усебеларускага кангрэса дэмакратычных сіл. Дэлегацыя дзятлаўчан прыехала за пару гадзін да пачатку форума. Зарэгістраваўшыся, вырашыў прайсціся па праспекце Францыска Скарыны. На выхадзе, на прыступках палаца прафсаюзаў бачу высокага, статнага, у традыцыйным чорным бярэце, вельмі знаёмага чалавека. Так і ёсць — Янка Брыль. Радасна павітаўшыся даведаўся, што Іван Антонавіч пачэсны госць гэтага ж мерапрыемства. Яго вельмі цікавіла, як жыве мой бацька ў Вільні (яны ліставаліся, але хіба ўсяго ў пісьме не скажаш). Паважаны пісьменнік паскардзіўся на сваё здароўе і сказаў, што цяжка стаяць, лепш хадзіць. І мы павольна пашпацыравалі ўбок ГУМа. Я распавёў, чым займаецца бацька, з кім там пасябраваў, як часта бывае ў Таварыстве беларускай культуры, з якім задавальненнем ён слухае па радыё дзесяціхвілінную беларускамоўную праграму Ёнаса Лаўрынавічуса, што дапамагае Аляксею Анішчыку ў напісанні ўспамінаў пра Навагрудскую беларускую гімназію, пра прыезд у Вільню Барыса Кіта і г. д. Івана Антонавіча цікавіла і тое, як жывуць мае дзеці — унукі майго бацькі, асабліва старэйшая Таццяна, у якой Брылёва дачка, Галіна Іванаўна, выкладала іспанскую мову ў Мінскім інстытуце замежных моў і вельмі хваліла за здольнасць і старраннасць, падкрэсліваючы, што ў яе напэўна дзедавы гены.

Было перагаворана і аб сённяшнім жыцці Дзятлава, справах у музеі, настроі людзей і г. д. Гадзіна часу праляцела непрыкметна. Калі мы вярнуліся у палац прафсаюзаў, то Брыля сустрэў адзін з арганізатараў Кангрэсу Юрый Захаранка. Іван Антонавіч пазнаёміў яго і са мной. Развітаўшыся, Янка Брыль заняў месца ў першым радзе партэра, а мы — на балконе. Кангрэс, яго дух, патрыятычны настрой удзельнікаў і выступоўцаў давалі тады надзею на лепшае. І я ў гэта верыў. На вялікі жаль, я памыляўся.

*— Здаецца Вы былі сябрам рады БСДГ?*

— Будучы нязменным сябрам Цэнтральнай рады БСДГ, яшчэ з тых часоў, калі партыяй кіраваў Алег Трусаў, мне даводзілася па некалькі разоў на год бываць на іх пасяджэннях. З пачатку 2000-х гадоў яны праводзіліся ў офісе партыі на праспекце Машэрава, 78. У гэтым доме тады жыў і Янка Брыль. Таму я заўсёды стараўся, хоць на некалькі хвілін, завітаць да аднаго з лепшых сяброў майго бацькі. Брыль з радасцю мяне сустракаў і заўсёды шкадаваў, што ў мяне мала часу, што няма магчымасці пасядзець, выпіць кубачак гарбаткі. У апошні такі візіт, калі не памыляюся, напачатку 2005 года, Іван Антонавіч выказаў мне свой боль, што яму не дазволілі пахаваць жонку на Усходніх могілках Мінска. А ў Калодзішчах да

месца спачыну сваёй «палавіны» вельмі нязручна і доўга дабірацца. Гэта была мая апошняя сустрэча з народным пісьменнікам Беларусі — вялікім Янкам Брылём.

Пасля смерці бацькі я з Янкам Брылём ліставаўся. За пару месяцаў да сваёй смерці Іван Антонавіч, будучы ўжо сам цяжка хворы, даведаўся ад маёй сястры Святланы пра пастаўлены мне дактарамі дыягназ невылечнай хваробы. Ён даслаў мне кароценькі ліст. У ім жадаў мне, каб я трымаўся і спадзяваўся на лепшы зыход. Сёння я шчыра дзякую Богу, з чые ласкі і з прарочых слоў незабыўнага Івана Антонавіча я жыву і нешта намагаюся зрабіць на карысць Бацькаўшчыны. Шкадую толькі, што не змог правесці яго ў апошні шлях.

*— Шчыра сябравалі Ваш бацька і Вы з літаратуразнаўцам, прафесарам Брэсцкага педінстытута Уладзімірам Калеснікам. Так?*

— Сустракацца з Уладзімірам Калеснікам лёсам мне было наканавана не менш, чым з Янкам Брылём. У 1975 годзе я з вучнямі Дзятлаўскай першай школы арганізаваў шматдзённы сплаў на вёсельных лодках па бацьку-Нёману ад Стаўбцоў да Беліцы. У адзін дзень заўважылі з правага берагу цудоўнае месца для начлегу. Сярод лесу была шырокая прагаліна з хаткаю і студняй, са сцежкай да самай ракі, а на ўзбярэжным грудочку ўбачылі шалаш. Сцены яго былі аплецены лазой, саламяны дах, уваход завешаны дзяружкай. Не паспелі туды прычаліць, як некалькі вучняў наперабой пачалі выказваць свае прапановы наконт начлегу ў гэтым шалашы. І раптам, о дзіва, на дзіцячы гоман выходзіць з яго інтэлігентны, статны, прыгожы жыхар гэтага шалашу. І я адразу пазнаю Уладзіміра Калесніка, які шчыра са мной вітаецца за руку, радуецца неспадзяванай сустрэчы, распытвае ў школьнікаў аб ураджаннях ад падарожжа і далікатна выказвае спадзяванне, што падчас адпачынку мы не вельмі шумна будзем сябе паводзіць, бо яму пільна трэба закончыць пісаць нейкі артыкул.

На другі дзень раніцай Уладзімір Андрэевіч падышоў да нас і пачаў з намі гутарку, а таксама адказваў на пытанні школьнікаў. Мы потым, перад спускам лодак на ваду, заглянулі да яго ў шалаш. І былі вельмі здзіўленыя спартанскаму ладу адпачынку і пісьменніцкай працы знакамітага навукоўца. А яму для плёну, аказваецца, найлепш падыходзілі не гарадскі камфорт, а свежае паветра, лёгкі шумок сасновага бору, лагодны шчэбет птушак, усплёск нёманскай хвалі і часовая адзінота. Ложак з сеннікам і кажухом, самаробны драўляны стол з табурэткай, ды і сам «дом» з лазовымі сценамі, упрыгожанымі па-мастацку апрацаванымі карчамі, карэннямі, пакручастымі галінамі дрэў, — усё гэта было зроблена ім самім непадалёку ад яго роднай вёскі Сіняўская Слабада на беразе Нёмана.



Апошняя мая сустрэча з Уладзімірам Калеснікам адбылася ў 1989 годзе ў Брэсце на яго кватэры. Я з жонкай і з дзецьмі па запрашэнні геолага з Германіі на ўласным аўтамабілі выбраўся ў горад Фрайберг. Шлях ляжаў праз Брэст, дзе планавалася пераначаваць, каб зранку зноў рушыць у дарогу. Мы завіталі да Калеснікаў. Гаспадар нас шчыра прыняў. У кватэры мы ўбачылі шмат ягоных мастацкіх твораў — апрацовак лясных карэнняў, а таксама разьбы па дрэве, карцін, напісаных алеем — у асноўным гэта былі пейзажы і замалёўкі роднай прыроды, — фотаздымкаў, бо ён прафесійна займаўся фатаграфіяй, і кніг. Як у яго на ўсё гэта хапала часу, калі ўлічыць, што выкладчыцкая праца ва ўніверсітэце займала большую частку працоўнага дня? Аказваецца, у кожных сутках для творчых людзей ёсць яшчэ і ноч.

У той вечар мы доўга гутарылі пра майго бацьку, пра маё захапленне водным турызмам, пра перабудову Міхаіла Гарбачова, пра нашу родную мову і г. д. Апоўначы Уладзімір Андрэевіч пажадаў нам шчаслівай паездкі і парэкамендаваў больш падарожнічаць па роднай Беларусі, бо ў нас яшчэ столькі нязведанага, цікавага, але ўсё гэта трэба навучыцца шукаць, а знайшоўшы — фатаграфаваць, расказваць, апісваць, распавядаць іншым.

*— Спадар Валерый, Вы яшчэ добра ведалі беларускага мовазнаўцу, пісьменніка, заслужанага дзеяча навукі Беларусі Фёдара Янкоўскага, які сябраваў з вашым бацькам.*

— З Фёдарам Міхайлавічам Янкоўскім сустрэч было няшмат. Валеўскія дзеці, як і ўсе іншыя, любілі лавіць рыбу. Калі я вучыўся ў пачатковых класах, мы лавілі рыбу рукамі пад каменнямі ў нашым ручайку. Трапляліся акушкі, сліжы, зрэдку кялба, бо іншай

рыбы ў водах безымяннага прытоку Нёўды і не было. А вось ніжэй Валеўскага млына, ужо ў самой Нёўдзе, вадзіліся акуні і плоткі, тыя ж сліжы і кялба, былі шчупакі і стронга. Узброіўшыся вялікім кашом ці таптушкамі (сетка большая за кош) мы прафільтроўвалі ўсе рачныя ямкі ад Валеўкі да суседняга Мондзіна — роднай вёскі пісьменніка, педагога, грамадскага актывіста Аляксея Анішчыка (1912–2007). Пазней Мондзіна перайменавалі ў Чаромушкі. Некалькі дзесяткаў дробнай рыбы заўсёды ўдавалася злавіць. Аднойчы толькі распачалі рыбацкі працэс, як на паверхню вады сталі ўсплываць жыватамі напаўжывыя стронгі, ды не маленькія, а як добры селядзец, грамаў па 300–400. Подбегам беглі па цячэнні і рукамі лавілі іх. Хутка наш коўш напоўніўся так, што яго не змаглі несці. Прыхавалі ў крапіве пад кустом. Пасля напхалі ў кашулі, майкі, завязаўшы рукавы на вузлы. Перад самым Мондзілам рыбы сталі больш рухавымі, у рукі не даваліся, ды і падзець іх не было куды. Каб даставіць здабычу дахаты, спатрэбілася два рэйсы. Спачатку ў кашулях і майках, а потым — вярнуцца з роварам па прыхаваныя кашы. Улова хапіла сабе, суседзям і знаёмым на некалькі дзён. Бацька, калі ўбачыў, што мы налавілі, спачатку хацеў нас «пачаставаць» лазінай, але, даведаўшыся як, на другі дзень сам пабег налавіць рыбы ў Нёўдзе. Высветлілася, што адзін калгасны трактарыст «старанна» вымыў трохкубовую бочку, у якой вазіў нейкае вадкае ўгнаенне, бо яму тэрмінова трэба было ехаць на спіртзавод па перагнаную брагу на корм жывёле. Зрабіў ён гэтую справу з усёй «акуратнасцю», заехаўшы проста ў рэчку. Праз дзень ці два пасля гэтай падзеі прыехаў адпачыць на Свіцязі Фёдар Янкоўскі з сям'ёй. Фёдар Міхайлавіч быў вялікім аматарам рыбалкі. Даведаўшыся пра такі ўлоў, ды пра такую рыбу, адразу прыехаў паглядзець на Нёўду. Я павёў яго на месца «злачынства». Ён толькі охаў ды ахаў, любуючыся маляўнічай рачулкай. Праз дзень Фёдар Міхайлавіч вярнуўся на Нёўду з дзесяткам донных вудачак, каб праверыць, ці не ўся рыба атручана. На гэты раз пайшлі ажно да Мондзіна. Спачатку ён, як шпіён, непрыкметна падыходзіў да зарослых кустоўем берагоў, нешта цікаваў, а пасля выстаўляў вуды. Ад Валеўкі мы тады адышлі ажно кіламетраў 5-6. Стаміліся, паляжалі на траве, узышлі на старажытнае гарадзішча,



з якога адкрываўся цудоўны, непаўторны від на наваколле. А тым часам сонца ўжо кранулася зубцоў далёкага лесу. Подбегам здымалі донкі. Апошнюю вуду ледзьве знайшлі ў пацёмках. Але затое амаль на ўсіх была здабыча — стронгі сярэдніх памераў па 300–400 грамаў. Адна прыгажуня здзівіла і мяне, акурат яна трапіла на тую апошнюю вуду. Даўжыня яе была з паўметра і вага паўтары кілаграмы, не менш. Але найбольш здзівіў мяне сам рыбак. Акуратна зняўшы здабычу з кручкоў, палюбаваўшыся ёю, выпускаў назад у крынічную ваду Нёўды. У рыбацкую торбу паклаў толькі дзве рыбіны, якія былі моцна параненыя. Пры гэтым казаў: «Трэба ж і жонку Серафіму парадаваць».

У Валеўку вярнуліся апоўначы. Па дарозе Фёдар Міхайлавіч выказваў радасць, што стронга яшчэ будзе вясціся ў Нёўдзе. Меркаваў, што гэта рэчка была паўнаводнай і, напэўна, старажытныя насельнікі гарадзішча здабывалі ў ёй і ласосяў, і харыусаў, і стронгу. «А сёння, — казаў Фёдар Янкоўскі, — трэба біць ва ўсе званы, каб калгасная хімія больш не трапляла ў рэкі і рачулкі. Рыбакам, калі патрапіць на вуду рэдкі "экзэмпляр", неабходна яго адпусціць у ваду, каб было патомства. Рыбалка для чалавека павінна быць не самамэтай, а больш для адпачынку». Вось такім рыбаком і дабрадушным, высокаадукаваным чалавекам запомніўся мне прафесар Фёдар Янкоўскі — аўтар шматлікіх кніг па мовазнаўстве, зборнікаў крылатых слоў і афарызмаў, слоўнікаў і кніг мастацкай прозы.

*— Спадар Валерый, ведаю, што Вы некалі актыўна займаліся спортам, з'яўляецеся кандыдатам у майстры спорту па водным турызме і здзейснілі сотню турыстычных паходаў...*

— Спачатку была лёгкая атлетыка, футбол і хакей з шайбай, а турызм значна пазней. Здаецца, у 1960 годзе я падпісаўся на часопіс «Лёгкая атлетыка» і вельмі хутка палюбіў гэты від спорту. Самастойна, упарта займаўся ім. Паколькі адметных фізічных дадзеных ад прыроды я не меў, то спрабаваў усё. Кідаў саматробныя драўляныя дзіды, штурхаў камені, бегаў, скакаў у даўжыню і вышыню, нават і з шастом (звычайнай арэшынай). У дадатак быў і футбол, і валейбол, і «два агні» (выбівалы), а летам — амаль штодзённае плаванне на Свіцязі, зімой — актыўна ездзіў на лыжах.

У класе па многіх відах быў першым, а на школьных спаборніцтвах — толькі прызёрам, займаў заўсёды другія ці трэція месцы.

З 1962 года нашу вёску Валеўку далучылі на Навагрудскага раёна. У горадзе працавала секцыя лёгкай атлетыкі ў мясцовай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе (ДЗЮСШ) і таму праграма раённых школьных спаборніцтваў па лёгкай атлетыцы была больш змястоўнай, чым у колішнім Карэліцкім раёне. Акрамя традыцыйнага бегу і скачкоў былі і кіданні дыска, штурханне ядра, бар'ерны бег, скачкі з шастом, лёгкаатлетычнае шматбор'е. А паколькі ні ў адным з відаў я не быў першым у школе, настаўнік фізкультуры «вызначыў» быць мне шматборцам. Вынік быў нечаканы: стаў чэмпіёнам. Выканаў трэці дарослы спартыўны разрад, недацягнуўшы да другога з дзесяці ачкоў.

Асаблівы поспех чакаў мяне ў сектары для скачкоў у вышыню з шастом. Гэты від вельмі вабіць гледачоў. Мой выхад у сектар з шастом з арэшыны рассмяшыў заўзятараў, якія шчыльна абступілі месца спаборніцтваў. Пасля, калі ў сектары застаўся толькі вучань Навагрудскай ДЗЮСШ ды я, кожная ўдалая спроба сустракалася бурнымі воплескамі. Мой вынік — тры метры роўна, а ў навагрудчаніна на 10 см менш. Так пачалася «кар'ера» лёгкаатлета-дзесяціборца. Праз два гады стаў першаразраднікам, а вось да кандыдата ў майстры спорту кожны раз не хапала то 5, то 10 ачкоў. А на рэспубліканскіх спаборніцтвах сельскіх спартсменаў таварыства «Ураджай» у горадзе Слуцку не хапіла 2 ачкі. Гэта быў мой лепшы вынік за ўвесь час майго ўдзелу ў спаборніцтвах.

Акрамя самых спартовых паядынкаў, вабілі паездкі ў розныя гарады Беларусі і за яе межы. Каля дзесяці гадоў быў чальцом зборнай каманды Беларускага савета ДСТ «Ураджай», пабываў у Прыбалтыцы, на Паўночным Каўказе, Сярэдняй Азіі, на Крымскім паўвостраве і на Чарнаморскім узбярэжжы. Запомніліся некалі Усесаюзныя спаборніцтвы лёгкаатлетаў-дзесяціборцаў, арганізаваныя Цэнтральным саветам прафсаюзаў СССР у верасні 1966 года ў горадзе Сочы. Там мне пашчасціла ў ліку амаль двух соцень спартсменаў спаборнічаць з будучым сярэбраным прызёрам Алімпійскіх гульняў у Мехіка, украінцам Мікалаем Авілавым. У Сочы я пераадолеў у скачках з шастом вышыню 3 метры 60 см. Але гэта не з шастом-катапультай з фібергласу, а са звычайным дзюралевым. Чаму мне запомніўся гэты вынік? Да гэтага асабісты рэкорд быў на 10 см меншы. А тут — 3 м 60 см. Была пачатковая вышыня. І я з ёю з трэцяй спробы справіўся. Такое застаецца ў памяці.



Таксама добра памятаю сумесныя выступленні і падтрымліваю сяброўскія стасункі з шматразовым чэмпіёнам Беларусі, дзесяціборцам, майстрам спорту міжнароднага класу Іванам Адамовічам, які быў маім лепшым дарадцам і паплечнікам. Зараз ён яшчэ працуе на кафедры фізвыхавання Белдзяржуніверсітэта.

Не забываю і цудоўнага хлопца-дзесяціборца з Мастоў Іосіфа Лісая. Іосіф на пару гадоў маладзейшы за мяне. Вельмі доўга мы з ім аспрэчвалі першынство ў Гродзенскай вобласці. Тады ён не спазнаў асалоду чэмпіёнства. Але затое, калі яму пераваліла за 40, ён, маючы ўпарты характар і вялікую сілу волі, стаў майстрам спорту па шматбор'і і быў неаднаразовым чэмпіёнам Беларусі. Перад выхадам на пенсію «асядлаў» ровар і стаў у адзіночку падарожнічаць па Беларусі і за яе межамі. Аб'ездзіў Крым, Еўропу, Скандынавію. Рызыкоўны, валявы, шчыры хлопец. Зусім нядаўна гасцяваў у мяне, дзяліўся ўражаннямі ад апошняга веласіпеднага падарожжа па Нарвегіі, Швецыі і Фінляндыі, паказваў сотні фотаздымкаў. У галаве ўзнікла думка, ці не перасесці мне з байдаркі на ровар?.. Але здаецца, што трохі я спазніўся. Бо мне ўжо хутка 70. Рухаюся на мыліцах, але вада цягне да сябе. Фактычна ад водных падарожжаў я адпачываў толькі 3–4 гады, калі захварэў.

*— Калі Вы ажыццявілі свой першы водны паход?*

— Першы водны паход арганізаваў з трэнерам Дзятлаўскай спартыўнай школы, якую я сем гадоў узначальваў. За пяць дзён мы адолелі нашу родную рэчку Моўчадзь на драўляных вёсельных лодках у чэрвені 1973 года. Новыя, непаўторныя краявіды за кожным паваротам ракі, ранішнія туманы, салаўіны спеў, водар берагавых бароў уперамежку з пахам свежаскошанай травы, прыемны водар прыгатаванай на вогнішчы гарбаты з чабору, неспадзяваныя сустрэчы з бабрамі, казулямі, чаплямі і іншымі прадстаўнікамі фаўны захаваліся ў памяці і натхнялі на новыя

падарожжы. І гэтыя падарожжы адбываліся штогод. Спачатку быў Нёман з яго прытокамі. А гэта Шчара, Дзітва, Бярэзіна, Ісlач. Пасля былі Карэлія, Карпаты, Каўказ, Саяны, Далёкі Ўсход, Алтай, Памір. Штогод два паходы самастойна ў складзе гарадзенскіх ці мінскіх турыстаў-воднікаў, і адзін-два — з вучнямі школ Дзятлава, у якіх я пазней працаваў. Вяршыняй маёй саракагадовай воднай адысеі было воднае падарожжа ў гарах Паміра па рацэ Мургаб-Бартанг, ад пасёлка Мургаб, праз Сарэзскае возера і Усойскі завал да горада Рушан у Горна-Бадахшанскай аўтаноміі Таджыкістана. Гэты паход быў вышэйшай, шостай катэгорыі складанасці. Вядома ж, шмат было рызыкі, але яна апраўдвалася ўбачаным. Высачэзныя горы, чысцюткая вада ярка-блакітнага колеру, мясціны, дзе трапляюць сляды снежнага чалавека Іецці (Еці), мы праўда, іх не бачылі. А якое прыгожае Сарэзскае возера! У 1912 годзе кавалак горнага схілу аб'ёмам больш 1 куб. км з'ехаў у Мургаб, засыпаўшы і раку, і два пасяленні разам з людзьмі. Амаль на дваццаць гадоў Усойскі завал (назва ад засыпанай вёскі) спыніў плынь ракі. Утварылася возера глыбінёй 900 м і даўжынёй каля 80 км. Сёння аб'ём вады ў ім каля 70 кіламетраў кубічных. Была вялікая небяспека, што вада пойдзе наверх і затопіць сотні вёсак і гарадоў на сваім шляху аж да Аральскага мора. Ваду ўтаймаваць вельмі складана, але яна паступова знайшла сама хады ў «целе» завала і праз 3–4 кіламетры вырываецца з яго са свістам дзясяткамі фантанаў. Вышыня некаторых дасягае 30 метраў. Над фантанамі ззяюць непаўторныя вясёлкі. Патокі зліваюцца ў адзін, утвараючы ўжо раку Бартанг. Паселішчы там невялікія, адно ад другога на дзесяткі кіламетраў. Жытло, памерам прыкладна 4×5–6 м., складзенае з камення, з плоскім дахам, пакрытае тонкімі адшчэпамі ад горных парод. Падлога гліняная, частка яе засцелена саматканымі баваўнянымі дыванамі. Печ таксама з каменя. Хутчэй не печ, а каменны варыянт вогнішча ў адным з куткоў адзінага пакоя Сярэднявечча, не інакш. Пошта дастаўляецца туды 2–3 разы на месяц з Рушана, да якога больш за 100 кіламетраў. Дастаўляецца роварам, конна і нават пешшу. У экстранных выпадках па рацыі выклікаецца верталёт. Ім жа прывозяць тавары першай неабходнасці.



Людзі там не вельмі любяць размаўляць, слаба разумеюць славянскія мовы. Але яны дабрадушныя і даволі прыгожыя, асабліва дзяўчаты і жанчыны. Чарнявыя, зграбныя, высокія, усе ў шырокіх і квяцістых шараварах і халатах…

Карацей кажучы, я не шкадую, што столькі часу, па словах жонкі, «змарнаваў». Не адпачываў, як усе людзі, а толькі «замучваў» сябе. Але сёння ёсць што ўспомніць. Гарадзенскі журналіст і краязнавец Уладзімір Хільмановіч ужо шмат гадоў намагаецца мяне прымусіць напісаць успаміны. На самай справе кожны вандроўнік вандруе тройчы. Спачатку ў марах, вывучаючы маршрут, потым наяве і, нарэшце, ва ўспамінах. Калі я хварэў, было вельмі шмат часу падумаць, успомніць мінулае, то я ў думках вяртаўся на берагі бурлівых горных рэк, з асалодай успамінаў іх, падлічваў, колькі ж гэта часу, колькі дзён і начэй давялося пражыць у намётах? Атрымалася, што калі на кожны год выпадала два падарожжы ў сярэднім па дзесяць дзён, то 20 х 40 = 800. А яшчэ паходы ў школьныя гады, турыстычныя злёты і спаборніцтвы, выезды на прыроду з сям'ёй, экскурсіі на аўтобусах, на ўласным аўтамабілі на адпачынак, то атрымліваецца круглая лічба — 1000 дзён. Гэта два з паловай гады жыцця. Магчыма, калі Бог дасць яшчэ пажыць, то нешта напішу, прыгадаю…

*— Ведаю, што Вы па-ранейшаму вандруеце па мясцовых рэчках.*

— Цяпер я не ў стане шукаць далёкія шляхі маршрутаў. А некалькі гадоў таму вандраваў у кампаніі сяброў-гарадзенцаў Уладзіміра Хільмановіча і Віктара Парфененкі, якія натхнілі мяне на тое, каб я сеў у байдарку і за тры дні разам з імі прайшоў ад Крамяніцы да санаторыя «Радон» па знаёмай мне да дробязяў прыгажуні Моўчадзі. А праз год падоўжылі маршрут да вусця ракі і завяршылі воднае падарожжа ўжо на Нёмане за Беліцай.

Летам 2014 года мы вырашылі павандраваць па Шчары. Пачыналі ніжэй Слоніма. Да нас далучыліся яшчэ два гарадзенцы — Алесь Крой і Сяргей Лушчык. Чатыры дні праляцелі як адзін дзень. У Малой Волі на сваёй сядзібе нас гасцінна сустрэў і прыняў Валерый Янавіч Варабей. Лазня, вячэра, камфортны без камароў сон… Такое не забываецца.

Падчас вандроўкі мы ўсклалі кветкі на мемарыяльны знак Міхала Валовіча ў вёсцы Парэчча на Слонімшчыне, сустракаліся з людзьмі, гутарылі з імі. Каля вёскі Пархуты Дзятлаўскага раёна ўбачылі рэшткі бетоннага моста, які падчас вайны ўзарвалі партызаны. Схілілі галовы на месцах спаленых з людзьмі фашыстамі вёсак Трахімавічы і В. Воля Дзятлаўскага раёна. У планах — новыя паходы па Шчары да яе вусця, а магчыма і да Мастоў.

— *Чым сёння жыве Дзятлаўшчына? Як ушаноўваецца памяць пра знакамітых людзей Вашага рэгіёну?*

— У пачатку 2013 года намаганнямі мясцовых актывістаў і супрацоўнікаў Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея адзначылі 100-гадовы юбілей майго бацькі — заснавальніка музея Петрыкевіча Міхаіла Фёдаравіча. А праз некалькі дзён у раённай бібліятэцы адбылася прэзентацыя яго кнігі «Народжаны вечнасць



*Фёдар Красюк, Валерый Петрыкевіч, Уладзімір Хільмановіч у Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі, 2015 г.*



тварыць». Актывіст з Бярозаўкі Сяргей Трафімчык у канцы 2014 года перадаў нам копію барэльефа Канстанціна Астрожскага (1460–1530) — заснавальніка і першага ўладара Дзятлава. Доўга мы шукалі месца, узгаднялі з уладамі, а цяпер прыкладаем намаганні, каб барэльеф па-мастацку аздобіць і замацаваць побач з мемарыяльным валуном, усталяваным яшчэ ў 1998 годзе на скрыжаванні вуліц Чырвонаармейскай і Слонімскай у гонар 500-годдзя з дня заснавання Дзятлава.

Шмат каму вядома, што побач з Дзятлавам у вёсцы Жыбуртоўшчына знаходзіцца сядзіба роднага дзядзькі, нашага славутага земляка, філамата, блізкага сябра Адама Міцкевіча, сусветна вядомага навукоўца, нацыянальнага героя Чылі Ігната Дамейкі. Тут ён, па волі лёсу, некалькі гадоў жыў і працаваў, хадзіў па вуліцах мястэчка, бываў на кірмашы, маліўся ў касцёле. Сядзібай і яе дапаможнымі пабудовамі доўгі час карысталася раённая бальніца. Сёння галоўны будынак стаіць з пашкоджаным дахам, гніе падлога, вокны і дзверы павыбіваныя. Некалі прыгожыя вадаёмы заплылі ілам і зараслі аерам і хмызняком. Сядзіба выстаўлена на аўкцыён, але няма пакупнікоў. Мы хочам захаваць сядзібу. Плануем звярнуцца ў пасольствы Чылі і Польшчы, каб аказалі нам матэрыяльную дапамогу, хаця б на кансервацыю.

Даўно марым аб увекавечанні памяці паўстанцаў-каліноўцаў каля вёскі Явар. Хочам там паставіць крыж і мемарыяльны камень. Таксама плануем устанавіць мемарыяльныя шыльды ўраджэнцам Дзятлава і раёна Тамашу Жаброўскаму, Вікенцію Дмахоўскаму, Пятру Граніту, Гарасіму Праменю, Васілю Струменю і іншым землякам дзятлаўскай зямлі.

*2015, май*

## Летапісец роднага краю

Калі вядомы беларускі крытык і літаратуразнавец, культуролаг, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Вячаслаў Чамярыцкі паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю пра беларускія летапісы і хронікі, Уладзімір Караткевіч напісаў для яго паэтычны экспромт «Слыннаму летапісцу Краю пану Чаславу Чамярыцкаму ад люду паспалітага:

Ад Аўраамкі да Аўрамчыка
Гісторыю за горб бяры,
І чэмер сып усім у вочы,
Каб аж здзівіліся Чамяры.
*19.12.67 г. Места Менскае славутае*».

Пад вершам паставілі свае аўтографы сябры Чамярыцкага: Уладзімір Караткевіч з Оршы, Сцяпан Міско з вёскі Чамяры Слонімскага раёна і Адам Мальдзіс з Астравеччыны. Ліст з гэтым аўтографам Вячаслаў Чамярыцкі беражэ да сённяшніх дзён.

Зберагае ў сваіх хатніх архівах і аўтограф расійскага акадэміка Дзмітрыя Ліхачова (1906–1999), які ён паставіў на кнізе «Развитие русской литературы X–XVII веков»: «Вячеслав Антонович! Счасливого Вам плавания. Будьте всегда таким же хорошим. Искренне Ваш Дм. Лихачёв. 20.10.76 г. Минск».



*Антон Чамярыцкі – бацька Вячаслава Чамярыцкага, 1932 г. Аўтограф, дарчы надпіс сваёй будучай жонцы Мар'і Таўкун, з якой узяў шлюб у 1933 г.*

Рускі акадэмік Ліхачоў адчуваў, што побач з ім той чалавек, які шмат зробіць для даследавання старажытнай беларускай літаратуры і культуры. Таму і пажадаў шчаслівага плавання. Дарэчы, выбраўшы ў якасці тэмы



сваёй дысертацыі даследаванне беларускіх летапісаў і хронік, Вячаслаў Чамярыцкі апынуўся ў незвычайна цікавым свеце нашай далёкай мінуўшчыны, адкрыў для сябе невычэрпнае багацце шматвяковай гісторыі беларускага народа, яго даўняй культуры, літаратуры. Карпатлівая праца са старымі рукапісамі, удумлівае вывучэнне розных пісьмовых крыніц, даследаванняў славянскіх філолагаў і гісторыкаў, каштоўны вопыт ленінградскай школы медыявістаў на чале з тым жа акадэмікам Дзмітрыем Ліхачовым вельмі шмат далі яму для спасціжэння сакрэтаў прафесійнага майстэрства як даследчыка даўняй літаратуры, асабліва летапісання. Але гэта ўсё будзе пазней…

Дарога ў жыццё і ў літаратуру пачалася ў Вячаслава Чамярыцкага з вёскі Рабкі Дзятлаўскага раёна, дзе ён нарадзіўся летам 1936 года. Маці была звычайнай хатняй гаспадыняй, а калі сям'я з Рабкоў пераехала ў Навагрудак, пэўны час працавала на маслазаводзе. Бацька быў будаўніком, майстрам на ўсе рукі. Ён у 1937 годзе купіў каля Навагрудка зруб, перавёз яго ў горад, а потым пабудаваў дом. Там сям'я Чамярыцкіх перажыла ўсе ліхалецці. Праўда, падчас вайны хлопчык Вячаслаў пераважна быў у Рабках. Як прыгадвае сам Вячаслаў Антонавіч, вяскоўцы не так баяліся немцаў, як партызан, якія ноччу наведвалі сялянскія хаты і рабавалі іх: забіралі жывёлу, рэчы, харч. Аднойчы сялянская гаспадарка Чамярыцкіх моцна пацярпела ад начнога набегу партызан, якія прыставілі да сцяны дзядзьку Івана і забралі ў яго адзінага каня.

Пры немцах Вячаслаў Чамярыцкі пайшоў у школу, якая знаходзілася на ўскраіне Навагрудка. Але хутка школу спалілі партызаны. А пасля вайны хлопчыка запісалі ў другі клас беларускай школы, якая неўзабаве стала працаваць у будынку былой Навагрудскай беларускай гімназіі, дзе яшчэ ў 1920-я гады вучыўся Барыс Кіт і выкладаў Язэп Драздовіч.

На летніх канікулах хлопчык Вячаслаў часам падаваўся да дзядзькі ў родную вёску, дзе пасвіў кароў, дапамагаў па гаспадарцы, лавіў рыбу і ракаў у чыстай Ятранцы, якая бярэ пачатак недалёка ад Валеўкі і ўпадае ў раку Моўчадзь каля Наваельні. Да Рабкоў даязджаў па вузкакалейцы, якая была пракладзена яшчэ ў час Першай сусветнай вайны з Любчы да Наваельні праз

Наваградак. Але і на вёсцы жыць было няпроста, асабліва тады, калі ў канцы 1940-х гадоў сялян сагналі ў калгасы.

«Зусім непісьменная мая маці круцілася, як магла, хацела, каб я добра вучыўся, казала мне: вучыся, сынок, панам будзеш, — успамінае Вячаслаў Антонавіч, — і я стараўся, бо даволі рана зразумеў, што навука сапраўды дапаможа ўзбіцца хоць і не заўсёды на панскае, але на больш людское. Помню, як толькі навучыўся чытаць, палюбіў кнігу. Чытаў запоем, балазе што ў школьнай і ў гарадской бібліятэках было нямала літаратуры. На руках жа ў людзей, па хатах, пападаліся рэдкія кнігі на польскай і беларускай мовах, творы Адама Міцкевіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, розныя заходнебеларускія выданні. Паступова ў мяне ўзрастала асаблівая, патрыятычная цікавасць і цяга да гісторыі і культуры Беларусі, да беларускай літаратуры і роднага слова. Гэтаму спрыялі і само асяроддзе горада, дзе тады паўсюдна яшчэ чулася беларуская гаворка, старасвецкія муры некалі магутнага замка, дзе рэхам аддаваліся галасы далёкіх гераічных стагоддзяў, імя славутага Адама Міцкевіча, а таксама цалкам беларускамоўнае асяроддзе роднай вёскі, дзе былі закладзены асновы маёй беларушчыны».

У 1953 годзе Вячаслаў Чамярыцкі паступіў на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. А пасля заканчэння яго паехаў па размеркаванні настаўнічаць у Вілейскі раён, потым перабраўся ў Маладзечна, дзе адпрацаваў інспектарам райана. І ў 1962 годзе падаўся ў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі. Ужо тады стаў сур'ёзна цікавіцца новай беларускай літаратурай, захапляцца творчасцю Якуба Коласа і Максіма Багдановіча. Аднак унікальная «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага рашуча схіліла навуковыя інтарэсы юнака ў бок старажытнай літаратуры.

У 1967 годзе Вячаслаў Чамярыцкі абараніў кандыдацкую дысертацыю пра беларускія летапісы і хронікі. Яна лягла ў аснову ягонай манаграфіі «Беларускія летапісы як помнікі літаратуры» (1969 г.), якая стала першай грунтоўнай працай пра гэтыя каштоўныя помнікі беларускага летапісання, падрыхтаванай па-беларуску беларускім вучоным. Набыты даследчыцкі вопыт даў Вячаславу





*Супрацоўнікі Інстытута літаратуры (злева направа): Генадзь Кісялёў, Вячаслаў Чамярыцкі, Сяргей Гаранін, Уладзімір Мархель. Сакавік 1999 г.*

Чамярыцкаму магчымасць удзельнічаць у падрыхтоўцы да друку тэкстаў беларускіх летапісаў і хронік у вядомай акадэмічнай серыі «Поўны збор рускіх летапісаў», куды яго прыцягнуў знакаміты гісторык Мікола Улашчык. Вячаслаў Чамярыцкі падрыхтаваў і ў 35 томе (1980 г.) упершыню апублікаваў выдатны помнік летапісання Беларусі эпохі Барока — Магілёўскую хроніку (у арыгінале, на польскай мове). Па яго ініцыятыве і пры яго непасрэдным удзеле быў пачаты пераклад на сучасную беларускую мову і публікацыя для шырокага чытача, спачатку ў часопісе «Спадчына», летапісных помнікаў Беларусі. А ў 1997 годзе яны выйшлі асобным выданнем у мінскім выдавецтве «Беларускі кнігазбор».

Вячаслаў Чамярыцкі з'яўляецца адным з аўтараў першых навуковых гісторый нашай нацыянальнай літаратуры на беларускай і рускай мовах, 3 і 4 тамоў «Истории всемирной литературы» (Масква, 1985, 1987), кнігі пра Францыска Скарыну, якая была выдадзена ў Парыжы на французскай і англійскай мовах, удзельнічаў у распрацоўцы і выкананні вялікай Скарынаўскай праграмы, за што быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны, а ў 1994 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі. А восенню 1992 года ён прымаў удзел у Скарынаўскай канферэнцыі ў Венецыі і ў Падуі.



*Вячаслаў Чамярыцкі за рабочым сталом у Інстытуце літаратуры, 2006 г.*

Вельмі плённымі ў навукова-творчай біяграфіі Вячаслава Чамярыцкага былі 1990-я гады, а таксама пачатак XXI стагоддзя, калі ён узначальваў у Інстытуце літаратуры аддзел гісторыі старажытнай і новай беларускай літаратуры. Пад кіраўніцтвам Вячаслава Антонавіча і пры яго непасрэдным удзеле паспяхова выконваліся важныя навуковыя праекты, рыхтаваліся кандыдацкія дысертацыі па даўняй беларускай літаратуры, вырашаліся складаныя праблемы беларускага літаратуразнаўства. Нямала часу і сіл было аддадзена рэдагаванню і рэцэнзаванню розных навуковых прац, падрыхтоўцы да выдання помнікаў літаратурнай спадчыны, напісанню шматлікіх артыкулаў для беларускіх энцыклапедый, навукова-арганізацыйнай і культурна-асветніцкай працы.

Выдатным дасягненнем таленавітага калектыву навукоўцаў, якім кіраваў Вячаслаў Чамярыцкі, сталі падрыхтоўка і выданне «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў» у двух тамах і «Анталогіі даўняй беларускай літаратуры». Гэта шмат у чым новыя і арыгінальныя, сапраўды этапныя працы як паводле багацця выкарыстанага фактычнага матэрыялу, так і паводле сваёй навуковай канцэпцыі і грунтоўнасці выкладу. Яны, смела магу адзначыць, з'яўляюцца важкім плёнам удумлівых навукова-даследчых распрацовак іх аўтараў і лепшых дасягненняў усяго айчыннага літаратуразнаўства ў вывучэнні тысячагадовай пісьмовай спадчыны беларускага народа. Гэтыя працы — годнае падсумаванне і ўласных шматгадовых навуковых штудый асабіста Вячаслава Чамярыцкага ў галіне гісторыі даўняй беларускай літаратуры.

Цяпер Вячаслаў Антонавіч Чамярыцкі на заслужаным адпачынку, хаця па-ранейшаму працуе і на дачы, і за рабочым сталом. Але



ён знайшоў час адказаць і на некалькі маіх пытанняў. Найперш я ў яго запытаўся, ці бывае ён у сваёй роднай вёсцы Рабкі.

— У Рабках бываў і бываю даволі часта, бо цягне заўсёды на родную Наваградчыну, а яна — ад Наваельні да Міра. Летам у час адпачынку, бываючы ў Наваградку, як правіла наведваю і родную вёску. Раней прыязджаў і з дзецьмі, бываў у Рабках па некалькі дзён, купаўся і лавіў рыбу у Ятранцы. Цяпер там застаўся адзін 90-гадовы дзядзька Віктар, якому імкнуся чым-небудзь дапамагчы, хоць бы пракасіць дарогу да рэчкі праз зарослы травою луг.

*— А з кім працягваеце сябраваць, кантактаваць?*

— Вось ужо больш за 60 гадоў сябрую з Анатолем Клышкам, з Арсенем Лісам, з землякамі-навукоўцамі Аляксандрам Булыкам і Міхасём Касцюком, з пісьменнікам Яўгенам Лецкам. У Інстытуце літаратуры найбліжэйшымі сябрамі былі Генадзь Кісялёў і Адам Мальдзіс. З апошнім, які толькі нядаўна выпісаўся з лечкамісіі, і да сёння — самыя цёплыя сяброўскія і дзелавыя навуковыя стасункі. З Фёдарам Красюком — былым дырэктрам Дзятлаўскага музея вельмі часта сустракаліся ў Дзятлаве і ў Мінску, цяпер радзей, але сябруем. Яшчэ магу прыгадаць Уладзіміра Гніламёдава, з якім разам паступаў у аспірантуру, і Міхася Тычыну. У Наваградку жыве мой добры даўні сябра Мікола Гайба, у Маладзечне — Міхась Казлоўскі. За межамі Беларусі — акадэмік Нацыянальнай Акадэміі Навук Украіны Рыгор Піўтарак, вядомы славіст і беларусіст. З ім яшчэ ў 1960-я гады я жыў адзін год у агульным інтэрнатаўскім пакоі ў Мінску. Вось ужо больш за паўстагоддзя я сустракаюся з ім, перапісваюся, абменьваюся інфармацыяй і навінкамі навуковай літаратуры.

*— Нягледзячы на Ваш шаноўны ўзрост, хачу запытаць, а ці пішацца што сёння, ці працуецца?*

— Вядома ж. Цяпер рыхтую да выдання зборнік сваіх прац, які, мяркую, удасца выдаць да свайго афіцыйнага 80-годдзя, а таксама думаю апублікаваць у 2017 годзе новы, больш поўны збор твораў Францыска Скарыны, які я ў асноўным падрыхтаваў да друку. Нядаўна пабачыў свет том летапісаў і хронік — своеасаблівы вынік маіх паўвекавых заняткаў летапісамі. Хочацца яшчэ чым-небудзь

вартым ушанаваць наш непаўторны Наваградак: дапрацаваць і ўбачыць на кніжных паліцах доўгачаканую «Наваградчыну літаратурную», якую я ўклаў разам з пісьменнікам Яўгенам Лецкам. Паспрыяць, каб нарэшце была перакладзена з лацінскай мовы на беларускую і выдадзена ўнікальная кніга пра гісторыю Наваградка, што ў 1759 годзе была апублікавана ў Львове і рэдкі асобнік якой я ў 1980-я гады адшукаў у невычэрпных кніжных сховах Ленінграда.

*— Вячаслаў Антонавіч, а што Вас сёння найбольш хвалюе, трывожыць, засмучае ці, наадварот, радуе?*

— Засмучаюць старэчыя гады і парадзелыя шэрагі маіх родных, сяброў, калег. Асабліва ж балюча перажываюцца катастрафічны стан беларускай мовы, самага каштоўнага, самага дарагога духоўнага скарбу беларускага народа, асновы яго нацыянальнай ідэнтычнасці, культурна-гістарычнай незалежнасці і незайздроснае становішча ў свеце нашай краіны, якая, на жаль, ніяк не можа заняць «свой пачэсны пасад між народамі». А радуюся сёння кожнай новай сустрэчы з непаўторным Наваградкам, дзе жыве мая сястра Ванда, шчыруюць на ніве культуры і асветы мае маладзейшыя сябры і добрыя знаёмыя ў гістарычна-краязнаўчым музеі, куды я перадаў шэраг каштоўных матэрыялаў, добрую сотню кніг і часопісаў са сваёй уласнай бібліятэкі, у музеі Адама Міцкевіча, у іншыя ўстановы культуры і асветы горада. Асаблівую ўзрушанасць адчуваю, калі наведваю родную школу, адкуль я вылецеў у вялікі свет, калі ўзнімаюся на Наваградскі замак, дакранаюся да яго старадаўніх муроў і з вышыні птушынага палёту ўглядаюся ў адвечныя краявіды Бацькаўшчыны.

*2015*



## Мастак шчодрай душы

Застаць Мікалая Несцярэўскага ў мінскай кватэры летам немагчыма. Ён жыве на лецішчы недалёка ад Баранавічаў. «Кідай усё ў сваім Слоніме і прыязджай да мяне, паглядзіш, чым я тут займаюся. У мяне сяброў бывае шмат. Я люблю іх сустракаць і разам адпачываць», — сказаў па тэлефоне спадар Мікалай.



*Мікалай Несцярэўскі каля бюста маці*

Нядаўна мастак-кераміст, сябра Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь Мікалай Несцярэўскі адзначыў сваё 85-годдзе. Але і сёння ён адчувае сябе, дзякаваць Богу, яшчэ фізічна даволі ўпэўнена і моцна. Хаця ў жыцці хапала ўсяго.

Нарадзіўся ён 31 сакавіка 1931 года на Падляшшы ў вёсцы Бацюты (Беласточчына). «Бацька мой рана памёр. — згадвае Мікалай Лаўрэнцьевіч. — Аднойчы ён паехаў па сена зімою, а лёд быў слабы і ён з сябрам прапаліўся пад лёд. Пакуль выцягнулі коней і сані, то моцна замерзлі. Пасля бацька хутка захварэў на сухоты і памёр. Яго пахавалі ў Бацютах. А маці з цягам часу выйшла замуж за другога».

*— У якім годзе вы пакінулі Беласточчыну?*

— Адразу пасля вайны ў 1945 годзе. Гэта быў той час, калі палякаў перасялялі ў Польшчу, а беларусаў гналі на Усход. Мы вельмі не хацелі пакідаць Бацюты. Бо ў нас было 18 гектараў зямлі, 5 кароў, некалькі коней, шмат свіней, авечак, сотні курэй. Мы жылі даволі добра. Праўда, шмат працавалі, але і шмат мелі. Жылі заможна ажно да восені 1939 года. А калі прыйшлі бальшавікі, то жыць стала цяжка. І мы пад прымусам пераехалі да сваякоў у Дзятлава на Гарадзеншчыну.

*— Чым вы займаецеся цяпер?*

— Жыву на лецішчы ў прыгожым і вялікім доме. Ён незвычайны і не падобны на ўсе іншыя. Так што я запрашаю ўсіх беларусаў да сябе ў госці ў любы час. А яшчэ займаюся жывапісам, скульптурай, керамікай. Працую, як малады.

На дзятлаўскай зямлі прайшлі юнацкія гады Мікалая Несцярэўскага, тут ён пачаў свой працоўны шлях, адсюль пайшоў, як кажуць, у «вялікі свет». Прырода шчодра надзяліла талентамі Мікалая Несцярэўскага. Спачатку ён працаваў у артэлі па вырабу мэблі, столярам. Тут ён авалодаў майстэрствам апрацоўкі дрэва. А калі працаваў у Дзятлаўскім раённым Доме культуры інструктарам — арганізаваў духавы аркестр. Мікалай Лаўрэнцьевіч любіць і ўмее яшчэ спяваць.

Але сэнс свайго жыцця ён знайшоў у галіне мастацкай керамікі. Праца з глінай, яе пластыка, апрацоўка заўсёды вабілі юнака. Ён паехаў працаваць на фабрыку мастацкай керамікі, што ў Івянцы, пераймаў вопыт вядомых майстроў.

У 1969 годзе Мікалай Несцярэўскі скончыў Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут (цяпер Акадэмія мастацтваў) і да самай пенсіі працаваў на Мінскім мастацка-вытворчым камбінаце. Працаваў плённа. Пазнаў такія сакрэты апрацоўкі керамікі, якія і цяпер не могуць паўтарыць сучасныя беларускія майстры.

Творы мастака сёння ўпрыгожваюць фасады і інтэр'еры многіх будынкаў і ўстаноў не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Ён з'яўляецца адным з аўтараў афармлення станцыі метро «Плошча Якуба Коласа» ў Мінску, будынкаў аэрапорта «Мінск-2», кафэ «Бульбяная» ў Мінску. Сцены Гродзенскага тэатра лялек упрыгожваюць таксама яго творы. Мікалай Лаўрэнцьевіч займаўся афармленнем магазіна «Мінск» у Валгаградзе (Расія), працы яго можна таксама сёння ўбачыць у аздараўленчым цэнтры «Баравічок» на Дзятлаўшчыне, на сценах Дзятлаўскай гімназіі № 1.

Сотні твораў Мікалай Несцярэўскі падараваў Дзятлаўскаму гісторыка-краязнаўчаму музею. Фонды музея налічваюць больш за 200 яго работ. І амаль усе яны падораны музею. Мастак-кераміст перадаў музею калекцыю дэкаратыўных скульптур аб'ёмных формаў, серыю керамічных партрэтаў (медальёны, плакеткі) дзяржаўных дзеячаў старажытнай Беларусі і Вялікага Княства



Літоўскага, дзеячаў беларускага Адраджэння. Літаральна штогод Мікалай Лаўрэнцьевіч перадае Дзятлаўскаму музею сваю кераміку ці карціны. Ды і вельмі часта бывае на Дзятлаўшчыне, дзе жывуць яго блізкія і родныя людзі.

Творы Мікалая Несцярэўскага проста кранаюць сваёй дасканаласцю і прыгажосцю.

«Вельмі прыемна, што шэраг маіх работ застаецца ў Дзятлаве, горадзе майго юнацтва. Няхай дакрананне да прыгожага сцвярджае ўсё лепшае, самае добрае ў людзях, дорыць ім радасць», — сказаў нядаўна Мікалай Лаўрэнцьевіч у час перадачы сваіх твораў музею. Цэлая музейная зала адведзена жыццю і творчасці Мікалая Несцярэўскага. Тут і карціны мастака, і бюсты, і медалі, і гліняны посуд.

Шмат твораў мастака захоўваецца і ў музеі Анатоля Белага ў Старых Дарогах. Тут знайшлі свае ўвасабленне ідэі па ўвекавечанні такіх постацяў нацыянальнай культуры, як Е. Полацкая, Л. Сапега, А. і М. Багдановічы, М. Улашчык, М. Ермаловіч, Ларыса Геніюш, Наталля Арсеннева, Кастусь Каліноўскі, А. Бярозка і многія іншыя дзеячы Беларусі, якія жылі ў розны час і жывуць цяпер. Бюсты, медальёны, плакеткі, жывапісныя кампазіцыі — гэта ўсё працы Мікалая Несцярэўскага. Пра іх можна расказваць і пісаць бясконца. Вось такі ён, гэты чалавек з Дзятлава, у якога шчодрая душа і вялікі талент.

***2016***

## У Дзятлаве яе ведаюць усе

Журналістку і пісьменніцу Леанарду Юргілевіч у Дзятлаве ведаюць многія. Усё жыццё яна адпрацавала ў Дзятлаўскай райгазеце, а гэта ажно 37 гадоў. Пісала пра людзей, пра зямлю, пра тое, што хвалявала чытачоў. І цяпер спадарыня Юргілевіч не пакідае сваё пяро. Яна піша і публікуецца ў «Газеце Слонімскай» і ў «Народнай волі». Акрамя розных інфармацый і рэпартажаў, Леанарда Юргілевіч актыўна спрабуе свае сілы ў чыста пісьменніцкай справе: піша гумарэскі, фельетоны і апавяданні.

Нарадзілася Леанарда Юргілевіч у вёсцы Рагалёўшчына Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Рана засталася сіратою. Спачатку вучылася ў Іўеўскай, а пасля ў Свіслацкай школах-інтэрнатах. У 1966 годзе прыехала ў Дзятлава. Тут выйшла замуж і асела назаўсёды.

У 2000 годзе ў серыі «Бібліятэка "Вожыка"» пабачыла свет яе першая кніга гумарэсак «Грэшная душа». Глыбокае веданне вясковага, местачковага побыту, талент высвеціць істотнае, важнае, цікавае, смешнае ў псіхалогіі і паводзінах сваіх герояў, сакавітая самабытная мова робіць творы Леанарды Юргілевіч сапраўднымі літаратурнымі жамчужынкамі.

Некалькі разоў аўтарка станавілася лаўрэатам часопіса «Вожык». Была ўдзельніцай Усебеларускага фестывалю сатыры і гумару «Аўцюкі–2000», дзе атрымала дыплом «За развіццё традыцый беларускага гумару».



*Леанарда Юргілевіч і паэт Анатоль Вярцінскі*

У 2003 годзе з друку выходзіць новая кніга прозы Леанарды Юргілевіч «Восеньскае танга», якую мне прыйшлося рэдагаваць і пісаць да яе прадмову. Гэту кнігу склалі апавяданні аўтаркі, сюжэты якіх узяты



з жыцця тых людзей, што жывуць побач. У тужлівых і простых здавалася па сюжэту апавяданнях, аўтарка распавядала пра нялёгкі чалавечы лёс. У многіх з іх бачыцца сама аўтарка з яе перажываннямі і радасцямі. Магу шчыра прызнацца, што сярод усіх апавяданняў, якія мне прыйшлося прачытаць, траплялі і хрэстаматыйныя, такія, як «Блакітная посцілка», «Восеньскае танга», «Чаму ты, мама, не паміраеш?» і іншыя.

У 2002 годзе Леанарда Юргілевіч была ўдастоена спецыяльнага дыплома і прэміі амерыканскай кампаніі «Філіп Морыс» за перамогу ў конкурсе для журналістаў, якія пішуць на сацыяльную тэматыку. Менавіта гэта тэма скразною лініяй праходзіць праз усе жыццёвыя гісторыі пісьменніцы. А іх напісана яшчэ вельмі шмат, якія шчыра просяцца пад адну вокладку.

Да сказанага вышэй пра гэту таленавітую жанчыну хочацца дадаць, што ў чэрвеня 2015 года Леанарду Юргілевіч прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

*2015*

## Вікторыя Воўкава: «Я з'ехала з горада ў пошуках Беларусі і сябе ў ёй»

З маладой настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Дварэцкай сярэдняй школы Дзятлаўскага раёна Вікторыяй Воўкавай я пазнаёміўся ў Дзятлаве падчас адной літаратурнай імпрэзы ў раённай бібліятэцы. Дзяўчына шмат фатаграфавала, уважліва слухала выступоўцаў, нешта занатоўвала ў свой блакноцік. Пасля мерапрыемства я даведаўся, што Вікторыя некалькі гадоў таму скончыла філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы і прыехала працаваць у вёску Дварэц Дзятлаўскага раёна. Родам яна з Гродна, і лёгка магла застацца працаваць у сваім родным горадзе над Нёманам. Але маладая настаўніца выбрала глыбінку.

*— Спадарыня Вікторыя, як так здарылася, што Вы, гарадская дзяўчына, пасля заканчэння філалагічнага факультэта Гарадзенскага ўніверсітэта трапілі працаваць у глыбінку —*


*Вікторыя Воўкава ў кабінеце роднай літаратуры*

*Дварэцкую сярэднюю школу Дзятлаўскага раёна? Ці не прасцей было б застацца працаваць у Гародні, дзе жывуць родныя і блізкія людзі, сябры, шмат знаёмых?*

— На тое, каб з’ехаць з Гародні, я мела некалькі прычын. Найперш я хацела стаць настаўніцай, але ў маім родным горадзе мая адукацыя і жаданне працаваць аказаліся нікому не патрэбнымі. Праўда, мне прапанавалі на размеркаванні месца выхавальніка ў гарадзенскім дзіцячым садку. Але я адмовілася і вырашыла, што лепш буду настаўніцай у сельскай школе. Сярод магчымых варыянтаў я выбрала месцам будучай працы Дзятлаўскі раён. Гэты раён быў і застаецца мне цікавы у краязнаўчым плане. Справа ў тым, што пасля кніжнай універсітэцкай навукі мне хацелася дакрануцца да жывой гісторыі, рэшткі якой яшчэ засталіся ў беларускай вёсцы. Акрамя таго, мне было цікава вырвацца з ужо звыклага кола паўсядзённасці. Я хацела пабачыць жыццё з іншых ракурсаў, атрымаць новы досвед, зірнуць на свет па-іншаму. Мэту свайго пераезду ў вёску я сфармулявала для самой сябе гэтак: «Па Беларусь, па мову, па сябе». Так, я з’ехала з горада ў пошуках Беларусі і сябе ў ёй.

Застацца ў горадзе было б, безумоўна, прасцей. Але я ведала, што, каб не стаяць на месцы, трэба вырашыцца на змены. І сёння, азіраючыся назад, я нікольні не шкадую пра зроблены выбар.

*— І як працуецца сёння маладой настаўніцы, шчырай беларусачцы ў вясковай школе? Чым яна, вучні, настаўнікі адрозніваюцца ад гарадскіх школ?*

— Мне заўсёды было складана адназначна адказаць на пытанне, ці падабаецца мне працаваць ў школе. Бывае, я натхнёна



рыхтуюся да ўрокаў, шукаю цікавыя матэрыялы, прыдумваю пазакласныя мерапрыемствы. А бывае, хочацца пакласці на стол дырэктара заяву аб звальненні і больш не думаць і не чуць пра школу. У мяне часта пытаюцца, ці не складана мне з дзецьмі. На гэта я нязменна адказваю: з дзецьмі — нескладана, складана — з дарослымі. Я люблю сваіх вучняў і тыя справы, якімі мы разам займаемся, люблю і ведаю прадметы, якія выкладаю. Але ў сучаснай школе гэтага далёка не дастаткова. Да настаўніка нярэдка даводзяцца абсурдныя патрабаванні, выкананне якіх, на мой погляд, зневажае прафесійную і чалавечую годнасць. Для таго ж, каб супрацьстаяць, каб застацца пры сваіх перакананнях і прынцыпах, неабходна мець цвёрдасць адстойваць сваю пазіцыю, не зважаючы на ціск з боку адміністрацыі і калегаў, ведаючы, што ўголас цябе не падтрымаюць нават тыя, хто ўвогуле поўнасцю падзяляе тваё меркаванне. Усё гэта вымагае вялікіх душэўных высілкаў, адбіраючы час і сілы на непасрэдную настаўніцкую працу. Але ад песімізму і адчаю ратуе адчуванне адказнасці перад вучнямі. І на пытанне, ці падабаецца мне мая праца ў школе, пасля нядоўгіх развагаў я ўсё ж адказваю: падабаецца. Мне падабаецца сутнасць настаўніцкай працы, тое, дзеля чаго я заканчвала ўніверсітэт і прыйшла ў школу. А на іншым я стараюся не засяроджвацца. Што да пытання пра адрозненне вясковай школы, вясковых вучняў і настаўнікаў ад гарадскіх, то я не бачу прынцыповай розніцы. Умовы для навучання ў нас не горшыя, чым у горадзе. А людзі ўсюды аднолькава розныя: і дзеці, і дарослыя. У кнізе Дэвіда Рэндала «Універсальны журналіст» мяне калісьці ўразіла тое, што аўтар дзеліць журналістаў толькі на добрых і дрэнных. Усё іншае не мае значэння. Я лічу, што гэтак жа і з настаўнікамі. Ёсць настаўнікі добрыя і дрэнныя. І гэта зусім не залежыць ад таго, працуюць яны ў вясковай школе ці ў гарадской. Кажу я гэта не галаслоўна. Мне ёсць з чым параўноўваць. Я сама вучылася ў гарадской гарадзенскай школе. Па гэтай жа прычыне я лічу несправядлівым асобны конкурс для гарадскіх і сельскіх абітурыентаў. Пры наяўнасці здольнасцей і жадання можна паспяхова падрыхтавацца да ўступных іспытаў і ў вёсцы.

*— Ці сумуеце Вы па Гародні, па гарадской мітусні, па літаратурна-культурных тусоўках?*

— Напачатку, безумоўна, сумавала. Але зараз і сумаваць няма калі. Нягледзячы на тое, што нарадзілася я ў горадзе, мне камфортна жыць і ў Дварцы, які, як і Гародню, лічу сваім. Я люблю гэтае старажытнае мястэчка на Дзятлаўшчыне. Яно вабіць мяне сваімі яшчэ не да канца раскрытымі таямніцамі. Я збіраю па кавалачках яго мінулае, працую з архіўнымі матэрыяламі, гутару з жыхарамі. Вельмі люблю вандраваць па наваколлі. Шмат хаджу і езджу на ровары. Наведваю малыя вёсачкі, размаўляю з людзьмі, фатаграфую. Разам з працай гэта стала маім жыццём. Але і ад сучаснага свету я не адарваная. Сёння, дзякуючы інтэрнэту, можна быць у курсе падзей, нават жывучы ў вёсцы. Ды і ў Гародню я езджу даволі часта. Па магчымасці наведваю і найбольш цікавыя культурныя імпрэзы. А ў Дварцы імкнуся арганізаваць іх у школе сама.

*— Вы выкладаеце родную мову і літаратуру ў школе. Ці з радасцю, ці з задавальненнем Вашы прадметы вывучаюць дзеці? Як яны і іх бацькі адносяцца да беларускасці ў цэлым?*

— Сваёй асноўнай мэтай як настаўніцы я лічу папулярызацыю беларускай мовы. Безумоўна, важна навучыць дзяцей правільна пісаць і разбірацца ў моўных нюансах. Але яшчэ важней дапамагчы вучням зразумець, што беларуская мова нічым не горшая за іншыя, што на ёй можна і неабходна свабодна размаўляць, што беларускамоўнасць — гэта прымета не вясковасці і адсталасці, а інтэлігентнасці, самапавагі і гонару. Калі я толькі прыйшла ў школу, многія са здзіўленнем успрымалі тое, што я заўсёды размаўляю па-беларуску. Але здзіўленне гэтае, як правіла, мела добразычлівую форму. Мне нярэдка задавалі пытанне: «Чаму?», прычым нават вучні з тых класаў, у якіх я не працавала. Толькі аднойчы мне давялося паспрачацца з вучнем-васьмікласнікам, які ў даволі рэзкай форме назваў мяне «бэнээфаўкай». Наўрад ці гэтая думка з’явілася ў хлопчыка без уплыву кагосьці з дарослых. На жаль, у нашым грамадстве яшчэ не зніклі стэрэатыпы, паводле якіх беларуская мова аўтаматычна адносіць чалавека да пэўнай партыі ці сацыяльнай групы. Але мінуў час. Пасля таго выпадку прайшло амаль тры гады. Сёння мая беларуская мова не выклікае ні ў кога пытанняў. Усе звыкліся: і дзеці, і дарослыя. І ўжо ніхто не бачыць у гэтым ні палітыкі, якой і насамрэч тут не было і няма, ні чагосьці незвычайнага. І я лічу, што гэта добра. Каб зацікавіць вучняў і ўзбагаціць іх лексічны запас, да ўрокаў я імкнуся падабраць цікавы беларускамоўны матэрыял: словы для перакладу, песні сучасных выканаўцаў, урыўкі з мастацкіх фільмаў, рэкламныя відэаролікі.



*— Ведаю, што ў Вашай школе ўжо два гады запар паспяхова праходзіць Тыдзень беларускай мовы, прымеркаваны да Міжнароднага дня роднай мовы (21 лютага). Раскажыце, Вікторыя, трохі пра гэты Тыдзень.*

— Падчас Тыдня беларускай мовы на дзвярах кабінетаў і сценах разам з вучнямі мы развешваем карцінкі, выявы на якіх падпісаны беларускімі словамі. Яркія малюнкі прыцягваюць увагу не толькі дзяцей, але і дарослых. Усе з задавальненнем абмяркоўваюць не зусім звычайныя словы (напрыклад, басэтля, гмах, хмарачос, апалонік), а таксама звычайныя, але падзабытыя (прас, кажан, касачы, патэльня). У канцы Тыдня праводзіцца моўная гульня, у якой сярод іншых абавязкова сустракаюцца словы з карцінак. Сёлета гэта была моўная эстафета: у «забегу» на папяровым стадыёне перамагаў той, хто здолеў перакласці болей словаў на беларускую мову з рускай. Летась вучні перакладалі словы, гуляючы ў «Поле цудаў». Да свята рыхтуем тэматычныя паштоўкі і насценгазету. Мне здаецца, што за «моўны» Тыдзень вучні запамінаюць болей беларускіх слоў, чым за ўвесь навучальны год.

*— Гэта выдатна. Чуў, што Вы яшчэ кіруеце гуртком «Літаратурнае краязнаўства». Так? Раскажыце пра гэты гурток, пра свае справы, і ці з радасцю яго наведваюць школьнікі?*

— На дадзены момант гурток «Літаратурнае краязнаўства» ужо не існуе. Аднак я з’яўляюся адным з каардынатараў дзейнасці гісторыка-патрыятычнага клуба «Спадчына», якім кіруе цудоўная настаўніца Наталля Міхайлаўна Ляўкевіч. Мы з ёю цесна супрацоўнічаем.

*— Тады раскажыце пра клуб «Спадчына».*

— Дзейнасць клуба «Спадчына» ўключае ў сябе розныя накірункі: краязнаўчы, літаратурны, экалагічны і іншыя. Вучні з



*З Алай Петрушкевіч у Гродзенскім універсітэце імя Янкі Купалы*

радасцю ўключаюцца ў тыя справы, якія мы ім прапануем, а таксама прапануюць свае. Мы імкнемся паказаць дзецям, якая неверагодна цікавая наша Беларусь, якая багатая яе культура і незвычайна гісторыя. А таму шмат падарожнічаем. Так, за мінулыя два гады мы наведалі Дзятлава, Ліду, Баранавічы, Мінск, Гродна, Нясвіж, Полацк, Навагрудак, Завоссе, Ракуцёўшчыну. Таксама перыядычна арганізуем паходы па навакольных вёсках, ходзім пешшу, ездзім на роварах. Размаўляем з людзьмі і запісваем успаміны, звяртаем увагу на мясцовыя асаблівасці. У межах экалагічнага кірунку штогод прымаем удзел у акцыях «Чысты лес», «Чысты бераг». Арганізуем збор выкарыстаных батарэек, каб пасля здаць іх для бяспечнай утылізацыі. Садзім дрэвы ў экасадзе, які створаны сябрамі клуба ўжо восем гадоў таму. Па ініцыятыве кіраўніцы клуба Наталлі Міхайлаўны вось ужо больш за дзесяць гадоў вядзецца праца па захаванні ўнікальнага мясцовага некропаля. Дзякуючы настаўніцы-патрыётцы адноўлена фамільнае пахаванне шляхецкай сям'і Пратасевічаў, былых уладальнікаў зямель у ваколіцах Дварца. Адну з магілаў пачатку XX стагоддзя ўпрыгожвае скульптура «Самотны Анёл». Гэтая частка могілак ачышчана ад смецця і зарасцяў, тут падняты паваленыя помнікі і адноўлены магілы. З вясны па восень мы разам з вучнямі садзім тут кветкі, паліваем ў спёку, прыбіраем смецце.

*— А як вясковыя школьнікі да ўсяго гэтага ставяцца?*

— Школьнікі надзвычай адказна ставяцца да гэтай працы. А найцікавешая, відаць, традыцыя клуба — калядаванне. Ужо з восені Калядаў з нецярпеннем чакаюць як дзеці, якія будуць прымаць удзел у святочных віншаваннях, так і дарослыя жыхары Дварца, гатовыя прыняць калядоўнікаў. Наш клуб адкрыты для кантактаў. Мы заўсёды рады гасцям. Гэта выдатна, калі дзеці, якія жывуць у рускамоўным (ці, хутчэй, нават трасянкамоўным) асяроддзі, маюць магчымасць пачуць, як пісьменнікі, музыкі, краязнаўцы, іншыя цікавыя асобы, якія прыязджаюць да нас у госці, гавораць, спяваюць і жартуюць па-беларуску.



*— Вікторыя, а Вам не надакучыла працаваць у сельскай школе ці проста быць настаўнікам?*

— Не, не надакучыла. Я думаю, што ў мяне толькі пачынаецца найбольш плённая праца ў школе. Перыяд настаўніцкага «вучнёўства» завершаны. Пераадолены цяжкасці і расчараванні першых гадоў. Выпрацавана сваё бачанне працы і яе метадаў. Прыйшоў час удасканальвацца як спецыялісту. Тым не менш я не хацела б працаваць у школе да пенсіі. Наш свет разнастайны і неабсяжны. Я хачу паспрабаваць сябе і ў іншых сферах. А праца ў школе, на жаль, пакідае вельмі мала часу на тое, што для мяне таксама цікава і важна. Я думаю, што прыйдзе час, калі для таго, каб не спыніцца ў сваім развіцці, мне трэба будзе пакінуць школу.

*— Ці ўсё жыццё плануеце заставацца ў Дварцы і працаваць там да пенсіі? Ці ў ціхай вёсцы ўсё ж будуюцца і нейкія планы?*

— Я не думаю, што застануся ў Дварцы назаўсёды. Жыццё чалавека дзеліцца на пэўныя перыяды, пасля заканчэння якіх трэба ісці далей. Але пакуль я не збіраюся пакідаць «ціхую вёску». Мяне трымае тут праца, якую я люблю, і справы, якія хачу давесці да канца. А з'еду я тады, калі адчую, што гэты перыяд майго жыцця ўжо завершаны, што я зрабіла ўжо ўсё, што магла.

*2014, верасень*

# Уладзімір Васько: «У жыцці павінна быць рамантыка»



*Уладзімір Васько ў маладосці*

З творчасцю беларускага паэта, празаіка і журналіста Уладзіміра Васько я пазнаёміўся ў 1981 годзе, калі вучыўся на першым курсе Белдзяржуніверсітэта. Тады выйшаў з друку яго першы зборнік паэзіі «Прасветленасць». Ён мне спадабаўся, і я напісаў на гэты зборнік невялікую рэцэнзію і занёс яе ў тыднёвік «Літаратура і мастацтва», дзе загадчыкам аддзела крытыкі быў Анатоль Сідарэвіч. Праз пэўны час рэцэнзію апублікавалі, праўда, з пэўнымі крытычнымі дапаўненнямі.

Прайшло шмат гадоў і лёс зноў звёў мяне з Уладзімірам Васько, якога я прасіў напісаць успаміны пра Міхася Петрыкевіча (1913–1999) — заснавальніка Дзятлаўскага краязнаўчага музея. Успаміны ён напісаў, і яны былі апублікаваныя ў кнізе Міхася Петрыкевіча «Народжаны вечнасць тварыць» (Мінск, 2013. С. 155–157).

Чалавек усё жыццё пражыў у глыбінцы. Працаваў у Шчучынскай раённай газеце, пасля Гродзенскага педінстытута настаўнічаў на Дзятлаўшчыне, потым працаваў карэспандэнтам у дзятлаўскай раённай газеце «Перамога», у рэдакцыі «Лідскай газеты»: і намеснікам рэдактара, і рэдактарам. За гэты час родную Гродзеншчыну ён аб'ехаў амаль усю, шмат сустракаўся з людзьмі, быў знаёмы з мясцовымі літаратарамі, кампазітарамі, мастакамі, музыкантамі, пісаў пра іх, пісаў наогул пра тое, чым тады жыла беларуская правінцыя. Пра ўсё гэта я і вырашыў з ім пагутарыць.

*— Уладзімір Гаўрылавіч, я з вялікай радасцю прачытаў Вашу апошнюю кнігу прозы «Лясная рапсодыя». Асабліва мне спадабаліся ўспаміны пра Васіля Быкава і заходнебеларускага паэта Пятруся Граніта (Івана Івашэвіча). У Заходняй Беларусі былі (іх часта разам згадвалі) паэты Прамень, Струмень, Граніт. Ці ведалі Вы іх? І ці сябравалі яны між сабой? Яны ж родам былі з Дзятлаўшчыны.*



— Вядома ж сябравалі. Я не ведаю канкрэтных дэталяў гэтага сяброўства у дачыненні да Праменя. А вось што датычыць Васіля Струменя (Аляксандра Лебедзева) і Пятруся Граніта (Івана Івашэвіча), то іх сяброўства звязвала на ўсё жыццё. Не проста звязвала, а ў дзяцінстве і ў маладосці яны нават жылі пад адным дахам у вёсцы Зачэпічы, што на Дзятлаўшчыне. Справа ў тым, што падчас Першай сусветнай вайны сям'я Івашэвічаў выязджала ў Расію. Адтуль яны вярнуліся з папаўненнем — прывезлі малога Аляксандра Лебедзева, які стаў паўнапраўным членам сям'і. Толькі я канкрэтна не ведаю (і цяпер няма ў каго спытаць), ці то бацька Івашэвіча жаніўся другі раз (магчыма, яго першая жонка памерла) на маці Лебедзева, ці то ён усынавіў Аляксандра як сірату.

Васіль Струмень (Лебедзеў) добра вывучыў беларускую мову, пісаў на ёй вершы, умеў чытаць і размаўляць на польскай і ўкраінскай мовах. Абодва яны — Граніт і Струмень — актыўна ўдзельнічалі ў падпольным руху да 1939 года. Пасля Другой сусветнай вайны і да самай смерці Васіль Струмень жыў у горадзе Сарны на Украіне, але штогод прыязджаў на Бацькаўшчыну ў родную вёску Зачэпічы, а адтуль у Дзятлава. Ён заўсёды заходзіў са сваімі вершамі (калі адзін, а калі і разам з Івашэвічам) у рэдакцыю газеты «Перамога», у якой іх творы друкаваліся. Прыязджаў Васіль Струмень і ў Ліду, заглядваў у рэдакцыю газеты «Уперад» (цяпер яна называецца «Лідская газета»). Паколькі я і ў Дзятлаве, і ў Лідзе кіраваў літаратурнымі аб'яднаннямі і вёў літаратурныя старонкі, я стараўся друкаваць яго вершы. Васіль Струмень разам з калектывам Лідскай газеты выязджаў у Вязынку на святкаванне 100-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы, на іншыя мерапрыемствы.

*— Аб чым Вы не напісалі ў сваёй кнізе «Лясная рапсодыя» (Ліда, 2013), прыгадваючы Васіля Быкава? Ці ёсць нейкая тайна?*

— Гэта не тайна, а проста адна ўпушчаная дэталь да характару пісьменніка. Васіль Уладзіміравіч заўсёды выступаў перад публікай сур'ёзна і разважліва. Але вось што адбылося падчас аднаго з яго выступленняў. Мы, група студэнтаў Гродзенскага педінстытута, праходзілі педпрактыку ў сярэдняй школе № 1 г. Гродна. Адна

наша студэнтка запрасіла Васіля Быкава на свой урок па рускай літаратуры і ў дзясятым класе дала яму слова. Мы таксама прысутнічалі. Як заўсёды, ён выступаў сур'ёзна пра сучасную беларускую літаратуру, называў прозвішчы аўтараў, маладых і старэйшых, іх творы. А студэнтка ўсё прасіла Васіля Ўладзіміравіча: «Раскажыце што-небудзь смешнае, смешнае. Трэба ж, каб смяяліся вучні».

Васіль Уладзіміравіч пэўны час трываў яе прыставанні. А пасля спакойна сказаў: «Паслухайце, я вам не клоун, каб смяшыць дзяцей. А калі хочаце, каб яны смяяліся, выклікайце з Мінска Міхася Скрыпку ці Алеся Ставера». Студэнтка замоўкла, а вучні засмяяліся.

*— Я ведаў гарадзенскага паэта і журналіста Уладзіміра Шурпу (1939–1998). Вы з ім некалі добра сябравалі. На жаль, пра яго сёння рэдка ўспамінаюць. Раскажыце трохі пра яго.*

— Калі я паступіў у Гродзенскі педінстытут імя Янкі Купалы (1960), Уладзімір Шурпа ўжо вучыўся на трэцім курсе. Аднак мы з ім даволі хутка зблізіліся і пасябравалі. Разам хадзілі ў рэдакцыю газеты «Гродзенская праўда» на літаб'яднанні, выступалі на абласным радыё. Старэйшыя пісьменнікі Васіль Быкаў і Аляксей Карпюк, калі ў нас крыху памацнелі паэтычныя крылы, бралі нас іншы раз з сабой выступаць у школах, тэхнікумах, воінскіх часцях, у раённых цэнтрах. Помняцца, напрыклад, паездкі ў Ваўкавыск, Свіслач.

Акрамя рэдакцыі «Гродзенскай праўды» мы з Валодзем Шурпам хадзілі і ў рэдакцыю гродзенскай раённай газеты «Сельская новь», літаратурным аб'яднаннем у якой кіраваў паэт і даследчык, інспектар раённага аддзела адукацыі Апанас Цыхун. У гэтай газеце таксама друкавалі нашы вершы.

Уладзімір Шурпа быў здольным паэтам, гарэзным, гаваркім, разумным хлопцам. На жаль, яму пры жыцці ўдалося выдаць толькі адзін зборнік вершаў «Перазвон адліг» (1996).

У суботнія і нядзельныя вечары Валодзя звычайна браў у рукі гармонік, на якім добра іграў, і праходзіў па калідорах інтэрната з чацвёртага па першы паверхі, выводзячы мелодыі беларускай полькі ці вальса. Гэта быў сігнал для хлопцаў і дзяўчат збірацца на танцы. Яны ладзіліся на нашым другім паверсе ў фае. Спачатку іграў Шурпа, пасля яго змянялі Коля Петрыкевіч ці Алесь Пятроўскі. Часам мы Валодзю запрашалі ў свой 45-ы пакой і казалі: «Ну, Вовік, ідзі адгавейся. Ты ўжо, відаць, стаміўся…». Налівалі яму поўную шклянку партвейну і ён залпам асушваў яе да дна. Ажыўлялася гамонка, гучаў смех. А пасля мы ўсе разам зноў ішлі на танцы.



Помніцца такі выпадак. Неяк Данута Бічэль запрасіла Апанаса Цыхуна, Валодзю Шурпу і мяне выступіць у школе рабочай моладзі, дзе яна пасля заканчэння педінстытута выкладала беларускую мову і літаратуру. Апанас Пятровіч дабіраўся туды сваім ходам, а я з Шурпам па дарозе заехалі на кватэру яго брата. Валодзя хацеў напрасаваць штаны. Дома нікога не было. Ён разагрэў прас і, не выключаючы яго, пачаў прасаваць. А час нас прыспешваў. І я Шурпу нават крыху падганяў. Неўзабаве ён хуценька надзеў яшчэ цёплыя штаны — і ў калідор, дзе я ўжо гатовы быў адчыніць дзверы. Шнура ж з разеткі ветраны паэт не выцягнуў.

Мы добра даехалі да школы, няблага выступілі. Але, калі вярнуліся на кватэру яго брата, убачылі, што чуць у кватэры не адбыўся пажар: прас прапаліў стол і ўпаў на падлогу. На падлозе ён таксама прапаліў немалую пляму. Валодзя вельмі перажываў: «Перападзе мне ад брата. Адбярэ ключ».

Я стараўся яго суцешыць: «Дык стол жа стары. Чаго яго так ужо шкадаваць. Купіць новы».

На другі дзень мы заглянулі ў кабінет Апанаса Цыхуна і расказалі яму пра гэта здарэнне. «Ну і шалапуты, — папракнуў нас Апанас Пятровіч, — маглі б нарабіць пажару».

*— Вядома ж, у Вашым жыцці былі сустрэчы і з іншымі вядомымі літаратарамі Беларусі. Так?*

— З многімі… і ў Гародні, і ў Дзятлаве, і ў Мінску, і ў Лідзе. Асабліва памятаюцца мне сустрэчы з Янкам Брылём і Алегам Лойкам.

*— Раскажыце пра іх.*

— Неяк у Дзятлава летам 1968 года прыехаў нейкі дзядзька з Польшчы, які да вайны служыў з Янкам Брылём у марской пяхоце на Балтыцы. Ён зайшоў у рэдакцыю раёнкі і перадаў адказнаму

сакратару Васілю Пранкевічу фотаздымкі, на якіх красаваўся ў марской форме малады Янка Брыль, і папрасіў як-небудзь даставіць іх сябру сваёй маладосці. На той час мяне ў рэдакцыі не было. На другі дзень Пранкевіч паказаў мне здымкі і прамовіў: «Ты бываеш у Мінску, заходзіш у рэдакцыі, можа, перадасі як-небудзь фотакарткі Янку Брылю». Я ўзяў іх, паклаў у канверт і паабяцаў, што яны знойдуць патрэбнага адрасата. Праз некалькі дзён я паехаў у Мінск, зайшоў у рэдакцыю часопіса «Маладосць», аддаў Міколу Аўрамчыку новыя вершы і паказаў фотаздымкі: «Як іх перадаць Янку Брылю?». «Пакідай тут, — адказаў спадар Аўрамчык. — Я іх перадам. Мы з ім — сябры». Я іх і пакінуў. Праз тыдні два ў Дзятлава прыязджае Янка Брыль са сваёй дачкой. Яны заходзяць у рэдакцыю, павіталіся і Брыль пытае: «Дзе тут можна ўбачыць Валодзю Васько?». «Я перад Вамі», — адказваю. «А як да цябе трапілі гэтыя здымкі?» — адразу запытаўся Брыль. Я патлумачыў тое, што ведаў, і дадаў: «Я паклічу адказнага сакратара рэдакцыі, ён раскажа больш падрабязна». «Пакліч», — кажа Брыль. Прыйшоў у кабінет Вася Пранкевіч, стаў дэталёва апавядаць, скуль гэты дзядзька, якое ў яго прозвішча, да каго ён прыязджаў у Дзятлава, як у маладосці яго звёў лёс з Брылём. Іван Антонавіч уважліва слухаў, а пасля сказаў: «Так гэта ж мой самы лепшы сябра. Дзякую вам за здымкі». Васіль Пранкевіч даў яму адрас гэтага чалавека. А потым мы яшчэ з паўгадзіны размаўлялі. Іван Антонавіч цікавіўся, як мы жывём, пра што пішам, дзе бываем. «А я вось з дачкою, — прамовіў ён, — еду ў калгасны дом адпачынку “Рэчанька”, што на Шчары ў вёсцы Малая Воля. Там ціхі, маляўнічы куточак, добра адпачываць, рыбачыць. У пакоі, дзе я звычайна пасяляюся, непафарбаваная падлога — і мне гэта вельмі падабаецца. Чысценькія сасновыя дошкі, пахнуць смалою. Няблага там і пішацца. Загляніце, калі будзеце выязджаць па збор матэрыялаў».

Але мы не асмеліліся трывожыць славутага пісьменніка. Баяліся, што можам прыехаць у той час, калі ён якраз што-небудзь будзе пісаць, і мы пераб’ем яго думкі. Дарэчы, згаданы дом адпачынку (у творы ён называецца Шчарынка), быт у ім, сустрэчу з людзьмі, пушчанскую прыроду Янка Брыль адлюстраваў у сваім апавяданні «Дырэктарка».





*На літаратурным вечары ў Яварскай сярэдняй школе. Алег Лойка, побач з ім — Уладзімір Васько, настаўнікі, 1966 г.*

*— А як у Вас адбылася сустрэча з пісьменнікам, доктарам філалагічных навук, прафесарам Алегам Лойкам?*

— Гэта таксама было ў Дзятлаве. Дырэктар Яварскай сярэдняй школы А. Пятроль запрасіў на літаратурны вечар Алега Лойку, з якім разам вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце. Ён жа патэлефанаваў мне і сказаў, што Алег Лойка і інспектар Дзятлаўскага раённага аддзела адукацыі І. Пазняк возьмуць і мяне з сабой на вечар. Я крыху расхваляваўся, але падрыхтаваў вершы, бо ведаў, што прыйдзецца выступаць, і чакаў, калі і хто мяне пакліча. І вось у рэдакцыю райгазеты заглянуў І. Пазняк. «Паехалі, — прамовіў ён. — Алег Лойка ўжо ў машыне». Мы выйшлі на вуліцу, селі ў машыну і паехалі ў вёску Явар. У школе настаўнікі разам з вучнямі, сапраўды, наладзілі вялікі літаратурны вечар. Вучні чыталі вершы, расказвалі пра нашу творчасць. Прыемна было чуць, як з вуснаў юных дзяўчат і хлопцаў гучаць твае ўласныя творы. Не ведаю, як для Лойкі, а для мяне такая сітуацыя надарылася ўпершыню.

Другая сустрэча з гэтым знакамітым чалавекам адбылася ў Гродне ў доме Элізы Ажэшка, дзе праходзіла выязное пасяджэнне

бюро секцыі паэзіі Саюза пісьменнікаў БССР. Сюды прыехала група літаратараў з Мінска на чале са старшынёй секцыі паэзіі Алегам Лойкам. Сярод іх былі Мікола Арочка, Вольга Іпатава, Рыгор Семашкевіч, Уладзімір Скарынкін і іншыя. На паседжанне былі запрошаны і літаратары Гродзеншчыны, вершы якіх былі вынесены на патрабавальны, але добразычлівы суд майстроў слова.

Пачатак размовы паклаў Аляксей Карпюк. Затым пра аўтараў прамаўляла Данута Бічэль. Пасля ўсяго Алег Лойка з прэзідыума спытаў: «Васько ёсць у зале?». Я падняўся і сказаў: «Вось я». Трымаючы ў руках мае вершы, надрукаваныя на машынцы, ён прамовіў: «Дык у цябе ж гатовы зборнік. Яго хоць сёння аддавай у выдавецтва».

Неўзабаве адбыўся перапынак. Я ўстаў з-за стала і павітаўся з Алегам Антонавічам. «Ну дык вось што, я вазьму з сабой твае вершы, больш уважліва прачытаю іх дома, зраблю на палях свае заўвагі, а потым вышлю табе ці перадам праз каго. А ты, калі выправіш недахопы, адвозь будучую кнігу ў выдавецтва».

Я, вядома ж, узрадаваўся такой сітуацыі. Алег Лойка вельмі мяне падтрымаў. Чакаў я вяртання вершаў з нецярпеннем. І вось аднойчы, падняўшыся на пляцоўку ў сваім пад'ездзе, бачу ў дзвярах запіску. Дастаў яе і прачытаў. Запіска была ад Алега Антонавіча. У ёй ён пісаў: «Быў у Лідзе ў стрыечнага брата, хацеў бачыць цябе, але дома, мабыць, нікога не было, бо дзвярэй ніхто не адчыніў». Далей ён пісаў, што амаль усё лета будзе жыць у Слоніме ў цешчы. Пакінуў у запісцы яе адрас і запрасіў, каб я ў бліжэйшы час прыбыў туды.

Дачакаўшыся суботы, я на маршрутным аўтобусе з радасцю і хваляваннем ехаў у Слонім. Знайшоў патрэбны мне домік на беразе Шчары. І хутка мы з Алегам Лойкам зноў перачытвалі мае вершы. Ён сказаў, што ў рукапісе нямала перлаў сапраўднай паэзіі, але ёсць і недахопы. І кожную заўвагу на палях ён растлумачыў больш падрабязна, дэталёва, падказваючы, у якім месцы патрэбна напісаць па-іншаму. Я, безумоўна, уважліва слухаў і ўсё запамінаў. Яму вельмі спадабаліся мае радкі:

І намагнічвае прастору
Твая зямная прыгажосць.





*Супрацоўнікі дзятлаўскай раённай газеты «Перамога» (справа налева): Марыя Клімко, Уладзімір Васько, Алена Рамановіч, Валянціна Смірнова, Леанарда Гардынец (Юргілевіч), 1971 г.*

Да ночы быць натхнёным бору,
Калі ты ў ім такая ёсць.

Ён іх працытаваў. А непадалёку, справа, сапраўды, стаяў прыгожы сасновы бор, а ўнізе цякла празрыстая Шчара, на другім беразе якой буяла трава, злёгку варушыліся пад подыхам цёплага ветрыку галінкі лазовага і альховага кустоўя. Наўкола спявалі і ціўкалі птушкі. І так хораша і светла было на душы ў мяне! Я думаю, што ў Алега Антонавіча таксама. Гэта было бачна па яго іскрыстых вачах і цёплай усмешцы.

Дамоў з рукапісам у руках я ехаў у неапісальна радасным настроі. Вось што значыць падтрымка вядомага літаратара, навукоўца. Заўвагі Алега Лойкі я ўсе ўлічыў і хутка завёз рукапіс свайго першага паэтычнага зборніка «Прасветленасць» у Мінск у выдавецтва «Мастацкая літаратура». Ён і выйшаў з друку ў 1981 годзе.

*— Уладзімір Гаўрылавіч, мне здаецца, раней цікавей было працаваць у рэдакцыях раённых газет, дзе гартаваліся творчыя людзі*

*раённых цэнтраў, гутарылі, спрачаліся, часцей друкавалі свае літаратурныя творы. Цяпер зусім не так. Што Вам памятаецца з таго часу, калі Вы працавалі журналістам у Дзятлаўскай і Лідскай райгазетах?*

— У Вашым пытанні амаль утрымліваецца і адказ. Так, усё гэта было. Асабіста мне найбольш падабаліся паездкі па вёсках раённых цэнтраў. Да гадзін 15–16 мы стараліся набраць фактаў у блакноты. Пасля дазвалялі сабе некаторую вольнасць. У летні час, наездзіўшыся, напрыклад, па Дзятлаўскім раёне, мы заязджалі на Шчару, Маўчадку ці Нёман і змывалі дарожны пыл, купаліся, загаралі, а восенню ў Ліпічанскай пушчы збіралі грыбы. У Лідскім раёне таксама ў такі ж час адпачынкамі для нас былі Гаўя, Дзітва, Лебяда, той жа Нёман, навакольныя лясы. У гэтым адчувалася пэўная рамантыка. Да таго ж тады ў рэдакцыях раённых газет больш працавала мужчын, чым цяпер. А з імі, як вядома, прасцей было.

*— Ці пайшлі б сёння працаваць у раённую газету ці, калі б вярнуліся гады, інакш звязалі б свой лёс?*

— Пайшоў бы па тым жа шляху, па якім ішоў да сённяшніх дзён. У газету я і зараз гатовы ісці працаваць. Але ж ужо не бяруць. Там маладыя дзяўчаткі не вылазяць з камп'ютараў. Рамантыка забылася пра іх, а яны — пра рамантыку. Але ж час мяняецца, а жыццё працягваецца.

*2013*



## Фёдар Красюк: «Павінна быць алея Славы знакамітых дзятлаўчан»



*Мікалай Несцярэўскі і Фёдар Красюк*

Фёдар Красюк пасля заканчэння Мінскага педінстытута вярнуўся на родную Дзятлаўшчыну. Працаваў настаўнікам, інструктарам-метадыстам на Дзятлаўскай базе юных турыстаў, адказным сакратаром раённай арганізацыі таварыства «Веды». З 1985 года на працягу 24 гадоў працаваў дырэктарам Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея. Цяпер Фёдар Красюк на заслужаным адпачынку. У вольны час цікавіцца гісторыяй населеных пунктаў Дзятлаўскага раёна. Аўтар кнігі «Зецела, або Падарожжа па старых вуліцах Дзятлава» (Гродна, 2013, 2015).

*— Фёдар Фёдаравіч, Вы шмат гадоў узначальвалі Дзятлаўскі гісторыка-краязнаўчы музей. Што часцей за ўсё прыгадваецца з тых часоў?*

— У тыя часы, калі я працаваў у гісторыка-краязнаўчым музеі, пачаў цікавіцца гісторыяй свайго роднага горада, збіраць звесткі пра вуліцы і мясціны, архіўныя фотаздымкі. Па-першае, я сам тут вырас, таму помню, дзе што знаходзілася ў горадзе. Па-другое, распытваў сведак са свайго і старэйшага пакалення. Пры дапамозе знаёмых збіраў інфармацыю і нават не думаў, што гэта выльецца ў нейкі суцэльны твор. Штуршком да выдання сабраных матэрыялаў стала падрыхтоўка горада (найперш — плошчы 17 верасня) да 500-годдзя Дзятлава. Некаторыя архіўныя звесткі пра вуліцы і плошчу горада дапамог знайсці гродзенскі гісторык Ігар Трусаў,

частка матэрыялу была назапашана ў мяне асабіста. Усё і склала маю кнігу пра вуліцы Дзятлава.

*— Раскажыце трохі пра сваю кнігу «Зецела, або Падарожжа па старых вуліцах Дзятлава», якая ўжо мела два выданні. Як яна пісалася, задумвалася, планавалася?*

— Я назваў кніжку «Зецела, або Падарожжа па старых вуліцах Дзятлава»«, як светлы ўспамін аб сваім маленстве. Зецела — гэта балцкая форма назвы Дзятлава. Чаму балцкая? Справа ў тым, што вакол Дзятлава яшчэ ў старажытныя часы былі паселены балцкія плямёны прусаў і бартаў. Нягледзячы на ўплыў беларускага асяроддзя, беларускай і польскай моў, яны зберагглі праз вякі свой говар. Жыхары навакольных вёсак так і гаварылі: «Пойдзем да Зецелы».

Да абласных «Дажынак», якія ў 2015 годзе прымала Дзятлаўшчына, было прымеркавана другое, дапоўненае выданне. Яно дадалося новымі звесткамі пра ўладальнікаў Дзятлава, планам мястэчка 1848 года і фотаздымкамі.

Кніга адрасавана ўсім, хто цікавіцца гісторыяй горада Дзятлава. У той жа час выданне можа стаць добрым падмуркам для студэнцкіх праектаў, падрыхтоўкі ўрокаў гісторыі ў школе. Апроч змешчанага матэрыялу, у кнізе пададзены немалы спіс літаратуры, які таксама можа прыдасца ў навуковых і краязнаўчых пошуках. Да таго ж пагартаць кнігу будзе прыемна тым людзям, якія пераехалі з Дзятлава, але помняць і любяць сваю малую радзіму.

*— І ўсё ж пра гісторыю Дзятлаўшчыны і яе знакамітых людзей вельмі мала напісана і выдадзена гісторыка-краязнаўчых кніг. Чаму так?*

— Напэўна таму, што няма свайго пісьменніка-краязнаўца, які б ахвяраваў уласным часам са слабой надзеяй калі-небудзь выдаць сваю працу. Раённая ўлада не цікавіцца гісторыяй раёна. Няма грошай — скажа яна? Але калі быў загад выдаць кнігу «Памяць», то грошы, памятаеце, хоць з цяжкасцю, але знайшліся.

*— Каго з вялікіх людзей Дзятлаўшчыны трэба сёння ўшанаваць? Пра каго са знакамітых дзятлаўчан сёння наогул забыліся?*



— Я б у гарадскім парку зрабіў алею Славы сваіх знакамітых землякоў, людзей, якія нарадзіліся тут, нешта зрабілі для Дзятлаўшчыны (прыкладна як у Свіслачы), не фотакарткі, а скульптурныя кампазіцыі. Прыклаў бы ўсе намаганні, каб зберагчы і адрэстаўрыраваць дзятлаўскі палац Радзівілаў, будынак сусветна вядомага вучонага Ігната Дамейкі ў Жыбартаўшчыне. Калі палац не ўключаць у наступную праграму па рэстаўрацыі помнікаў гісторыка-культурнай спадчыны, ён загіне, як амаль загінула сядзіба Ігната Дамейкі. Добра не ведаю, у якім цяпер стане парк у Міроўшчыне, дзе знаходзілася сядзіба Стравінскіх, сваякоў сусветна вядомага кампазітара, бо там даўно не быў. На тэрыторыі раёна трэба было б адзначыць месцы, дзе адбываліся цікавыя гістарычныя падзеі, дзе жылі людзі, якія, як маглі, нешта карыснае рабілі для свайго краю, паставіць ім помнікі. Напрыклад, Канстанціну Астрожскаму, заснавальніку мястэчка, Казіміру Сапегу, які пабудаваў дзятлаўскі касцёл, Мікалаю Радзівілу, які аднавіў палац, паэту Юльяну Корсаку, вучонаму Тамашу Жаброўскаму, мастаку Вікенцію Дмахоўскаму, якія тварылі ў XIX стагоддзі. Дзеячам нацыянальнага Адраджэння, пісьменнікам і паэтам Вячаславу Адамчыку, Аляксандру Бяленка (Н. Жальба), Івану Івашэвічу (Пятрусь Граніт), Івану Пышко (Герасім Прамень), Сяргею Сіняку (Сяргей Хмара), Віктару Шымуку. Сёння мы зусім забыліся пра дзеячаў яўрэйскага складу насельніцтва Дзятлава, а сярод іх ёсць і сусветна вядомыя асобы. Але ў першую чаргу трэба ўшаноўваць знакамітых беларусаў Дзятлаўшчыны.

*— Якія за Вашу бытнасць цікавыя экспанаты траплялі ў Дзятлаўскі музей?*

— За маю бытнасць самым вялікім дасягненнем, я лічу, было набыццё музеем керамічнай калекцыі, а таксама жывапісных работ мастака Мікалая Несцярэўскага — нашага земляка. У музеі знаходзіцца на захаванні каля 300 яго работ. Удалося таксама паспець набыць цікавыя рэчы і з часоў Заходняй Беларусі.

*— Ці памятаеце, калі адкрываўся помнік Ігнату Дварчаніну ў Дзятлаве?*

— Помнік Ігнату Дварчаніну ў Дзятлаве быў адкрыты 29 кастрычніка 1989 года, да 50-годдзя ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. На адкрыццё помніка прыехалі аўтар помніка скульптар Уладзімір Лятун, пісьменнікі Янка Брыль, Анатоль Іверс, сваякі Ігната Дварчаніна. Адбыўся мітынг з удзелам жыхароў горада і вучняў школ. Але больш грунтоўна адзначалі 100-годдзе з дня нараджэння Ігната Дварчаніна ў 1995 годзе. 16 чэрвеня адбылася двухдзённая міжнародная канферэнцыя, якая працавала па секцыях. На яе прыехалі вядомыя вучоныя ў розных галінах навукі. З Мінска — доктар гістарычных навук У. А. Палуян, археолагі — Л. Д. Побаль, Я. Г. Звяруга, В. Л. Лакіза, пісьменнікі Ірына Багдановіч, Арсень Ліс. З Гродна — А. М. Пяткевіч, С. А. Габрусевіч, А. К. Шыдлоўскі. З Вільнюса — М. Савіч, з Польшы — А. Баршчэўскі. Удзельнікі пабывалі з вёсцы Погіры, дзе нарадзіўся Ігнат Дварчанін, усклалі кветкі да помніка, наведалі дзятлаўскі музей. Па матэрыялах канферэнцыі была выдадзена кніжка «На зямлі дзятлаўскай», а Я. А. Місарэвіч і М. Д. Каралёў выдалі кнігу «І. С. Дварчанін».

*— Якія планы ў пенсіянера Фёдара Красюка?*

— А планы ў пенсіянера Красюка, як казаў Ігнат Дамейка: «…Раблю, што магу, працую, як умею, для дабра гэтага краю».

*2016*

## З Бацютаў — у Дзятлава

У Дзятлаве на Кастрычніцкай вуліцы жыве Галіна Мікалаеўна Яравая. Падчас сустрэчы жанчына прызналася, што яна родам з вёскі Бацюты, якая знаходзіцца недалёка ад Беластока. А ў пацвярджэнне гэтаму кабета прынесла з хаты фотаздымак 1948 года. Ён быў зроблены ўжо ў Дзятлаве, але на здымку сфатаграфаваны многія жыхары вёскі Бацюты, найбольш там беларусаў з прозвішчам Калодка. Я папрасіў жанчыну расказаць пра людзей, якія сфатаграфаваны на здымку, а таксама пра сябе.

Галіна Мікалаеўна захвалявалася, але з прыемнасцю пачала свой аповед: «Я нарадзілася ў 1940 годзе ў Бацютах. Калі пачалася вайна і бамбёжка, тата мяне ўзяў на рукі і пабег хавацца ў бульбу, што расла за хатай. А ў гэты момант снарад падае проста на наш агарод, але не змог узарвацца. Так мы засталіся жывыя…».



*— А якое прозвішча было ў вашага бацькі?*

— Бацьку звалі Мікалай Іосіфавіч Шэйноўскі. А мой дзед Іосіф падчас рэвалюцыі ў Расіі жыў у Маскве. Ён працаваў на чыгунцы. А бацька мой там хадзіў у школу, скончыў нават чатыры класы. Пасля яны прыехалі ў Бацюты. На той час тата быў у Бацютах даволі адукаваным чалавекам. Працаваў там намеснікам солтыса. Ён выпісваў паперы на падаткі людзям і разносіў іх па хатах.

*— Ваш бацька і дзед былі праваслаўныя ці каталікі?*

— Усе мы праваслаўныя, па нацыянальнасці — беларусы.

*— А як ваш дзед трапіў з Масквы ў Бацюты?*

— Ён адсюль быў родам. І вярнуўся на Радзіму. А пасля вайны тату рэпрэсіравалі і саслалі ў Разань.

*— А за што тату рэпрэсіравалі?*

— Атрымалася вельмі дзіўная недарэчнасць. Справа ў тым, што да вайны ў Бацютах было некалькі Шэйноўскіх Мікалаеў. Адзін з іх падчас вайны пасадзіў яўрэя на воз, накрыў саломай і завёз за мост, які праходзіў праз Нарву, і здаў немцам. Пасля вайны падумалі, што гэта зрабіў мой бацька Шэйноўскі, і саслалі яго ў Разань на пасяленне. Праўда, адбыў ён там толькі тры гады, яго памілавалі і адпусцілі. Бацька вырашыў вярнуцца ў родныя Бацюты да сваякоў.

*— Але Беласточчына ўжо была пад Польшчай.*

— Так, Сталін ужо Беласточчыну аддаў палякам. Таму тата ў Бацюты не трапіў, а прыехаў у Дзятлава, куды шмат пераехала нашых аднавяскоўцаў і сваякоў.

*— У 1948 годзе ў Дзятлаве жыхары Бацютаў вырашылі зрабіць агульны фотаздымак. Так?*

— Так. Мне было тады толькі 8 гадкоў. Але я памятаю той час і многіх на гэтым здымку.

*— Раскажыце, калі ласка, хто сфатаграфаваны на гэтым старым здымку.*



— На гэтым здымку сфатаграфаваны сем'і Калодкаў, Конюхаў, Фісяк, Абрамовічаў, Грынаш, Капцеўскіх — усе яны з Бацютаў. Але ёсць і чужыя асобы. У другім радзе ў вайсковай форме, трэці злева сядзіць энкэвэдэшнік, які арганізоўваў і перавозіў нас з Бацютаў у Дзятлава. Прозвішча яго не памятаю. Ён ажаніўся на нашай Ані Калодка, што сядзіць злева ад яго. Гэты энкавэдэшнік ужо памёр. Справа на здымку ў касцюме таксама нейкі рускі чэкіст з Чалябінска. Пасля вайны яго прыслалі на Беларусь, каб знішчыць беларускую банду Гомана. Калі ён яе знішчыў, так казалі людзі, то паехаў назад у свой Чалябінск. Часова ён жыў у Дзятлаве.

*— Для вас гэты здымак, відаць, вельмі дарагі?*

— Вельмі. Ён мне нагадвае дзяцінства, якое прайшло ў Бацютах і ў Дзятлаве, а таксама маіх сваякоў і аднавяскоўцаў, многіх якіх, на жаль, ужо няма на гэтай зямлі.

*2011*



## У Казлоўшчыне

Калі я ехаў у вёску Казлоўшчына Дзятлаўскага раёна, то думаў, чым гэта вёска за сваю гісторыю праславіла сябе і хто са знакамітых людзей у ёй нарадзіўся, жыў, працаваў. Найперш прыгадаўся беларускі паэт, публіцыст, журналіст, выдавец і грамадскі дзеяч Сяргей Хмара (1905–1992), які з 1944 года жыў на эміграцыі. Але ў 1930-х гадах ён стварыў на радзіме літаратурную суполку «Маладая Ускалось», у Слонімскім павеце арганізаваў 32 гурткі Беларускай сялянска-рабочай Грамады (БСРГ), некалькі гурткоў ТБШ. А ў 1939 годзе выдаў у Вільні свой першы паэтычны зборнік «Жураўлiным шляхам».

За паўтара года свайго існавання БСРГ стала масавай сялянскай арганізацыяй і налічвала ў сваіх радах дзясяткі тысяч сяброў. На 15 студзеня 1927 года з 64 вёсак Казлоўшчынскай воласці 40 мелі гурткі Грамады, якія аб'ядноўвалі 2000 членаў.

Напалоханы ростам гэтай грознай сілы ўрад Пілсудскага ў студзені 1927 года разграміў Грамаду, кінуў у турмы многіх яе кіраўнікоў і актывістаў. Працэс над БСРГ пачаўся ў Віленскім акруговым судзе 23 лютага 1928 года. На лаве падсудных сядзелі 56 чалавек — кіраўнікі БСРГ Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла, П. Валошын. Разам з імі быў і С. Хмара з П. Якубчыкам з Казлоўшчыны.

Сяргей Хмара ў кнізе «Рабінавы хмель» (Мінск, 2009. С. 158) прыгадвае яўрэя Язэпа Крыгу з Казлоўшчыны. Ён быў сынам краўца. Гадуючыся разам з хлопцамі-беларусамі, ён з маленства чуўся беларусам. Разам з беларусамі апынуўся ў Радашковіцкай беларускай гімназіі, пісаў вершы, друкаваўся ў «Шляху моладзі». Але Другая сусветная вайна перашкодзіла яму выдаць свой першы паэтычны зборнік. Як яўрэй па нацыянальнасці ён уцякаў ад немцаў. Але пад Смаленскам жыццё яго абарвала куля.

З Казлоўшчынай звязана і жыццё беларускага вайсковага дзеяча, удзельніка Слуцкага паўстання 1920 года, праваслаўнага святара Антона Сокал-Кутылоўскага (1892–1983). 24 чэрвеня 1921 года ён быў высвечаны япіскапам Панцялеймонам (Ражноўскім) на праваслаўнага святара. У міжваенны перыяд працаваў у парафіях

Наваградскага і Слонімскага паветаў у школе. Быў прызначаны Дзятлаўскім благачынным, служыў шмат гадоў у Казлоўшчыне. Выказваўся за ўжыванне беларускай мовы ў богаслужэннях праваслаўнай царквы.

У Казлоўшчыне нарадзіўся і вядомы беларускі гісторык, доктар гістарычных навук, прафесар Алесь Смалянчук (1959). Асноўныя тэмы ягоных даследаванняў — гэта гісторыя польскага руху ў Беларусі і Літве ў XIX — пачатку XX стагоддзяў, гісторыя беларускага нацыянальнага руху, палітычная гісторыя Беларусі XIX–XX стагоддзяў і яе адлюстраванне ў памяці жыхароў Беларусі (вусная гісторыя), а таксама краязнаўства.

Вось бадай і ўсе прозвішчы, якія мне прыгадаліся, калі я ехаў у Казлоўшчыну. Але ведаю, што іх значна больш.

Гэты населены пункт на Дзятлаўшчыне даволі вялікі — ён налічвае больш за 2 тысячы жыхароў. Па афіцыйных дакументах Казлоўшчына лічыцца гарадскім пасёлкам. Але мясцовыя жыхары і жыхары суседніх вёсак Казлоўшчыну называюць проста вёскай. У ёй заўсёды жыло шмат людзей. У 1887 годзе гэта было сяло з 1421 жыхаром. У пачатку XX стагоддзя ў мястэчку Казлоўшчына налічвалася каля 500 жыхароў. У 1939 годзе Казлоўшчына ўвайшла ў склад БССР і з 1940 года была цэнтрам раёна ажно да 1960 года.

Шмат сваіх вяскоўцаў Казлоўшчына страціла ў гады Першай і Другой сусветных войнаў. Адны былі выселены ў бежанства і не вярнуліся з глыбіні Расіі, іншыя — расстраляныя і загінулі ў канцлагерах і на франтах. Помнікам ахвярам Першай сусветнай вайны ў Казлоўшчыне я не знайшоў, а вось ахвярам Другой сусветнай вайны — шмат. У самым цэнтры гарадскога пасёлка знаходзіцца брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан. За адзін кіламетр на поўдзень ад пасёлка, справа ад дарогі на Слонім у лесе — магіла ахвярам фашызму, дзе пахаваны 2450 жыхароў пасёлка. Помнікі і магілы ахвярам вайны ёсць яшчэ на вуліцы Леніна і ў парку. Наогул, цэнтральнымі вуліцамі Казлоўшчыны з'яўляюцца вуліцы Леніна, Савецкая, Чырвонаармейская — усё, як было і пры Савецкім Саюзе.

На вуліцы Леніна спыняю мясцовых дзяўчат і пачынаю з імі гутарку. «А што цікавае можна паглядзець у Казлоўшчыне?» —



пытаюся ў іх. Дзяўчаты ўсміхаюцца і кажуць: «Вы, мусіць, пераблыталі Казлоўшчыну з нейкім іншым мястэчкам, бо ў нас няма чаго паглядзець». «Як няма? А вось побач помнік Леніну ў самым цэнтры пасёлка. Ці ведаеце, хто такі Ленін?» — пытаю ў іх. «Трохі ведаем пра яго, але навошта ён нам». «Значыць, у вас тут зусім няма нічога гістарычнага. Так?» — вяду гутарку далей. «О! Успомнілі. Ці бачылі вы стары млын?» — сказалі прыгажуні і паказалі, як мне да яго прайсці. Сапраўды, у Казлоўшчыне захаваўся стары вадзяны млын, пабудаваны ў 1859 годзе.



*Праваслаўны храм у Казлоўшчыне*

А ў самым цэнтры пасёлка ёсць і яшчэ адзін цікавы помнік. Гэта помнік драўлянага народнага дойлідства — Свята-Успенская царква. Яна пабудавана на месцы папярэдняга драўлянага храма ў 1914 годзе…

Калі я пакідаў Казлоўшчыну, адзін з яе жыхароў сказаў, што пасёлак іх утвораны ад прозвішчаў Казёл, Казловіч, Казлоў. «Але нам падабаецца наша Казлоўшчына і жыць у ёй добра. Бо дзе сёння жывецца лепш?..» — шчыра прызнаўся жыхар пасёлка. Ён сеў на ровар і паехаў з торбаю ў «Ручаёк» — знаёмую краму ў гэтым ціхім мястэчку.

*2015, май*

# Пра крыніцу і валуны, якія лечаць людзей

## Дарога да Горкі

На днях патэлефанаваў слонімскі фатограф Уладзімір Янушэвіч і прапанаваў паехаць у вандроўку па Дзятлаўшчыне. «У вёсцы Горка ёсць крыніца і каменная брама. Ці быў ты там хоць раз?» — запытаўся Уладзімір. «Не, не быў, але пра гэтыя валуны чуў», — адказаў я сябру. І мы паехалі.

Вёска Горка знаходзіцца дзесьці ў 22 км ад чыгуначнай станцыі Наваельня. У XIX стагоддзі Горка адносілася да Слонімскага павета і ў ёй налічвалася 25 жыхароў. Цяпер гэта вёска вялікая, і ў ёй пражывае больш за 200 чалавек, хаця ў 1970 годзе тут жыло 330 вяскоўцаў.

Калі мы прыехалі ў Горку, здалёк віднелася праваслаўная Святадухаўская царква. Яна была пабудавана ў выглядзе крыжа ў 1898 годзе, асвечана ў 1900 годзе. У 1960-х гадах у царкве зрабілі склад. І толькі ў 1990-х гадах яе вярнулі вернікам, аднавілі і асвяцілі.

Амаль насупраць царквы ў невялікай хаце жыве Марыя Іосіфаўна Карніенка. Пра царкву, крыніцу і валуны гэтая старэнькая жанчына ведае ўсё. Калі мы завіталі на яе надворак, цётка Марыя венічкам вымятала з ганачка хаты смецце. Убачыўшы нас, жанчына павіталася і спытала, скуль мы і чаго прыехалі. Даведаўшыся пра мэту нашага візіту, Марыя Іосіфаўна сказала: «Да святых мясцін ехаць трэба ў чыстай вопратцы. Таму я хуценька пераапрануся і мы паедзем да крынічкі і камянёў».

## Святая крыніца

Праз некалькі хвілін Марыя Карніенка села да нас у машыну і мы паціху паехалі да крыніцы. Па дарозе жанчына расказвала пра сябе і пра тое, што яна з маленства спявае ў царкоўным хоры, але ўсе называюць яе захавальніцай звычаяў ды гісторыі вёскі Горкі. Спадарыня Марыя распавядала нам, што ў час рамонту адбылося другое нараджэнне другога па ліку храма ў Горцы. «Першая Георгіеўская царква была на могілках і яе будаваў пан Недабітоўскі — я яго помню. Але тую царкву разабрала і аддала савецкая ўлада на хату аднаму чалавеку, бо ён быў бедны. А ў Святадухаўскую царкву тады сыпалі збожжа. Але прыйшоў час і аднавілі Святадухаўскую царкву людзі. Мы ўсе разам збіралі грошы на рамонт. Цяпер я там не прапускаю ніводнай службы. Толькі звон зазвоніць, адразу збіраюся ў царкву, адкладаючы ўсе справы. Я вельмі люблю сваю царкву», — распавядала нам Марыя Іосіфаўна.



Мы прыехалі да крыніцы і са слоў Марыі Карніенкі даведаліся, што некалі крыніца струменіла з-пад карэння старога дуба, але дуб ужо даўно згніў, толькі застаўся пень. Таму жыхары вёскі Горка вырашылі крынічку добраўпарадкаваць. Людзі пабудавалі невялікую альтанку, а там, дзе б'е струмень крыніцы, студню. Цяпер спакойна можна вядзерцам са студні зачэрпнуць святой крынічнай вады і папіць. «Гэта я нядаўна купіла новае вядро, бо крадуць нядобразычліўцы, — кажа Марыя Іосіфаўна. — А раней так не кралі. Хоць у мінулыя дзесяцігоддзі ў нас тут было весела, людна. Людзі раненька бегалі да святой крынічкі памыцца, а таксама ў збаночак набраць вады. Праўда, і цяпер прыязджаюць адусюль па ваду. Нават з Мінску прыязджалі ўдзельнікі ансамбля "Тяни-толкай". Вяскоўцы пытаюцца, чаму гэта да цябе, Іосіфаўна, з усяго свету людзі едуць і ты іх возіш да крыніцы і камянёў, а да нас не. Я ім адказваю, што я — мясцовая жанчына, тут нарадзілася, тут пражыла ўсё жыццё, тут жылі ўсе мае дзяды і прадзеды, а вы — чужынцы, вось таму да вас і не хочуць ехаць».

Мы напіліся крынічнай вады, якая па словах цёткі Марыі, лечыць ад усіх хваробаў, і жанчына-гід павезла нас да валуноў. Па дарозе яна сказала: «Пакуль гэта крынічка будзе плыць, усё ў нас будзе па-божаму...».

## Каплічка

Каб трапіць да камянёў, трэба прайсці па шырокай сцяжыне, паабапал якой месцяцца мясцовыя могілкі. Падымаемся на горку (адсюль, напэўна, паходзіць і назва вёскі), нас сустракае невялічкая драўляная каплічка блакітнага колеру. Паводле мясцовых паданняў, некалі стаяла на гары царква і ляжаў святы камень. Магчыма,

тут было калісьці дахрысціянскае капішча. Паводле некаторых гістарычных крыніц — паганскі могільнік.

Прыносіліся ахвяры, і людзі маліліся сваім багам. Ды і месца тут асаблівае. Забрацца на горку даволі цяжка. Хоць некаторыя даследчыкі лічаць, што тут была сталіца Міндоўга. Але малаверагодна, бо невядома, дзе ён нарадзіўся.

Каплічка дагледжаная, уся ў кветках, хай сабе і штучных, і адчыненая для ўсіх. Менавіта ў каплічцы мы пабачылі розныя абразы. Пад абразамі ёсць надпісы на царкоўнаславянскай мове, а ўнізе, часам не вельмі добра, бачны надпісы па-беларуску — на тарашкевіцы. Напрыклад, «Стрэчаньне». Абразы ў старых рамках пафарбаваныя алейнай фарбай. Як сказала баба Маня, тут каплічку пабудавалі на месцы старой царквы, якая абвалілася.

Калі мы выходзілі з каплічкі, Марыя Іосіфаўна зняла з акенцаў фіранкі і сказала: «Перад Вялікдзенем трэба іх памыць, а пасля прынесці павесіць. У каплічцы павінна быць усё чыста, як у хаце».

## Валуны-волаты

Валуны ляжалі недалёка ад каплічкі. Магчыма некалі гэта быў вялікі камень, які застаўся нам ад ледніковага перыяду. Яго людзі і цяпер называюць валуном-волатам. Але са стагоддзямі гэты валун раскалоўся на тры вялікія камяні і ўтварыў своеасаблівую каменную браму (арку), але вельмі нізкую. Пад камянямі можна прапаўзці. Паміж імі ёсць засохлае старое дрэва, і на камянях расце розная расліннасць. Яны пакрытыя мхом. Людзі вераць, што вільгаць, якая збіраецца на камяні, дапамагае пры захворванні вачэй.

Цяжка паверыць, што гэтую арку было магчыма праехаць на тройцы, бо сёння пралезці ў тую шчыліну нават адзін чалавек можа толькі ў два разы склаўшыся. Ды кажуць, што калі тры разы так пралезці, то ўвесь боль ў спіне як рукой здымае. Пра гэтыя камяні ходзяць розныя паданні, некаторыя нам распавядала і спадарыня Карніенка. Яна расказала, што каменная арка калісьці была высокай і праз яе мог праехаць чалавек на кані. Гэтыя камяні атрымалі добрую славу, бо прыносілі людзям выздараўленне ад хваробаў. Трэба было ў гэта паверыць і праехаць пад камянямі тры разы з малітвай у сэрцы. Аднойчы ў чалавека захварэў сабака, і




*Марыя Карніенка каля валуноў-волатаў*

ён вырашыў вылечыць жывёлу праз камяні. Ён правёў сабаку тры разы, і тады камяні прыселі да росту сабакі. Таму зараз пад камянямі поўзаюць на каленях. Кажуць, што камяні прасядаюць, калі чалавек, што не верыць у іх цудадзейнасць, пралезе пад імі. А яшчэ людзі кажуць, што тыя, хто быў побач з камянямі і казаў, што гэта выдумка пра іх цудадзейнасць, — то іх скручвала хвароба, і пакуль яны не прасілі прабачэння ў камянёў, хвароба не адступала.

Пакуль мы фатаграфавалі камяні, цётка Марыя не пераставала апавядаць тутэйшыя паданні з глыбіні вякоў. «Яшчэ раскажу пра гэты камень. Пётр Першы таксама тут быў. Пад гэтымі камянямі ён свабодна на кані праязджаў. А цяпер камяні апусціліся нізка да зямлі. Некалі яны зусім лягуць на дол. І паводле паданняў павінны прыціснуць двух чалавек, якія шмат награшылі на гэтым свеце», — уздыхнула Марыя Іосіфаўна. Потым жанчына прапанавала мне з Уладзімірам тройчы пралезці пад камянямі — на шчасце. Што мы і зрабілі.

*2012*

# Імянны паказнік

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

**На радзіме Ігната Дварчаніна**

*З краязнаўчых вандровак па Дзятлаўшчыне*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Набор *С. Чыгрына*
Камп’ютарная вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *В. Іваноў*

Падпісана ў друк 21.05.2016. Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ул.-выд. арк. 5,41. Ум. друк. арк. 8,17.
Наклад 99 асобнікаў. Зак. 305.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.